М. М. Чарняўскі

# ІЛЮСТРАВАНАЯ ГІСТОРЫЯ
# СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ



МІНСК "НАРОДНАЯ АСВЕТА" 1997

ББК 63.3(4 Бвы)
УДК 087.5:947.6

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі В. Ждановіча, З. Пазняка, М. Хамца, М. Чарняўскага; малюнкі і рэканструкцыі І. Аўгусты, З. Бурыяна, П. Драчова, Ю. Зайца, А. Котавай, Я. Куліка, М. Чарняўскага.

Аўтар выказвае шчырую падзяку Беларускаму фонду Сораса за дапамогу ў прады над гэтай кнігай.

М. М.

Мн.: Нар. асвета, 1997. 223 с.: іл.

ISBN 985-03-0229-1.

У кнізе ў сціслай і даступнай форме, з выкарыстаннем багатага ілюстрацыйнага матэрыялу, расказваецца пра пакручасты гістарычны шлях Беларусі, пачынаючы ад яе першапачатковага засялення і да эпохі ўсталявання старажытнабеларускай дзяржавы — Полацкага княства.

Адрасуецца вучням сярэдняга школьнага ўзросту, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны.

**ББК 63.3(4 Бвы)**



**ISBN 985-03-0229-1**

## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

*Чалавек без памяці — паталогія. Такі ж хворы і народ, які не ведае свайго мінулага, страціў гістарычную памяць. Народ без такой памяці не мае будучыні. Ён раней ці пазней знікае сярод больш згуртаваных суседзяў. Таму так важна ведаць, адкуль мы на гэтай зямлі, які адолелі шлях, калі перамагалі і дзе памыляліся, каб вопыт продкаў як паходня асвятляў нам кірунак у будучыню.*

*Вытокі гісторыі беларусаў — у цёмнай бездані тысячагоддзяў. Таму здаецца, што сляды мінулых пакаленняў зацерліся ў бяспамяцтве, зніклі назаўсёды. Але ж нічога чалавечага, колісь жывога, не прападае без астатку, нават са старажытнейшых дапісьмовых часоў. Толькі трэба быць уважлівым і дапытлівым, адчуваць душою повязь эпох, і тады зямля пачне адчыняць свае таямніцы, і процісі нагадаюць пра сябе — каменнай прыладай, знойдзенай дзе не будзь на рачным беразе, абломкам глінянага гаршка, стромкімі схіламі гарадзішча, курганамі, здзівяць гармоніяй мураванак, загадкава глянуць вачыма старадаўніх ідалаў. Ну а з пазнейшых стагоддзяў, калі навучыліся пісьмёнам, нават і прамовяць са старонак рукапісаў і першадрукаў. І паўстануць перад табою вобразы даўнія Краю, якому сёння імя — Беларусь.*

**НАПРАДВЕСНІ**




*Каля 500 млн гадоў назад большасць тэрыторыі Беларусі займала мора. Толькі яе паўночна-заходняя ўскраіна заставалася сушай, дзе распасціралася безжыццёвая камяністая раўніна.*

Да таго моманту, як на ўзбярэжжах Дняпра і Прыпяці пралеглі першыя чалавечыя сляды, наш край — яго воблік, клімат, жывёльны і раслінны свет — прайшоў даўжэзны шлях развіцця.

Больш як 0,5 млрд гадоў назад на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўздымаліся магутныя горныя хрыбты, асобныя ўчасткі якіх на вышыні і велічнасці не саступалі сённяшнім Альпам. Шматлікія вулканы, вывяргалі лаву, засыпалі попелам. Землятрусы скаланалі наваколле.

Праходзіў час. Ва да і вецер нішчылі скалы. Горы ператвараліся ў камяністыя безжыццёвыя пустэльні. Апускалася суша, і мора, у якім ужо зарадзілася жыццё, залівала зямлю. Затым яно зноў паступова адступала.

Каля 440 млн гадоў назад перамяшчэнні зямной кары запаволіліся і берагавыя лініі марскіх вадаёмаў сталі больш устойлівымі. Яны праходзілі паміж Мінскам і Маладзечнам, а таксама на захад ад Пінска. Большасць жа тэрыторыі займала раўнінная суша. Яе ўзбярэжжа пачало зарастаць першымі



*Каля 500 млн гадоў назад у моры ўжо існавала жыццё.*



*Каля 400 млн гадоў назад жыццё пачынае з вады перабірацца і на сушу, на ўзбярэжжах з'яўляюцца прымітыўныя расліны і жывёлы.*



*Каля 300-250 млн гадоў назад наш край пакрывалі лясы з гіганцкіх папарацей, хвашчоў. З іх завалаў, занесеных пяском і глеем, месцамі пазней утварыўся каменны вугаль.*



*Сцэна з жыцця гіганцкіх яшчараў каля 200 млн гадоў назад.*



*Брантазаўры — веліканы мезазойскай эры.*



*Яшчары ў мезазойскі час панавалі не толькі на сушы і ў вадзе, але і ў небе.*




*Каля 50-45 млн гадоў назад тэрыторыя Беларусі яшчэ была прыморскім краем з субтрапічнымі лясамі і над прыбярэжнымі пясчанымі пляжамі ўздымаліся пальмы. Пазней мора назаўсёды пакінула нашы землі.*



*Дзінатэрый — далёкі продак сучасных сланоў.*

наземнымі раслінамі. Сярод іх поўзалі земнаводныя, якія ўжо прывыклі на пэўны час пакідаць родную водную стыхію.

Затым мора надоўга адступіла ад межаў Беларусі, каб праз некалькі мільёнаў гадоў затапіць яе амаль поўнасцю. У гэты час панаваў гарачы і вольготны клімат. На невялікай прасторы сушы паміж Берасцем і Гародняй раслі першыя лясы з вялізных папарацей, хвашчоў, дзеразы, у якіх ужо трапляліся скарпіёны і мнаганожкі. На ўзбярэжжах і ў балотах раскашавалі земнаводныя істоты.

Каля 350 млн гадоў назад на поўдні Беларусі адбываюцца разломы і апусканні зямной кары. Зноў залютавалі вулканы. Затым гіганцкая, глыбінёй у 2-5 км, упадзіна на дне мора на працягу мільёнаў гадоў начала запаўняцца асадкавымі пародамі. Сярод іх мы і знаходзім сёння магутныя паклады мінеральных солей.

Неўзабаве пачаўся так званы каменнавугальны перыяд у гісторыі Зямлі (каля 300 млн гадоў назад). Забуялі трапічныя лясы, сярод якіх узвышаліся гіганцкія папараці і хвашчы вышынёй у 30-40 м. У балотах і на прыбярэжжах завалы дрэў заносіліся пяском, заплывалі глеем і з часам ператвараліся ў торф, вугаль, нафту. Каменнавугальны перыяд быў раем для земнаводных. У лясах з'явіліся першыя паўзуны і насякомыя. Сярод апошніх быў і продак сённяшняга прусака.

Важнейшы перыяд для развіцця жывёльнага свету пачаўся 225 млн гадоў назад з наступленыем так званай эры «сярэдняга жыцця» — мезазойскай. Моры зноў то наступалі, то адступалі ад нашай тэрыторыі. У трапічных лясах усё большала хваёвых дрэў — папярэднікаў соснаў і ялін. Пазней пачалі распаўсюджвацца першыя кветкавыя расліны. Лясныя прагаліны пакрыла трава.

Мезазой — эра амаль непадзельнага панавання яшчараў, дыназаўраў, якія былі прашчурамі вядомых нам змей, чарапах, яшчарак і кракадзілаў. Яны запаланілі зямлю і вылучаліся разнастайнасцю памераў, выгляду, спосабаў жыцця — зубастыя драпежнікі і рахманыя траваедныя істоты, хутканогія спрытнюгі і пакрытыя моцнымі панцырамі непаваротлівыя маруды. Неба поўнілася лятаючымі яшчарамі з крыламі, як у кажаноў. Кішэлі імі воды мораў, азёр і рэк. Найбольшыя з яшчараў дасягалі 6 м у вышыню, даўжынёй былі да 30 м, а важыць маглі больш як 50 т.

Аднак сярод гэтых пачвар быццам з фільмаў жахаў ужо шукалі месца пад сонцам, пакуль яшчэ няўпэўнена, першыя птушкі і, што самае важнае, першыя млекакормячыя — сысуны. Менавіта апошнія сталі пачынальнікамі таго кірунку развіцця жывёльнага свету, які прывёў да ўзнікнення чалавека!

Сысуны ўжо не адкладалі яйкі, як паўзуны, а нараджалі дзіцянят жывымі, адразу гатовымі да актыўнага жыцця, і выкормлівалі іх малаком. Яны былі пакуль што прымітыўныя і малапрыкметныя, дробныя ростам і трымаліся да часу за кулісамі «сцэны Жыцця», на якой усе галоўныя ролі займалі яшчары.

Каля 70 млн гадоў назад у гісторыі Зямлі пачынаецца «эра новага жыцця» — кайназойская. Яна працягваецца і сёння.

За час кайназою воблік планеты пачаў паступова набываць знаёмыя нам абрысы. Утварыліся Міжземнае і Чорнае моры, узняліся Альпы, Карпаты і Каўказскія горы. Прыкладна 45 млн гадоў назад мора канчаткова пакінула тэрыторыю Беларусі, і з гэтага часу яна ператварылася ў кантынентальны край.

У пачатку кайназою клімат Беларусі быў яшчэ субтрапічны і над пясчанымі марскімі пляжамі ўздымаліся пальмы. З часам усталяваліся ўмераныя тэмпературы. Трапічныя і субтрапічныя лясы ўсё больш саступалі месца шыракалістым, а на поўначы краю — хваёва-шыракалістым.

У самым канцы папярэдняй мезазойскай эры на ўсім зямным шары за кароткі час вымерлі амаль усе яшчары, а таксама шмат якія сысуны. Знікла і каля паловы кветкавых раслін. Што здарылася? Наконт гэтага існуе шмат меркаванняў. Згодна аднаго з іх — адбылася нейкая касмічная катастрофа, рэзка змяніла клімат. Частка расліннага і жывёльнага свету, асабліва яшчары, не змагла прыстасавацца да новых умоў.

Жыццёвую прастору, якая так нечакана была вызвалена ад яшчараў, у хуткім часе запаланілі самыя разнастайныя сысуны. Сярод іх ужо ў пачатку кайназойскай эры вылучыліся малпападобныя істоты, якія значна пазней развіліся ў розныя віды чалавекападобных малпаў.

Частка з іх паступова начала набываць рысы, характэрныя для будучага чалавека,— ужывала не толькі раслінную, але і мясную ежу, выпрацавала больш прамастаячую паходку, пачала карыстацца палкамі і камянямі.

Нарэшце, каля 2 млн гадоў назад у трапічных зонах Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі з'явіўся першы сапраўдны чалавек, хоць знешне і модна падобны яшчэ на малпу. Ён мог хадзіць, выпрастаўшыся на двух нагах, расколваў камяні і рабіў з іх першыя прымітыўныя нрылады працы, пачаў карыстацца агнём і меў адносна вялікі галаўны мозг. З часам гэта істота навучылаея захоўваць агонь і пераносіць яго з месца на месца, пачала майстраваць з галля і, мабыць, скур прытулкі-павеці ад непагадзі і прыкрываць халодным часам скурамі і цела. Усё гэта дазволіла некаторым групам першых людзей выходзіць за межы трогіікаў і субтропікаў і пасяляцца ў краях з умераным кліматам.



*Царом звяроў ледавіковай эпохі стаў мамант — валасаты слон з гарбом, у якім назапашваўся тлушч на зімовую бяскорміцу, і малымі, каб не адмярзалі, вушамі.*

# КАМЕННЫ ВЕК

## У ПАЛОНЕ ВЕЧНАЙ МЕРЗЛАТЫ



*Карта першапачатковага засялення Беларусы 1 — 4 — месцазнаходжанні крамянёвых вырабаў неандэртальскага чалавека; а, б — Юравіцкая і Вердыжская познепалеалітычныя стаянкі. На поўначы Беларусі адзначана мяжа ледавіка, стрэлкі пункцірных ліній паказваюць шляхі пранікнення плямёнаў паляўнічых на паўночных аленяў.*

Як бачым, зараджэнне і развіццё старажытнейшых людзей адбывалася далека за межамі Беларусі, у краях з цёшіым кліматам. У нас жа наступалі суровыя часы. Пахаладанне, што намецілася яшчэ ў пачатку кайназойскай эры, каля 10 млн гадоў назад, прыкметйа ўзмацнілася. І ў далейшым хвалі холаду ўсё часйей і на больш працяглы час пачынаюць накочвайДа на нашыя землі.

1 млн гадоў назад на планеце пачалася эпоха Вялікіх зледзяненняў. Адпаведна гэтаму на тэрыторыі Беларусі істотна змяніўся жывёльны і раслінны свет. У лясах усё большае месца пачынаюць



*Гурт неандэртальцаў — першых людзей Цэнтральнай Еўропы рушыў у няблізкі шлях.*



*Краманьёнец, што з'явіўся на паўднёвым усходзе Беларусі каля 25 тыс. гадоў назад, ужо быў цалкам падобны на сучасных людзей.*

*Востраканечнік неандэртальца, знойдзены на Гомельшчыне.*





*Валасаты насарог, прабіты коп'ямі. Гравіроўка на камені. Францыя.*



*Паляванне на маманта ратавала чалавека ў суровую ледавіковую эпоху, давала яму мяса, тлушч, скуры, косткі. Таму такое важнае месца выявы маманта займаюць у палеалітычным мастацтве — у гравіроўках, малюнках, скульптурах.*



*Толькі гуртам можна было адолець маманта. Сучасны малюнак.*



*Познепалеалітычны нож-кінжал з рэканструяванай рукаяткай (в. Юравічы Калінкавіцкага р-на).*



*Познепалеалітычныя людзі будавалі сабе хаціны з костак маманта, жэрдак, звярыных скур. Рэканструкцыя.*

займаць хваёвыя пароды дрэў. Сярод іх знаходзілі прытулак і спажыву лясныя быкі, ласі, мядзведзі, ваўкі, коні, бабры. Праўда, трапляліся і нязвыклыя для нас жывёліны — сланы і мастадонты, насарогі. Некаторыя іх віды пачалі паступова прыстасоўвацца да пахаладанняў і пакрывацца густой і доўгай поўсцю.

Асабліва халоднымі перыядамі на гарах Скандынавіі пачыналі ўтварацца магутныя ледавікі таўшчынёй у некалькі кіламетраў. Яны спаўзалі ў ніжэйшыя мясціны, запаўнялі катлавіну Балтыйскага мора, рухаліся на прасторы Паўночнай Еўропы. Перыяды максімальна жорсткага клімату і прасоўвання ледавіка далека на поўдзень, ажно да сучаснага Кіева, змяняліся адноснымі пацяпленнямі. Тады пачыналася раставанне і адступанне ледавікоў. У выніку ад іх зноў вызваляліся вялікія прасторы, якія пакрываліся раслiннасцю, засяляліся жывёламі і птушкамі. У шматлікіх вадаёмах з'яўляліся рыбы. Асабліва моцныя пацяпленні вялі да міжледавікоўяў, калі лёд знікаў нават з горных вяршынь Нарвегіі. І ў любы гэты час спрыяльнага клімату першы чалавек ужо мог трапіць на землі Беларусі.

Аднак наступныя зледзяненні быццам гіганцкім плугам пераворвалі зямную паверхню, поўнасцю мяняючы рэльеф. Шматметровыя адклады пяску, гліны і жвіру закрывалі берагі рэк. Паводкі пры раставанні лёду, якія можна раўняць з патопамі, размывалі і перамолвалі ўсё наваколле. Таму, калі і жыў чалавек на нашай тэрыторыі ў міжледавіковыя часы, сляды яго такога старажытнага знаходжання пакуль што выявіць не ўдаецца.

Прыкладна 90 тыс. гадоў назад пачалося апошняе зледзяненне. Зноў пасунуліся на поўдзень ільды і вечная мерзлата пачала скоўваць зямлю. Месца змешаных лясоў заняла тайга. Нарэшце і яна вырадзілася, саступіўшы прастору тундры. Сярод жывёльнага свету, характэрнага для халодных краёў, асабліва вылучаліся маманты і валасатыя насарогі.

Вось у такіх умовах паступовага наступу ледавіка і адбылося найпершае, вядомае вучоным, пранікненне старажытнейшага чалавека на тэрыторыю Беларусі. Слядоў тагачасных пасяленняў пакуль што не выяўлена. У некаторых мясцінах беларускага Падняпроўя знойдзены толькі адзінкавыя вельмі архаічныя крамянёвыя прылады — вастракі, скрэблы, разакі з тоўстых адшчэпаў. Яны належалі старажытным людзям так званага неандэртальскага тыпу, якія 100-40 тыс. гадоў назад засялялі Еўропу.

З'яўленне гэтых людзей на тэрыторыі Беларусі і распачало нашу гісторыю.

Першажыхары яшчэ істотна адрозніваліся ад нас з вамі — былі црысадзістыя, моцнага складу цела, з пахілым ілбом над выступаючымі надброўямі, са скошаным падбародкам. Аднак яны ўжо распальвалі вогнішчы, каб абагрэцца і засмажыць мяса, умелі будаваць нейкае падабенства жытла, прыкрывалі цела скурамі, з крэменю, костак і дрэва выраблялі неабходныя для працы і палявання рэчы. Неандэртальцы ўжо маглі паразумецца між сабою словамі, што было асабліва неабходна пры калектыўным загонным паляванні. Мелі зародкі рэлігіі, бо памерлых хавалі ў магілах. Каб лепш супрацьстаяць суровым умовам існавання, яны аб'ядноўваліся ў першабытныя статкі, дзе было падначаленне аўтарытэту і моцы важака, пэўнае планаванне заняткаў, асабліва палявання, падзел працы па яго характару паміж жанчынамі і мужчынамі, дарослымі і падлеткамі.

Па невядомых яшчэ прычынах каля 40-35 тыс. гадоў назад неандэртальцы цалкам зніклі. Іх месца занялі людзі так званага краманьёнскага тыпу, якія знешне амаль не адрозніваліся ад сённяшніх еўрапейцаў. У часе паміж 26-23 тыс. гадоў назад краманьёнцы на даволі працяглы час праніклі і на поўдзень Беларусі. Пад шматметровымі пясчанымі наносамі каля вёсак Юравічы Калінкавіцкага і Бердыж Чачэрскага раёнаў археолагі знайшлі дзве стаянкі гэтага часу. Яны адносяцца да позняга перыяду старажытнага каменнага веку — палеаліту (па-грэчаску «палаёс» — старажытны, «літос» — камень).

Раскопкі беларускіх і суседніх позняпалеалітычных паселішчаў дазваляюць даволі поўна ўявіць жыццё іх жыхароў. Марозныя зімы, прахалодныя летнія месяцы — такі быў непрыветны клімат таго часу. Навокал прасціралася бяскрайняя тундра, і толькі ў зацішных нізінах чэзлі хмызняк і карлікавыя дрэўцы. Моцныя халодныя вятры прымушалі людзей будаваць прыземістыя доўгачасовыя жытлы з костак і скур жывёлаў, насіць цёплую скураную

вопратку, безупынна паліць агнішчы — на стаянках выяўлены агромністыя пласты перапаленага касцянога вугалю.

Тагачасныя першабытныя людзі, аб'яднаныя ў мацярынскія родавыя абшчыны, у мел і выраблялі разнастайныя крамянёвыя прылады — вастракі, нажы, скрабкі, разцы, праколкі, а таксама касцяныя — шылы, іголкі, даўбешкі. Асноўным іх заняткам было паляванне на паўночных сланоў — мамантаў. Здабывалі таксама валасатых насарогаў, першабытных быкоў, паўночных аленяў, коней, мядзведзяў, ваўкоў, зайдоў, пясцоў. Збіральніцтва і рыбалоўства былі распаўсюджаны менш. У краманьёнцаў ужо існавалі даволі складаныя сістэмы вераванняў, сярод якіх асаблівае месца займалі культы жывёл, душ памерлых, жанчыны-маці. Развівалася арнаментальнае і выяўленчае мастацтва.

Аднак і другая спроба першабытнага чалавека замацавацца на тэрыторыі Беларусі пацярпела няўдачу. 19-18 тыс. гадоў назад ледавік дасягнуў раёнаў сённяшніх Гродна, Вілейкі, Воршы. Нават летнімі месяцамі на поўдні Беларусі здараліся замаразкі. У такіх невыносна суровых умовах існаванне краманьёнцаў спынілася. Пагаслі на берагах Дняпра і Прыпяці апошнія вогнішчы.

## ПАЛЯЎНІЧЫЯ НА ПАЎНОЧНЫХ АЛЕНЯЎ



*Паўночныя алені на наскальным малюнку познепалеалітычнага часу. Францыя.*

Каля 17 тыс. гадоў назад на ўсёй Зямлі і, зразумела, на Беларусі таксама, пачалося імклівае пацяпленне. Яно, як і папярэдняе пахаладанне, не адбывалася плаўна. Ледавік раставаў, адступаў, але надараліся перыяды ў сотні і тысячы гадоў, калі зноў мацнела сібернае дыханне Поўначы. Тады ледавік прыпыняўся або нават зноў пашыраўся на поўдзень, быццам спрабаваў вярнуць страчанае. Аднак цяпло брала сваё, і праз 7 тыс. гадоў ледавік адступіў да сваёй першапачатковай калыскі — гор Скандынавіі і канчаткова там растаў.

Адступаючы, ледавік пакідаў пасля сябе ўзгоркі гліны і жвіру, раўніны, дзе на дне талых патокаў і шырокіх лагчын адкладаліся пяскі. Зямля яшчэ была мёртвая, з вечнай мерзлатой. Але, чым далей адступаў ледавік, тым усё больш край пачынаў пакрывацца, хоць яшчэ і зусім кволай, тундравай раслiннасцю. Затым густа зазелянелі берагі незлічоных рэк і азёраў. І вось на гэтай тундры, дзе аленевы мох — ягель серабрыў лагодныя схілы ўзгоркаў, з'явілася мноства дзікіх жывёл, і сярод іх найбольш — паўночных аленяў.

Каля 12 тыс. гадоў назад, у самым канцы палеаліту, з ноўдня і захаду на зямлю Беларусі, якая ўжо даўно забылася пра цяпло чалавечага вогнішча, прыйшлі



*Паляўнічы канца палеаліту, узброены лукам са стрэламі і касцяным гарпуном на дрэўку.*



*Тыпы старажытнейшых крамянёвых наканечнікаў стрэл з тэрыторыі Беларусі.*



*Паляванне лучнікаў на аленяў. Наскальны малюнак канца палеаліту. Іспанія.*

плямёны паляўнічых на паўночных аленяў. Гэта было рухавае насельніцтва, якое часта перамяшчалася з месца на месца, бо яго асноўная здабыча мігрыравала. Летам алені адыходзілі на поўнач, бліжэй да берагоў халоднай Балтыкі, дзе можна было ратавацца ад машкары, зімой — пад зацішак лясоў, якія ўжо з'явіліся на ўзбярэжжах Прыпяці.

Асноўнай паляўнічай зброяй новых жыхароў нашага краю стаў лук са стрэламі. Лук — фактычна першае механічнае прыстасаванне, вынайдзенае чалавекам. У ім выкарыстоўвалася энергія пругкага дрэва.

У папярэднюю эпоху, калі галоўнай здабычай былі вялізныя непаваротлівыя маманты, паляванне было пераважна загонным усім чалавечым гуртом, з доўбнямі, камянямі, цяжкімі коп'ямі. Зараз, калі дзічына стала драбнейшая памерамі і хуткаходная, такі спосаб быў далёка не заўсёды эфектыўны. Стала патрэбна забіваць жывёлу на адлегласці. Таму і вынайшлі лук.

Свае кароткачасовыя паселішчы-стаянкі людзі канца палеаліту ладзілі на берагах рэк, непадалёку бродаў і пераправаў аленяў. Жытлом служылі лёгкія збудаванні з жэрдак, крытыя карой і скурамі. Яны нагадвалі пазнейшыя сібірскія чумы.

Пры раскопках такіх стаянак археолагі знаходзяць пераважна крамянёвыя вырабы, змайстраваныя з масіўных адшчэпаў і пласцін. Сярод іх вылучаюцца вялікія лістападобныя наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, нажы. Выгляд знаходак архаічны, грубы, яны яшчэ захоўваюць палеалітычныя традыцыі.

З'яўленне плямёнаў паляўнічых на паўночных аленяў стала трэцяй спробай чалавека засяліць тэрыторыю Беларусі, і, як бачым, паспяховай.

## ТАМУ І ЗАВЕЦЦА ВЕК КАМЕННЫМ



*Крамянёвыя жаўлакі, якія былі сыравінай для выраба прылад працы і зброі ў каменным веку.*

Самыя першыя чалавекападобныя істоты ўжо карысталіся палкамі і косткамі, каб выкапаць ядомыя карані, дастаць з дрэва плод, абараніцца ад звера ці ворага або каб упаляваць дзічыну. Але найбольш эфектыўным быў камень, асабліва востраканечны, заціснуты ў дужай руцэ. У хуткім часе, каб атрымліваць вострыя рэжучыя і сякучыя грані, камяні здаўмеліся разбіваць.

Каля 2 млн гадоў для чалавека камень быў асноўным матэрыялам для выраба прылад працы і зброі. Таму гэты першапачатковы і найдаўжэйшы перыяд чалавечай гісторыі вучоныя і назвалі каменным векам. Аднак за такі працяглы час адбываліся шматлікія і істотныя змены ў жыцці. Удасканальвалася тэхніка апрацоўкі каменю, больш разнастайнымі станавіліся прылады працы, развівалася гаспадарчае жыццё, мяняўся духоўны свет першабытнага грамадства. Адпаведна гэтаму каменны век вучоныя падзялілі на старажытны — палеаліт (скончыўся 10 тыс. гадоў назад), сярэдні — мезаліт (10-6 тыс. гадоў назад) і позні, або новы — неаліт (6-5 тыс. гадоў назад).

Шукаючы розныя прыдатныя гатункі каменю, раскалваючы яго, спрабуючы апрацоўваць, старажытныя



*Старажытны майстар адколвае ад крамянёвага жаўлака пласцінкі.*



*Адбойнік і нуклеус.*



*Магчымыя спосабы выісары, стання востраканечнікаў з бакавой выемкай, якія сустракаюцца на Бердыжскай палеалітычнай стаянцы.*



*Спосабы работы, скрабком і разцом.*



*Спосабы апрацоўкі крэменю.*

людзі яшчэ ў палеаліце заўважылі, што найбольш моцныя і вострыя вырабы атрымліваюцца з крэменю. Яго ж у свеце, у тым ліку і на Беларусі, шмат. Таму не дзіўна, што пераважная колькасць прылад працы і зброі каменнага веку — крамянёвыя.

Пры апрацоўцы крэменю старажытны чалавек карыстаўся рознымі прыёмамі і спосабамі. Аббіўкай ён авалодаў яшчэ ў раннім палеаліце. Такім чынам з буйных канкрэцый — жаўлакоў або абломкаў — атрымліваліся ручныя секачы — рубілы. Таксама і ў пазнейшыя часы, каб вырабіць масіўныя рэчы — сякеры, цёслы, спачатку кавалак нарыхтоўкі фармавалі шляхам аббіўкі. Для такой мэты ўжывалі адмысловыя камяні выцягнутай формы са слядамі мноства ўдараў на канцах.

Большасць драбнейшых прылад выраблялася з адшчэпаў і пласцінак, якія сколваліся з падрыхтаваных адпаведных кавалкаў крэменю, якія археолагі называюць нуклеусамі. З краёў такіх нарыхтовак спецыяльнымі рэтушорамі здымалі маленькія лусачкі каменю — рэтушавалі. Такім чынам рэжучыя і колючыя часткі вырабаў атрымлівалі зубчастасць, як у сярпа.

К самаму канцу старажытнага каменнага веку была выпрацавана большасць тыпаў крамянёвых вырабаў. Гэта былі наканечнікі стрэл і коп'яў, разцы, скрабкі і скобелі, праколкі, нажы і кінжалы, сякеры і цёслы.

Найбольш шматлікую групу вырабаў каменнага веку складаюць нажы. Для іх выкарыстоўваліся розныя пласцінкі крэменю і нават адшчэпы. Вастраканечныя рэтушаваныя пласціны маглі ўжывацца як кінжалы. Другая па колькасці група вырабаў — скрабкі. Гэта былі пласцінкі, або адшчэпы, у якіх прыкруглены канец апрацоўваўся стромка рэтушшу. Скрабкі служылі пераважна для здзірання мяздры са скуры, з якой шылі вопратку. Для гэтага ж маглі прымяняцца і большыя падобныя прылады — скрэблы. На палеалітычных стаянках асабліва шмат розных крамянёвых разцоў, якімі апрацоўвалі касцяныя рэчы. Звяртае ўвагу, што іх форма моцна нагадвае сучасныя металічныя. Праколкі майстраваліся з вастраканечных пласцінак і адшчэпаў. Яны былі незаменныя пры сшыванні скураў. Асабліва вылучаюцца разнастайнасцю і дасканаласцю выканання наканечнікі

стрэл. У канцы старажытнакаменнага веку і ў пачатку мезаліту яны былі лістападобныя, часам мелі выгляд востраканечнай пласцінкі з рэтушаваным скосам.

Крамянёвы наканечнік з'яўляўся важнай часткай тагачаснай зброі — лука. А ён з канца палеаліту стаў незаменнай прыладай на паляванні, да таго ж вельмі эфектыўнай. З моцнага лука можна было выпускаць стрэлы з вялікай сілай, дастатковай для паражэння нават буйной жывёліны. Пры гэтым трэба зазначыць, што калі кінутае кап'ё пралятае звычайна 40-50 м, то страла — далека за 100. Так, напрыклад, далёкасць бою з вялікага індзейскага лўка дасягае да 450 м. З эскімоскага лука на невялікай адлегласці алень прабіваецца стралой наскрозь, а індзеец з племені апачаў тое ж мог зрабіць з чалавекам за 300 м.

# МЕЗАЛІТ — СЯРЭДНІ КАМЕННЫ ВЕК




*Характэрныя тыпы крамянёвых мезалітычных вырабаў з тэрыторыі Беларусі: 1, 2 — раннемезалітычныя наканечнікі стрэл; 3, 5, 6 — вастрыі-ўкладышы ў стрэлы, гарпуны і кінжалы; 4 — скрабок; 7 — скобля для загладжвання дрэўкаў стрэл; 8 — сякера.*

10 тыс. гадоў назад скончылася ледавіковая эпоха і наступіў сярэдні каменны век — мезаліт (пагрэчаску «мезос» — сярэдні). Клімат пачаў цяплець, а раслінны і жывёльны свет паступова стаў падобным на сучасны. Асабліва пацяплела ў канцы мезаліту, 6 тыс. гадоў назад.

З пацяпленнем паўночныя алені адступілі далёка на поўнач. У след за імі накіравалася і значная частка насельніцтва, што спецыялізавалася на паляванні за гэтымі тундравымі жывёлінамі. Іншыя ж групы паляўнічых пачалі прызвычайвацца да ўмоў жыцця сярод лясоў, якія ўсё гусцей пакрывалі тэрыторыю Беларусі.

Напачатку цяжка прасачыць істотныя адрозненні паміж матэрыяльнай культурай раннемезалітычных жыхароў і іх папярэднікаў. Толькі наканечнікі стрэл набылі меншыя памеры і апрацоўваліся значна лепш. Аднак у познім мезаліце ўсё ж адбыліся істотныя змены. Па нейкіх прычынах жыхары стаянак пачалі выкарыстоўваць мноства рэтушаваных дробных крамянёвых вырабаў геаметрычнай формы. З іх складаліся рэжучыя і колючыя часткі



*Спосабы мацавання у якасці наканечнікаў стрэл крамянёвых укладышаў.*



*Матыка і сякера мезалітычнага часу з рагоў высакароднага аленя.*



*Мезалітычныя касцяныя вырабы: наканечнік і кінжал з крамянёвымі ўкладышамі ў пазах (Палессе), гарпун (паўднёвая Літва пры беларускім памежжы).*

*Чалавек мезалітычнай эпохі. Рэканструкцыя па чэрапе.*





*Тыпы мезалітпычных жытлаў. Рэканструкцыі па даных археалагічных раскопак.*

састаўных прылад і зброі — касцяных кінжалаў, гарпуноў, наканечнікаў, коп'яў. Крамяні ўстаўляліся ў выразаныя пазы касцяной асновы і замацоўваліся клеем. Акрамя таго, шырока сталі ўжывацца і далкам касдяныя рэчы, асабліва наканечнікі стрэл, матыкі, сякеры.

Распаўсюджанне дробных крамянёвых вырабаў хутчэй за ўсё звязана з перасяленнем на тэрыторыю Беларусі з поўдня і паўднёвага захаду новага насельніцт'ва, гаспадарка і побыт якога былі звязаны з паляваннем на лясную дзічыну, вадаплаўную птушку. Абарыгены з пласцінчатымі наканечнікамі стрэл вымушаны былі ўступаць частку сваіх уладанняў больні шматлікім находнікам.

Раннемезалітычны чалавек, як і палеалітычны, большасць харчу меў з палявання. Ва ўмовах цёплага клімату, пры наяўнасці незлічонага мноства азёраў, густой сеткі рэк і рэчак, істотнае значэнне набывае і рыбалоўства. Рыбу пачынаюць здабываць не толькі гарпунамі, але лавіць вудамі з касцянымі кручкамі. З'явіліся ў мезаліце і найбольш эфектыўныя рыбацкія прыстасаванні — плеценыя з лубяных валокнаў сеткі. Шырока выкарыстоўваліся і розныя пасткі з прутоў тыпу бучаў. З мезалітычнага часу вядомы і находкі першых выдзеўбаных з камля дрэва чаўноў.

Шмат вільгаці і цяпла стварыла максімальна спрыяльныя ўмовы для развіцця расліннасці. Непраходныя лясы дакрылі наш край. Многія мелкія азёры інтэнсіўна зараёталі і ператвараліся ў балоты. Сярод такой разнастайнай расліннасці знаходзілася спажыва і для чалавека — лісты, сцёблы, некаторыя карані і асабліва плады. Мяркуючы на знаходках з тарфянікавых стаянак, дзе захоўваюцца рэшткі з арганічных рэчываў, асабліва шмат збіралі людзі лясных і вадзяных арэхаў. На жаль, апошнія сёння амаль вывеліся з беларускіх азёр. На зіму рабіліся багатыя запасы з самых розных ягад і сушаных грыбоў. Збіралі таксама ядомыя малюскі і свежыя птушыныя яйкі, асабліва качак і гусей.

Калі ў палеаліце збіральніцтва мела толькі зачаткавыя формы, то ў мезаліце назіраецца яго росквіт. Мабыць, з гэтым заняткам маюць сувязь знаходкі пад Смаргонню цэлай серыі матык з рагоў лася з прасвідраванымі для рукаятак адтулінамі.

# НЕАЛІТ —
# НОВЫ КАМЕННЫ ВЕК




*Карта рассялення неалітычных плямёнаў на тэрыторыі Беларусі: 1 — дняпроўска-данецкай; 2— верхнедняпроўскай; 3 — нёманскай; 4 — нарвенскай; 5 — шарападобных амфар; 6 — грабеньчатаямкавай керамікі культур.*

6 тыс. гадоў назад (у IV тысячагоддзі да н. э.) у гісторыі першабытнага наеельніцтва Беларусі распачаўся заключны этап каменнага веку — новы каменны век, або неаліт (пагрэчаску «неос» — новы). Ён працягваўся каля 2 тыс. гадоў і характарызаваўся важнымі зменамі ў жыцці нашых продкаў. У неаліце навучыліся ляпіць гліняны посуд, пачалі вырабляць больш дасканалыя шліфаваныя каменныя прылады працы, прыступілі да здабычы крамянёвай сыравіны шахтавым спосабам. Аднак важнейшым дасягненнем гэтага этапу стала зараджэнне і распаўсюджанне земляробства і жывёлагадоўлі. Такія кардынальныя зрухі ў гаспадарцы ў сваю чаргу паўплывалі не толькі на матэрыяльную, але і на духоўную культуру насельніцтва, на ўзаемаадносіны паміж людзьмі, на іх светапогляд і вераванні. Яны ж выклікалі і прыкметны рост колькасці



*Від на рэшткі неалітычнай стаянкі каля в. Русаковічы Стаўбцоўскага р-на. На прынёманскім узвышэнні бачны археалагічны раскоп.*



*Неалітычныя рыбакі. Малюнак па матэрыялах стаянак Крывінскага тарфяніку.*



*Спосабы здабычы агню ў старажытныя часы.*



насельніцтва, якое ўжо магло харчавацца не толькі за кошт навакольнай прыроды, але і само гадавала статкі — жывыя запасы мяса і вырошчвала на палях акультураныя расліны.

Мезалітычныя стаянкі на тэрыторыі Беларусі сустракаюцца не часта. Можна цэлы дзень ісці берагам Немана або Дняпра і знайсці толькі пару месцаў пасялення тагачаснага чалавека. Аднак там жа сустрэнеш да дзесятка большых і меншых стаянак новага каменнага веку з мноствам знаходак. Нярэдка яны ўтвараюць вялікія групы ў некалькі паселішчаў. У пошуках месцаў для жыцця неалітычны чалавек пачаў асвойваць берагі і меншых рачных і азёрных вадаёмаў.

Мы не ведаем, ці адбылося ў пачатку неаліту пранікненне нейкага новага насельніцтва на тэрыторыю Беларусі. Мяркуючы па крамянёвых вырабах, хутчэй за ўсё мясцовае спрадвечнае жыхарства само паступова ўспрымала ад сваіх паўднёвых і паўднёва-заходніх суседзяў усё тое, што было характэрнае для новакаменнага веку.

## НА ПОЛІ І У ЗАГОНАХ ДЛЯ ЖЫВЁЛЫ



*Рагавыя матыкі з тарфянікавай стаянкі каля в. Зацэнне Лагойскага р-на.*

На Беларусі невядомы дзікарослыя расліны, якія чалавек мог бы акультурыць з карысцю для сябе. Яны раслі далека на поўдні — у Міжэемнамор'і, на Блізкім Усходзе. У гэтых краях насельніцтва, якое размножылася, ужо ў познім мезаліце задумвалася аб дадатковых крыніцах харчавання, бо шмат дзе лясы з дзічынай бы л і знішчаны ды і з-за інтэнсіўнага збіральніцтва зменшылася колькасць ядомых дзікароелых раслін. Па гэтай прычыне людзі пачалі аберагаць і даглядаць участкі зямлі з дзікай пшаніцай і ячменем, цыбуляй і іншай зелянінай. Здаўна прыкмеціўшы, як яны размнажаюцца, з часам пачал! наўмысна высяваць у рыхлую зямлю зярняты, высаджваць саджанцы.

У V — IV тысячагоддзях да н. э. уменне вырошчваць расліны распаўсюдзілася і на поўдзень Еўропы. У сярэдняй жа паласе і больш на поўнач, дзе



*Так выглядалі земляробы і жывёлаводы паўднёвай Беларусі і Украінскага Падняпроўя ў неалітычны час. Рэканструкцыя па чэрапе.*



*Старажытныя сярпы з крамянёвымі лёзамі і Эраўлянымі або касцянымі рукаяткамі.*



*Позненеалітычныя прылады працы для ручной апрацоўкі зямлі. Прыбалтыка.*



*Позненеалітычная вёска ў Цэнтральнай Еўропе. Рэканструкцыя*

яшчэ было мноства дзічыны і рыбы, новыя формы гаспадарання прыжываліся павольней. У іх яшчэ не было асаблівай патрэбы. Аднак з часам і нашы продкі пачалі далучацца да земляробчай справы.

Асноўнымі зерневымі культурамі неалітычнай Еўропы былі пшаніца і ячмень. Пры гэтым больш халодная Беларусь была прыдатнейшая менавіта для ячменю.

Спачатку пад пасевы побач з хацінамі на стаянках займалі невялікія ўчасткі зямлі. Яны напаміналі сённяшнія агародныя градкі. Глебу рыхлілі завостранымі каламі, рагавымі матыкамі, якія насаджваліся круглымі прасвідраванымі адтулінамі на рукаяткі, матыкамі драўлянымі. У познім неаліце, з большым пашырэннем земляробства, пачалі выпальваць і высякаць лясы, расчышчаючы месцы пад сапраўдныя палі.

Спелы ячмень можна было на градцы зрэзаць і звыклым крамянёвым нажом. З развіццём жа земляробства, калі пад пасевы сталі адводзіць значныя плошчы, нажы пачалі рабіць больш зручнай серпападобнай формы. Пераціраючы зрэзаныя каласы, з іх здабывалі зерне, якое затым перамолвалася на плоскіх камянях.

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці здараліся, мабыць, выпадкі прыручэння дзіцянят забітых лясных жывёл. Так з часам некаторыя звяры прызвычаіліся жыць каля чалавечага жылля. У мезаліце, а можа і раней, сталі свойскімі сабака і кот. У новым каменным веку многія жывёлы сталі настолькі асвойтанымі, што пачалі размнажацца ў няволі, у загарадзях. Гэта ўжо было сапраўднай жывёлагадоўляй.

Вядома, што жывёлагадоўля, як і земляробства, спачатку зарадзілася таксама ў паўднёвых землях. Аднак і ў Еўропе здаўна вадзіліся дзікія свінні, быкі-туры, козы, коні. Так што асвойтванне іх магло адбывацца нават і на нашай тэрыторыі. Як бы там ні было, але позненеалітычны жыхар Беларусі ўжо гадаваў коз і авечак, кароў, коней, свіней. Пільнаваць статак яму дапамагаў сабака.

Вырошчванне раслін дазволіла чалавеку ствараць дадатковыя і, як правіла, пастаянныя запасы ежы, асабліва зерневай. Акрамя таго, сцёблы лёну і каноплі ішлі на выраб нітак для тканіны і шыцця. Салома служыла падсцілкай жывёле. Ёй жа маглі накрываць і стрэхі хацін.

Такімі ж пастаяннымі «хадзячымі» запасамі ежы мясной стала свойская жывёла. Да яе чалавек звяртаўся, калі паляванне на дзікіх звяроў было няўдалым або знікала ў бліжэйшых вадаёмах рыба. Анрача таго, скуры прыручаных жывёлін ішлі на выраб вопраткі, воўна авечак для нітак, для вырабу розных прылад выкарыстоўваліся рогі і косткі. Конь, між іншым, ужываўся і як цяглавая сіла.

Збіральніцтва дароў прыроды было перайажна заняткам жанчын. Яны ж, відаць, і сталі старажытнейшымі земляробамі. А паколькі жывёлагадоўля зарадзілася з палявання, то галоўным «спецыялістам» на ёй, першым пастухом стаў менавіта мужчына.

Вытворчыя формы гаспадарання — земляробства і жывёлагадоўля значна папоўнілі запасы ежы, якія чалавек атрымліваў з традыцыйных прысвойваючых палявання, рыбалоўства і збіральніцтва. Ён стаў менш залежным ад літасцяў прыроды, яго харчаванне зрабілася больш разнастайным, здань голаду радзей зазірала ў хаціны. Зблізкуназіраючы за развіццём раслін і жывёл, старажытны чалавек глыбей пранікаў у таямніцы жыцця і смерці, лепш пазнаваў жывую прыроду, узаемасувязь зямных і нябесных з'яў.

## З КРЭМЕНЮ, КОСТАК І РАГОЎ



*Крамянёвая сякера з Панямоння.*

Неалітычны чалавек ужо меў за сабой вопыт многіх пакаленняў крэменеапрацоўшчыкаў яшчэ са старажытнага і сярэдняга каменнага вякоў. Зараз ён удасканальваў тэхніку вырабу прылад працы, надаваў ім больш закончаную форму, вынайшаў і некаторыя невядомыя раней тыпы вы раба ў.

Пры раскопках неалітычных стаянак шмат сустракаецца разнастайных скрабкоў. Аднак найбольш распаўсюджанай прыладай робіцца нож. Ён меў універсальнае прызначэнне. Іт можна было рэзаць, калоць, скрэбці, рабіць адтуліны ў скуры або дрэве і нават жаць збажыну. Нож быў незаменны пры расчляненні туш упаляваных звяроў, для зняцця скуры. Без яго не абыходзіліся і пры апрацоўцы дрэва. А вось крамянёвых разцоў, якіх так многа было, напрыклад, у палеаліце, на стаянках новакаменнага веку, асабліва позніх, менш. Мабыць, у кастарэзнай справе іх таксама мог замяніць нож.



*Крамянёвыя вырабы з неалітычных стаянак Панямоння і Падняпроўя: праколка, наканечнікі стрэл і кап'я, разец, скрабкі, нажы.*



Крамянёвы нака-нечнік кап'я з Крывінскага тарфяніку Бешанковіцкага р-на.



Рагавыя сякеры з в. Асавец. Крывінскі тарфянік.



Касцяныя наканечнікі стрэл з тарфянікавых стаянак паўночнай Беларусі.



Касцяныя шылы. Крывінскі тарфянік.



*Касцяныя кінжалы са стаянак Зацэнне і Асавец.*



*Касцяныя гарпуны з Зацэння (ранні неаліт) і Асаўца (позні неаліт).*

Лук і стрэлы былі важнейшай паляўнічай зброяй неаліту. Аб гэтым сведчаць шматлікія знаходкі крамянёвых наканечнікаў стрэл і разнастайнасць іх формаў. Неалітычнае насельніцтва Падняпроўя і Падзвіння да апераных дрэўкаў мацавала кароткія лістападобныя і рамбічныя вастрыі розных памераў, якія былі асабліва прыдатныя для палявання на дзічыну і птушак. На Палессі і Панямонні ўжывалі трохкутныя наканечнікі, а ў канцы новакаменнага веку — сэрцападобныя з зазубнямі. Гэта ўжо была зброя не толькі на звера, але і на непрыяцеля-чалавека. Ранены мог выдягнуць дрэўка, але само вастрыё чаплялася за мышцы і заставалася ў целе, прыносячы пастаянныя пакуты.

Мабыць, кожны мужчына-паляўнічы і воін меў пры сабе і кап'ё. Яно ўяўляла сабой доўгае дрэўка з прымацаваным на канцы крамянёвым наканечнікам. Цікава, што на тарфянікавых стаянках часам сустракаюцца цалкам драўляныя коп'і.

Калі ў папярэдні час сякеры выкарыстоўваліся пераважна для таго, каб высекчы жэрдку для хаціны або дрэўка для кап'я, то зараз запатрабавалася расчыетка лесу і хмызняку пад палі і пашы. Таму сякеры пачалі вырабляць у вялікай колькасці. Іх форма і апрацоўка ўсё больш удасканальваліся. Рубячыя прылады са скошаным лязом служылі цёсламі. Імі выдзёўбваліся драўляныя ёмістасці і асабліва — чаўны.

У познім неаліце лёзы сякер і цёслаў часам пачалі прышліфоўваць. Некаторыя ж групы насельніцтва заходняй Беларусі ў гэты час карысталіся цалкам зашліфаванымі рубячымі прыладамі і долатамі.

Ад самых пачаткаў сваёй гісторыі чалавек адначасова з каменем выкарыстоўваў косці і рогі. Там, дзе былі багатыя запасы крэменю, гэтыя арганічныя матэрыялы захоўвалі дапаможнае значэнне. Аднак у краях, як Беларускае Паазер'е, бедных крэменем, з рагоў і костак майстраваліся самыя розныя прылады працы і зброя, бытавыя рэчы.

З кавалкаў трубчастых костак буйных жывёл рабілі разнастайныя наканечнікі стрэл, шылы, гарпуны. Вялікія косткі выкарыстоўваліся і для кінжалаў, наканечнікаў коп'яў, прыстасаванняў для абкорвання дрэва. Асабліва масіўныя завостраныя косткі служылі пешнямі для падлёднай лоўлі рыбы. Выкарыстоўвалі і надзвычай моцныя іклы дзіка. Адшчэпленыя ад іх пласціны з эмаллю, адпаведна апрацаваныя, былі праколкамі і адмысловымі нажамі для рэзання рыбы і ачысткі яе ад лускі.

Шырокае прымяненне знаходзілі і рогі, асабліва аленевыя і ласіныя. З іх рабілі тыя ж кінжалы, гарпуны, а таксама рыбацкія кручкі. Асабліва шмат на тарфянікавых стаянках сустракаецца рогавых сякер, долатаў і матык.

Ну і зразумела, як шырока неалітычны чалавек выкарыстоўваў дрэва. Гэта было паліва. Яно ішло на будаўніцтва хацін, з яго рабілі дошкі, посуд, рукаяткі і дрэўкі. З дрэва ж выдзёўбвалі чаўны, рабілі вёслы. З прутоў майстравалі пасткі для рыбы, плялі кошыкі. Ды і для чаго толькі не выкарыстоўвалі дрэва! Ужывалася і кара — для посуду, паплаўкоў для сетак.

## ПЕРШАБЫТНЫЯ ГАНЧАРЫ




*Тыповыя формы неалітычных гаршкоў Беларусі. Карта-схема.*

Адным з найважнейшых дасягненняў новакаменнага веку было вынаходніцтва глінянага посуду — керамікі. Пэўна, і ў папярэдні час меліся выдзеўбаныя з дрэва, сплеценыя з лубу ці дубцоў або зробленыя з бяросты ёмістасці. Але ў раннім неаліце асаблівага росквіту дасягнула збіральніцтва расліннай ежы. Пазней распачалося земляробства і стала неабходна гатаваць — варыць сцёблы, карані і асабліва зерне, бо такая ежа ў сырым выглядзе чалавекам засвойваецца цяжка. Вось гэты клопат і накіраваў чалавечы розум на вынаходніцтва посуду, які б не гарэў на агні. І нічога лепшага наш першабытны продак не мог прыдумаць, як толькі гліняны гаршчок. Але як ён да гэтага даўмеўся, мы можам толькі здагадвацца.

Чалавек яшчэ на пачатку сваёй гісторыі заўважыў пластычныя асаблівасці сырой гліны і здольнасць яе пры высыханні захоўваць набытую форму. Магчыма, у нейкі час людзі пачалі замазваць шчыліны ў сваіх плеценых начыннях. І калі такія драўляна-гліняныя пасудзіны траплялі ў агонь, дрэва выгарала, а гліна рабілася цвёрдай, як камень. Потым сталі ляпіць начынне толькі з гліны, абпальваючы яго на вогнішчы.





*Спосабы вырабу керамікі па этнаграфічных даных: 1 — спіральнастужкавы (Новая Гвінея); 2 — кальцавы налеп (Афрыка).*



*Абломак брыжа позненеалітычнага гаршка з Панямоння.*



*Складаныя формы арнаментаў на keраміцы мяжы неаліту і бронзавага веку.*

Гліну для гаршка рыхтавалі доўга і адмыслова. Яе спачатку прамарожвалі, размякчалі і пераціралі. Затым дамешвалі розныя дабаўкі, каб не была асабліва тлустая і не трэскалася пры абпале. У пачатку неаліту дабаўлялі тоўчаную кару, здробненыя ракавінкі малюскаў. Пазней падсыпалі пясок, жарству, дробна патрушчаныя чарапкі старога посуду — шамот.

Звычайна гаршкі ляпіліся з шырокіх і тонкіх гліняных стужак, якія на стыках змацоўваліся зазубленай драўлянай або касцяной лапаткай. Затым паверхні сценак раўняліся, разгладжваліся, каб выраб выглядаў акуратным і прыгожым. Часам яны нават глянцаваліся.

Амаль увесь неалітычны посуд Беларусі вастрадонны. Такая дзіўная форма стане зразумелай, калі ведаць, што страва гатавалася на адкрытых агнішчах-вогнішчах. А на палаючым галлі вастрадонная форма найбольш устойлівая.

У раннім неаліце гаршкі мелі выпуклы яйкападобны корпус і, як правіла, крыху звужаны верх. Пазней назіраецца большая разнастайнасць формаў. З'яўляюцца пасудзіны з шыйкамі, міскі, кубкі, мініяцюрныя вырабы, амфары.

Практычна ўвесь гліняны посуд быў арнаментаваны. Пад верхам гаршкі аздабляліся поясам глыбокіх круглых ямак, або наколаў. Сценкі-бакавінкі ўпрыгожваліся адбіткамі грабеньчатых і пласцінчатых штампаў, наколамі, пракрэсленымі рысамі. Сустракаліся і іншыя элементы арнаменту. Калі ў раннім неаліце ўзоры на гаршках былі даволі сціплыя, то пазней большасць вырабаў пакрывалася разнастайнымі кампазіцыямі ад брыжа ажно да самага дна.

Вылепіўшы патрэбныя пасудзіны, арнаментаваўшы па яшчэ сырых сценках, іх патрэбны час высушвалі ў цені і толькі потым абпальвалі. Абпал рабіўся на вогнішчах, таму быў няякасны, крохкі. Посуд трэскаўся і часта біўся. Але на яго выраб так шмат затрачвалася часу, што нярэдка пашкоджаныя гаршкі рамантаваліся — «сшываліся» з дапамогай прасвідраваных адтулін па краях трэшчын, бяросты і лубяных або суконных нітак.

Большасць гаршкоў ужывалася для гатавання стравы, як раслiннай, так i мясной. Пра гэта сведчыць нагар на ўнутраных паверхнях некаторых абломкаў. Малыя пасудзiнкi былi для iндывiдуальнага спажывання вадкасцей. Аднак выраблялiся i вялiкiя гаршкi да паўметра ў дыяметры. Яны служылi для захоўвання жалудоў, арэхаў, ягад i iншых прыпасаў. Лодкападобныя мелкiя мiсачкi маглi служыць каганцамi-свяцiльнiкамi.

На некаторых керамiчных вырабах засталiся адбiткi пальцаў. Яны належалi жанчынам. I гэта цалкам зразумела. Менавiта жанчыны найбольш займалiся збiральнiцтвам i зачаткавым земляробствам, яны гатавалi раслiнную страву. Таму яны i сталi вынаходнiкамi керамiкi, першымi ганчарамi.

## ПАСЕЛІШЧЫ І ЖЫТЛЫ



*Від на тарфянікавую стаянку каля в. Асавец. Культурныя напластаванні з рэштакамі жыццядзейнасці першабытнага чалавека, што захаваліся пад тарфяной тоўшчай, перарэзаны каналам.*

Як і ў папярэднія часы, чалавек новакаменнага веку туліўся да вады. Гэта быў натуральны шлях зносін паміж непраходных зараснікаў і балот. Вада з'яўлялася крыніцай рыбы, шмат якіх ядомых раслін. Каля яе трымаліся птушкі, былі звярыныя вадаіюі, ды і для такіх простых чалавечых патрэб, як напіцца або згатаваць страву, была неабходна вада.

Археолагі пры раскопках неалітычных стаянак знаходзяць тоўстыя напластаванні з рэшткамі жыццядзейнасці тагачаснага чалавека: зямля цёмная ад вугалля і попелу, перагніўшага дрэва, костак і, наогул, рознага смецця. Стала больш каменных і касцяных знаходак, мноства чарапкоў бітага і патрушчанага посуду. Усё гэта сведчыць, што жыццё ў новакаменны час было больш уладкаванае, людзям не трэба было, як раней, усімі сем'ямі і родамі перамяшчацца з месца на месца ў пошуках здабычы. Палявалі тады на аселую лясную дзічыну, лавілі рыбу ў здаўна вядомых мясцінах — затоках, старыцах, вусцях рэк. Да таго ж, з'яўленне земляробства і жывёлагадоўлі яшчэ больш прывязвала жыхароў да наседжаных куткоў. І толькі нейкія надзвычайныя абставіны (мор лясной жывёлы або




*Схема размяшчэння паселішчаў каменнага веку каля вусця р. Моўчадзь у Панямонні: 1 - канца палеаліту, 2 – мезазалітычныя, 3 – неалітычныя.*



*Малюнак-схема размяшчэння стаянак на колішнім Крывінскім возеры*



*Школьнікі Дабрыгорскай школы на археалагічных раскопках ранненеалітычнай стаянкі на краі Крывінскага тарфяніку.*



*Абломак дошкі, чэсанай каменнай сякерай (в. Асавец).*



*Завостраныя каменнымі сякерамі калы, ад збудаванняў на стаянцы Асавец.*

рыбы, эпідэміі, націск мацнейшых і больш ваяўнічых суседзяў) вымушалі людзей шукаць новыя месцы пражывання.

Людзі, асабліва ў канцы неаліту, атрымліваючы больш харчавання ад земляробства і жывёлагадоўлі, размножыліся. Паселішчы іх сталі гусцей сустракацца на берагах вадаёмаў. Пры гэтым у асабліва зручных месцах былі цэлыя групы стаянак. Мусіць там жылі роды, аб'яднаныя ў плямёны.

Характэрна, што чалавек найбольш ахвотна сяліўся на пясчаных узвышшах. На пяску было сушэй і цяплей, здаравей для жыцця. А вось гліняных берагоў не любілі. Дажджом там гразка, сухменем — як на камені.

Самі стаянкі-вёсачкі былі адносна невялікія. Складаліся найчасцей з двух-трох хацін.

На поўдні Беларусі часам будавалі неглыбокія падчатырохкутныя або круглыя паўзямлянкі, паверх якіх з жэрдак, галля і кары ладзіліся стрэхі. У жытлах знаходзіліся адкрытыя агнішчы-кастрышчы. Яны служылі для абагравання і гатавання стравы. Летнім часам карысталіся агнішчамі, размешчанымі каля жытла.

Аднак найчасцей жытлы былі наземныя. Іх рэшткі знойдзены на тарфянікавых стаянках паўночнай Беларусі. Аснову такіх хацін складаў шэраг вертыкальна ўвагнаных у зямлю даволі тоўстых слупоў з развілінай-расохай уверсе. У расохі клалася гарызантальная жэрдка-кладзь. Затым да яе з двух бакоў прыстаўляліся нахіленыя жэрдкі, замацаваныя ў зямлі завостранымі канцамі. Да жэрдак прымацоўваліся гарызантальна тонкія папярэчыны-латы. Так утвараўся каркас страхі, якая была адначасова і сценамі. Каркас пакрываўся карой і трыснягом.

Кожнае жытло ўсярэдзіне мела агнішча-кастрышча. Аднак некаторыя стаянкі размяшчаліся на забалочаных берагах, і людзі здаўна былі знаёмыя з неўтаймаванай стыхіяй тарфяных пажараў. Таму агнішчы рабіліся адмысловыя. З пластоў яловай або сасновай кары над торфам рабілася шырокая пляцоўка. На яе насыпалі тоўсты пласт пяску — тэрмаізаляцыю. І вось на такой падсыпцы і запальвалі агонь. Побач з агнішчамі сустракаюцца патрушчаныя пасудзіны, паламаныя або згубленыя рэчы, косткі і featured рознае смецце.

## МІЖ АЗЁР І РЭК



*Тыповыя гліняныя гаршкі нёманскай культуры.*

У першай палове новага каменнага веку сітуацыя на Беларуеі выглядае стабілізаванай. Сплылі ў вечнасць часы, калі неспакойныя сціжмы паляўнічых пасляледавіковай эпохі перамяшчаліся, сутыкаліся ў супрацьстаянні, перамешваліся на бяскрайніх прасторах паміж Прыпяццю, Дняпром, Волгай і Балтыйскім морам. Зараз кожнае племя або групы блізкароднасных плямёнаў займалі пэўныя тэрыторыі, што ўключалі пераважна буйныя рачныя басейны. Межамі такіх племянных уладанняў былі, як правіла, малапраходныя залесеныя водападзелы або балоцістыя прасторы.

Мы ніколі не даведаемся, як называліся тагачасныя плямёны, і толькі можам гадаць, на якой мове размаўлялі, ды і як самі выглядалі — у большасці выпадкаў невядома. Аднак археолагі заўважылі, што на пэўных тэрыторыях рэшткі жыццядзейнасці старажытнага чалавека, якія адносяцца да канкрэтнага прамежку часу, маюць паміж сабой больш-менш агульныя рысы. Падабенства можа быць у тыпах прылад працы, характары домабудаўніцтва, пахавальным абрадзе. Але найбольш яно праяўляецца ў формах і асабліва арнаментацыі керамікі. Вось такія рэшткі з агульнымі рысамі вучоныя аб'ядноўваюць у археалагічную культуру.

-



*Малюнак-рэканструкцыя жытла, рэшткі якога знойдзены пры раскопках стаянкі Асавец.*



*Гліняны посуд дняпроўска-данецкай культуры, (в. Юравічы Калінкавіцкага р-на).*



*Гаршчок верхнедняпроўскай культуры (в. Ходасавічы Рагачоўскага р-на).*



*Знаходкі рэчаў нарвенскай культуры на стаянцы Зацэнне: рэканструяваны гаршчок, абломкі брыжоў і дно пасудзіны, касцяныя наканечнікі стрэл і долата з расшчэпленай трубчастай косткі, крамянёвыя наканечнікі стрэл і нож.*



*Адкрывальнік стаянкі Зацэнне Сяргей Шубара з абломкам неалітычнага чоўна.*





*Позненеалітычны посуд з Крывінскага тарфяніку.*



*Грузілы. ад рыбацкіх прыстасаванняў з тафянікавых стаянак Беларусі.*

*Мужчына неалітычнай эпохі з Прыбалтыкі з выразнымі еўрапейскімі рысамі твару. Такія ж людзі ў гэты час засялялі і паўночную Беларусь. Рэканструкцыя па чэрапе.*

Яны ж даюць культурам і ўмоўныя назвы — па тэрыторыі распаўсюджання старажытнасцей, па найбольш характэрных знаходках або па населенаму пункту, дзе размешчаны важнейшыя стаянкі або могільнікі. Лічыцца пры гэтым, што хутчэй за ўсё канкрэтную археалагічную культуру пакінуў пасля сябе нейкі этнас — група плямёнаў, якія размаўлялі на адной мове або блізкіх дыялектах.

У неаліце Беларусь і суседнія тэрыторыі займала насельніцтва некалькіх археалагічных культур, вытокі якіх знаходзяцца яшчэ ў мясцовым мезаліце.

Амаль на ўсёй тэрыторыі Беларускага Падняпроўя жылі плямёны верхнедняпроўскай культуры. Яны выраблялі для сваіх патрэб з сожскага крэпчастага крэменю мноства прылад працы. Сярод іх асабліва характэрныя лозалістыя са злёгку выражаным чаранком наканечнікі стрэл і коп'яў. Гаршкі верхнедняпроўцаў праз увесь неаліт мелі яйкападобную з вострым дном форму і аздабляліся глыбокімі адбіткамі грэбеня, насечкамі, наколамі, кантам палачкі з тонкай ніткай.

Усходняе Палессе, а таксама значную частку Украіны займалі плямёны Дняпроўска-Данецкай культуры. Яны рана пазнаёміліся з земляробствам і жывёлагадоўляй, выраблялі даволі рознатыповыя гаршкі, аздобленыя пераважна адбіткамі грэбеня і наколамі. На Украіне знойдзены і могільнікі, дзе ў ямах пахаваны выпрастаныя нябожчыкі.

Поўнач Беларусі і ўсю паўднёва-ўсходнюю Прыбалтыку засялялі плямёны нарвенскай культуры. Культура так названа па характэрнай стаянцы каля г. Нарва ў Эстоніі. Любімым месцам пасялення нарвенцаў былі пясчаныя ўзбярэжжы шматлікіх азёр. Гэта ў сваю чаргу зрабіла рыбалоўства важнейшай крыніцай харчавання. Надзвычайная беднасць мясцовых запасаў крамянёвай сыравіны кампенсавалася касцянымі і рагавымі вырабамі. Для керамікі асабліва характэрны дамешкі тоўчаных ракавін.

На захадзе Беларусі, на поўдні Літвы, паўночным усходзе Польшчы і паўночным захадзе Украіны сустракаюцца стаянкі нёманскай культуры. Часам асобныя групы нёманцаў пранікалі далека на захад, ажно да нізоўяў Одэра на сучаснай мяжы Германіі. Носьбіты нёманскай культуры пастаянна адчувалі істотныя ўплывы сваіх цэнтральнаеўрапейскіх суседзяў. З-за гэтага мяняўся выгляд і аздабленне посуду, характар крамянёвых вырабаў.

Пры наяўнасці такой колькасці археалагічных культур важна тое, што яны ў асноўных тынах керамікі і арнаментацыі між сабой былі блізкія. Гэта сведчыць, што на вялізных прасторах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы жыло насельніцтва з роднаснай матэрыяльнай і духоўнай культурай і блізкімі мовамі. Гэтую прастору археолагі называюць зонай культур грабеньчата-накольчатай керамікі.

## НАХОДНІКІ
## З-ЗА БУГА І ВІСЛЫ




*Карта распаўсюджання плямёнаў культуры шарападобных амфар: 1 — першапачатковае рассяленне; 2 — напрамкі рассялення; 3 — шляхі пранікнення асобных груп.*

У той час, калі ў Беларусі жыло спрадвечнае неалітычнае насельыіцтва, разлеглыя прасторы Цэнтральнай Еўропы займалі плямёны іншых звычаяў і моў, якія ўжо з IV тысячагоддзя да н. э. займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй, выраблялі пласкадонны посуд і карысталіся крамянёвымі шліфаванымі сякерамі. Адсюль, а таксама з тэрыторыі Украіны ішлі на нашыя землі новыя культурныя ўплывы.

Асабліва гэта суседства земляробча-жывёлагадоўчых плямёнаў адчулася ў другой палове III тысячагоддзя да н. э. У гэты час поўнач Цэнтральнай Еўропы займала насельніцтва, сярод глінянага начыння якога найбольш тыповымі былі шарападобныя амфары. Таму яго старажытнасці археолагі і аб'ядноўваюць у культуру шарападобных амфар.

Як засведчылі апошнія даследаванні, находнікі з Цэнтральнай Еўропы пранікалі і на захад Беларусі, а таксама праз Палессе да Дняпра і Дзясны, некаторыя ж групы нават трапілі на далёкую Смаленшчыну. «Шарападобнікі» любілі пасяляцца на пясчаных узвышшах пры ўскрайках шырокіх рачных далін. Тут яны будавалі хаціны з двухсхільным



*Від рытуальнага пахавання свойскіх жывёл на Красласельскім могільніку.*



*Касцяныя наканечнікі, якімі быў забіты бык на Красна-сельскім могільніку.*



*Гліняныя гаршкі з Краснасельскага могільніка.*

*Арнаментаваная частка амфары з Малых Ёдкавіч Берастравіцкага р-на.*





*Амфара з пахавання каля Малых Едкавіч.*



*Касцяное і крамянёвае долаты з Малых Едкавіч.*



*Знаходкі з пахавання культуры шарападобных амфар з-пад Смоленска.*

дахам, сцэны якіх трымаліся на слупах. Пасярэдзіне хацін або на покуце размяшчаліся адкрытыя агнішчы, часам абкладзеныя каменнем. Побач з жытлом выкопваліся ямы для захоўвання прадуктаў, асабліва зерня. Некаторыя ямы былі звыклымі сметніцамі.

Займаючыся традыцыйнымі для новакаменнага веку рыбалоўствам, паляваннем і збіральніцтвам, «шарападобнікі» значную ўвагу ўдзялялі земляробству і жывёлагадоўлі. У статку пераважалі каровы, шмат было свіней. Вядомыя былі таксама авечкі і козы, коні ну і, зразумела, даўно ўжо свойскі сабака.

Як і паўсюдна ў каменным веку, «шарападобнікі» пераважную большасць прылад працы выраблялі з крэменю. Для буйнейшых вырабаў, асабліва сякер, ужываўся крэмень, здабыты ў шахтах. Сякеры дадаткова зашліфоўваліся на паліравальных каменных плітах.

Былі вядомыя мясцоваму насельніцтву і вырабы з рагоў і костак. Гэта наканечнікі стрэл і невялікіх коп'яў, кінжалы, сякеры з аленевых рагоў з адтулінамі для рукаятак, матыкі. Разнастайнымі былі рагавыя шахцёрскія інструменты, якімі разрыхлялася парода і здабываўся крэмень.

Характэрны для культуры шарападобных амфар рознатыповы гліняны посуд. На-першае, трэба адзначыць акругладонныя амфары з шарападобным корпусам і некалькімі малымі вушкамі каля шыйкі. Ужываліся таксама міскі, вялікія і малыя кубкі, гаршкі і збаны. Вядомы нават гліняныя накрыўкі.

Гліняны посуд найчасцей упрыгожвалі ў верхняй частцы адбіткамі лапаткі, наколамі, насечкамі пазногцем, пальцавымі ўмяцінамі. У канцы існавання культуры ў арнаментацыі керамікі з'яўляюцца адбіткі шнура.

Археалагічныя раскопкі сведчаць пра складанае і разнастайнае духоўнае жыццё носьбітаў культуры шарападобных амфар. Сваіх нябожчыкаў яны хавалі ў адмысловых магільных збудаваннях. Доўгія ямы абстаўлялі каменнымі плітамі або абкладалі валунамі. Дно магілы выбрукоўвалі, каменнем або дрэвам прыкрывалі магілу зверху. Атрымлівалася памяшканне для памерлага, дзе прыбудоўвалі нават калідор-уваход. Нябожчыка хавалі ў скурчаным выглядзе. Тут жа памяшчалі гліняны посуд, упрыгожанні, некаторыя прылады працы, запасы мяса, жывёл.

Калі памерлы займаў важнае становішча ў родзе або племені, у яму закопвалі і іншых асоб — жонак або, магчыма, рабоў. Пры раскопках цяжка сустрэць цэлы шкілет чалавека. Яшчэ да пахавання нябожчыка звычайна рассякалі на часткі. Некаторыя косткі маюць сляды ўздзеяння агню. Гэта сведчыць пра магчымае канібальства — людаедства.

Найцікавейшы помнік культуры шарападобных амфар знойдзены побач з крэменездабыўнымі шахтам! каля пас. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна. Гэта быў могільнік, які складаўся з чатырох пахавальных ям памерам' прыкладна два на чатыры метры. У самай вялікай былі пахаваны больш за дзесятак быкоў, свіней і коз, а таксама ляжала частка каня. Рытуальнае пахаванне свойскай жывёлы суправаджалі і «ахвяры» — чатыры гаршкі, нейкае бурштынавае ўпрыгожанне. У грудной клетцы аднаго з быкоў былі два касцяныя наканечнікі стрэл, якімі жывёліна і была пазбаўлена жыцця. У суседняй пахавальнай яме знаходзіліся напаўабпаленыя косткі і самога гаспадара такога багатага статка.

Мы не маем сведчанняў аб узаемаадносінах паміж нёманцамі-тубыльцамі і находнікамі-«шарападобнікамі». Хутчэй за ўсё яны не былі мірнымі, асабліва на першым часе. Пра гэта, магчыма, сведчыць і тое, што на захадзе Гродзеншчыны і Брэстчыны, дзе найбольш прыкметным было пранікненне з захаду, даволі мала стаянак, што належалі неалітычнаму насельніцтву нёманскай культуры.

Аднак доўгае суіснаванне павінна было згладзіць супярэчнасці. Гэтаму спрыяла і тое, што мясцовыя жыхары былі пераважна паляўнічымі і рыбаловамі, а находнікі — земляробамі і жывёлаводамі. Нёманцам былі асабліва патрэбныя багатыя дзічынай лясы ды балоты, рыбныя вадаёмы. «Шарападобнікаў» жа больш цікавілі ўрадлівейшыя ўчасткі зямлі, а таксама лугі, дзе можна было знайсці пашу для жывёлы. Як бы там ні было, але к канцу III тысячагоддзя да н. э. мы ўжо бачым на матэрыялах нёманскай неалітычнай культуры значныя ўплывы культуры «шарападобнікаў».

## НА ПОЎНАЧЫ ТАКСАМА НЕСПАКОЙНА




*Карта рассялення плямёнаў з грабеньчата-ямкавай керамікай з-над Фінскай затокі.*

У час, калі захад Беларусі пабачыў перасяленцаў з-за Буга і Віслы, наша поўнач таксама адчула вынікі наступу з-над берагоў далёкай Фінскай затокі. У сярэдзіне III тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі цяперашніх Ленінградскай і Наўгародскай аблаеней і на поўдні Карэліі пачалі аб'ядноўвацца, мацнець рыбалавецка-паляўнічыя плямёны своеасаблівай культуры грабеньчата-ямкавай керамікі. Яе носьбіты вельмі любілі пасяляцца на берагах азёр, мінаючы хуткаплынныя рэчкі. Тут былі найбольш рыбныя мясціны, асабліва зручныя для рыбацтва з невялікіх чаўноў-дзяўбёнак, сеткамі, рознымі пасткамі з дубцоў, гарпунамі і вудамі.

Азёрныя людзі з зайздросным пастаянствам аздаблялі свае гліняныя гаршкі шчыльнымі паясамі глыбокіх адбіткаў шыраказубага грабеньчатага штампа і круглымі ямкамі. Гаршкі былі акругладонныя, быццам вялікае яйка са зрэзанай вяршыняй. Сценкі тоўстыя і моцныя, вельмі добра абпаленыя. Сярод крамянёвых прылад працы, увогуле тыповых для жыхароў усходнееўрапейскіх хваёвых лясоў, асабліва прыкметнымі былі наканечнікі стрэл вербалістай формы, рэтушаваныя па ўсіх паверхнях.



*Фрагменты гаршкоў з грабеньчатаямкавым узорам са стаянкі Скема каля в. Мікольцы Мядзельскага р-на.*



*Тыповы посуд культуры грабеньчата-ямкавай керамікі са стаянак пайднёва-ўсходняй Црыбалтыкі.*



*Гліняны гаршчок са Скемы, на якім праявіліся змешаныя расы розных культур.*



*Рэканструкцыя позненеалітычнага жытла з тэрыторыі Эстоніі, якое належала змешанаму насельніцтву позненарвенскай і грабеньчата-ямкавай керамікі культур.*



*Мужчына позненеалітычнага часу з Эстоніі. Рэканструкцыя па чэрапе. Так маглі выглядаць і некаторыя находнікі з поўначы на Беларускім Паазер'і.*

Да нядаўняга часу меркавалася, што наступ з-над Фінскай затокі спыніўся на паўночных рубяжах Беларусі. Аднак вывучэнне старажытных стаянак-паселішчаў на Нарачы, на Лепельскіх азёрах паказала, што групы азёрных людзей пранiклi i на Беларускае Паазер'е, сягаючы правага берага Віліі.

Пахаванняў находнікаў з-над Фінскай затокі на Беларусі пакуль не знойдзена. А вось раскопкі ў Эстоніі і Латвіі паказалі, што гэта насельніцтва было змешаным, мела выразныя еўрапеоідныя рысы, а таксама некаторыя элементы мангалоіднасці, што характэрна для поўначы Усходняй Еўропы.

Узаемаадносіны паміж находнікамі і абарыгенамі ў Прыбалтыцы, мабыць, былі яшчэ больш вострыя, чым у гэты час на захадзе Беларусі. Справа ў тым, што ўсе гэтыя групы насельніцтва мелі прыкладна аднолькавы характар гаспадаркі, а значыць, прэтэндавалі на адны і тыя ж лясы і азёры.

На больш паўночных тэрыторыях, напрыклад у Эстоніі, находнікаў было так шмат, што яны асімілiравалі мясцовае неалітычнае насельніцтва, змянілі іх культуру і, напэўна, мову. Лічаць, што менавіта па гэтай прычыне ў далейшым тут сфарміраваўся эстонскі народ. На тэрыторыі Латвіі і паўночнаўсходняй Літвы адбылося змяшанне находнікаў і тубыльцаў, у выніку мясцовая культура нават перамагла, хоць і прыкметна змянілася. На Беларусі ж групы прышэльцаў былі, мусіць, нешматлікія. К канцу III тысячагоддзя да н. э. яны растварыліся сярод абарыгенаў спрадвечнай нарвенскай культуры. Аднак пэўны след ад іх застаўся — у асаблівасцях посуду і яго арнаментадыі, і нават у сённяшніх назвах некаторых вадаёмаў, якія захавалі водгук фіна-угорскай, а больш дакладна, эстонскай мовы.

## У СВЕЦЕ ЧАРАЎНІЦТВА І ПРЫГАЖОСЦІ



*Падвескі-каралі з прасвідраваных зубоў. Крывінскі тарфянік.*

Першабытны чалавек, як толькі набыў здольнасць мысліць, пачаў задумвацца аб узаемасувязях з'яў і рэчаў у прыродзе, аб сваім месцы ў ёй. Страх і бяссілле перад магутнымі сіламі прыроды і імкненне іх зразумець, нейкім чынам на іх паўздзейнічаць, прывялі да ўзнікнення рэлігійных вераванняў. Ужо еўрапейскі неандэрталец дзесяткі тысячагоддзяў назад, уражаны няўмольнай наканаванасцю смерці, верыў у замагільнае існаванне чалавека. З гэтым звязана з'яўленне звычаяў пахавання нябожчыкаў з адпаведным магічным рытуалам.

З часам сфарміравалася складаная сістэма вераванняў у розныя звышнатуральныя сілы — душы і духі, якія быццам -уплывалі на існаванне чалавека і ўсяго навакольнага свету. Гэтыя сілы, як меркавалася, можна было задобрыць падарункамі — ахвярамі, замовамі і адпаведнымі рытуальнымі дзеяннямі — абрадамі.



*Познепалеалітычная статуэтка жанчыны з Бран-Люскага Падняпроўя (в. Елісеевічы).*

*Фігурка чалавека, выгравіраваная на костцы. Мезаліт (в. Азёрнае на баншчыне).*



*Арнаментаваныя вырабы з біўняў маманта з Гомельскага і Бранскага Падняпроўя. Позні палеаліт.*



*Гравіраваная выява жывёлы на костцы (в. Азёрнае).*



*Міфалагічны сюжэт «Герой і птушка» на абломку неалітычнага гаршка з Юравіч.*



*Гравіраваная выява качкі на абломку гаршка нарвенскай культуры. Крывінскі тарфянік.*





*Рагавая статуэтка лася (в. Асавец).*

*Драўляная статуэтка чалавека неалітычнага часу з Асаўца.*

У гэтай сістэме важнейшае месца займаў культ продкаў, пра што сведчаць не толькі пахаванні, але і выявы людзей на кераміцы, статуэткі. Асабліва вядомыя сародзічы пасля смерці прызнаваліся духаМі — ахоўнікамі цэлага роду або племені.

Жывучы ў непадзельнай еднасці з прыродай, старажытны чалавек лічыў сваімі родапачынальнікамі некаторых жывёл. Мяркуючы па захаваных выявах, на пазнейшых паданнях, легендах і казках, у нашых далёкіх продкаў такімі жывёламі маглі лічыцца мядзведзі, ласі, качкі, буслы.

Свяшчэннымі лічыліся і некаторыя нежывыя аб'екты — крыніцы, камяні, дрэвы і г. д. Магічная сіла надавалася і розным рэчам — зубам жывёл, адпаведна выразаным касцяным прадметам, знакам.

Занятак земляробствам і жывёлагадоўляй прымусіў чалавека больш задумвацца над пладнасцю зямлі, паміраннем і ўваскрашэннем прыроды, роляй і кругабегам нябесных свяціл. Асаблівае значэнне начало надавацца сонцу, без жыватворнага цяпла якога не маглі развівацца расліны. На выпаленых участках лесу асабліва буйна расла збажына. Так узнікла вера ў адраджальную моц агню. З гэтым быў звязаны, мабыць, і звычай спальваць нябожчыкаў, які асабліва распаўсюдзіўся ў наступную эпоху — у бронзавым веку.

Усё большае пашырэнне земляробча-жывёлагадоўчых культаў, якія паступова выцяснялі культы паляўніча-збіральніцкія, вяло да ўзнікнення новай магічнай сімволікі. У арнаментах з'яўляюцца розныя акружнасці, што сімвалізуюць сонца, крыжы і свастыкі, як сімвалы ўвасаблення сонца на зямлі — агню. Крыж і свастыка былі схематычным знакам прасцейшага і найбольш уражваючага чалавека прыстасавання для здабывання агню — перакрыжаваныя палачкі. У бронзавым веку шырока распаўсюдзіліся і чараўнічыя выявы трохкутнікаў — увасабленне пладнасці.

У першабытную эпоху, як правіла, не існавала мастацтва для мастацтва. Яно было непасрэдна звязана з рэлігійнымі ўяўленнямі чалавека, служыла магічным рытуалам.

Самае старажытнае сведчанне мастацкай творчасці — арнамент. На некаторых рэчах таго ж неандэртальца ўжо сустракаюцца рытмічна размешчаныя паглыбленні і нарэзкі.

Чалавек сучаснага выгляду — краманьёнец у познім палеаліце ўжо шырока выкарыстоўваў большасць арнаментальных элементаў — паралельныя нарэзкі, перакрыжаванні, квадраты, ромбы, шасцікутнікі, трохкутнікі, зігзагі. Яны спалучаліся ў прыгожыя і закончаныя кампазіцыі, якімі аздабляліся пераважна касцяныя вырабы, асабліва з біўняў мамантa.

У неаліце арнаментальныя схільнасці чалавека накіраваліся на аздабленне глінянага посуду.

Большасць арнаментаў мела нейкі магічны сэнс, у іх былі зашыфраваны элементы светапогляду чалавека. Сёння мы гэтага сэнсу ў большасці не разумеем.

У познім палеаліце чалавек навучыўся майстраваць і аб'ёмныя выявы — скульптуркі людзей і жывёл. Яны былі пераважна касцяныя. У гэтых выявах назіральны паляўнічы часам дасягаў непараўнальных узораў рэалізму. З гэтага часу вядомы статуэткі мамантаў, насарогаў, коней, бізонаў. Аднак найбольш уражваюць скульптуркі жанчын. Падкрэсленая дэфармацыя прапорцый, захоўванне іх у спецыяльных схованках каля агнішчаў указваюць на магічны сэнс скульптурак, на значэнне жанчынымаці ў палеалітычным грамадстве.

У познім неаліце і бронзавым веку, асабліва на тарфянікавых стаянках паўночнай Беларусі, мы ўжо знаходзім мужчынскія скульптурныя выявы. Гэта былі ўвасабленні духаў-ахоўнікаў, але ў іх старажытныя мастакі паказвалі вобразы сваіх супляменнікаў.

Значную ўвагу першабытныя людзі ўдзялялі аздабленню сваёй вопраткі і цела. Для гэтага служылі розныя караліпадвескі з зубоў жывёл і чалавека, касцяных пласцінак, трубачак, хрыбетак рыб. Асабліва звяртаюць увагу бурштынавыя ўпрыгожанні, якія на Беларусі пачалі распаўсюджвацца з канца неаліту. Упрыгожаннямі чалавек спрабаваў падкрэсліць сваю індывідуальнасць, становішча ў родзе, асаблівасці полу і ўзросту.

## БРОНЗАВЫ ВЕК
## ЭПОХА
## ПЕРШЫХ МЕТАЛАЎ




*Карта культур бронзавага веку: 1 — паўночна беларуская; 2 — фацьянаўская; 3 — сярэдне-дняпроўская; 4 — прыбалтыйская; 5 — культура шнуравой керамікі Палесся; 6 — тшцінецкая; 7 — сосніцкая.*

У пачатку II тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларусі людзі навучыліся выплаўляць медзь і бронзу і ў нашай першабытнай гісторыі наступіў бронзавы век, які працягваўся амаль паўтара тысячагоддзя. Аднак з-за адсутнасці мясцовай сыравіны першых металічных вырабаў сустракалася мала. Гэта былі ў асноўным упрыгожанні, шылы, сякеры, наканечнікі коп'яў. Пераважную большасць прылад працы і зброі па-ранейшаму выраблялі з крэменю. Асабліва характэрнымі для новай эпохі сталі каменныя шліфаваныя сякеры, булавы і матыкі з прасвідраванымі для рукаятак адтулінамі.



*Галоўныя тыпы гліняна-га посуду, якім карыстала-ся насельніцтва брон-завага веку Беларусі.*

*Арнаменты на посудзе ранняга бронзавага веку Паазер'я.*





*Прылады працы. шахцёраў медзездабытчыкаў. Аўстрыя.*



*Наканечнікі стрэл з раннебронзавага пахавання. Падняпроўе.*



*Станок для свідравання каменя.*



*Сцэна ворыва драўляныт ралам, запрэжаным валамі. Наскальны малюнак са Швецыі.*



*Калясніца бронзавага веку. Наскальны малюнак са Швецыі*



*Каменныя і рогавыя матыкі са стаянак Беларусі.*



*Галоўка касцяной статуэткі чалавека (в. Асавец).*



*Выява чалавека на ранне-бронзавым гаршку (в. Асавец).*



*Бурштынавыя ўпрыгожанні са стаянак Крывінскага тарфяніка.*

Пасля медна-бронзавых вырабаў і свідраваных каменных прылад трэцяй, найбольш характэрнай прыкметай матэрыяльнай культуры бронзавага веку на нашай тэрыторыі стала паўсюднае пашырэнне пласкадоннага посуду, рознага па памерах і формах. Гэта сведчыць пра з'яўленне ў чалавечым жыллі агнішчаў з роўным подам, дашчатых сталоў і паліц, а таксама пра большую разнастайнасць у харчаванні.

Бронзавы век характэрны далейшым пашырэннем і развіццём земляробства і жывёлагадоўлі, пры захаванні, аднак, пераважнай ролі прысвойваючых формаў гаспадарання — палявання, рыбалоўства і збіральніцтва. На спрэс залесеных прасторах земляробства вымагала высякання дрэў пад агароды і палі, для чаго запатрабавалася шмат сякер. Па гэтай прычыне ўзрос попыт на высакаякасны крэмень, які маецца ў тоўшчы крэйдавых адкладаў. У такіх мясцінах, як ваколіцы пас. Краснасельскі на Ваўкавышчыне, яшчэ з канца неаліту пачалі капаць шахты.

Развіццё земляробства і жывёлагадоўлі, першабытнай металургіі і крэменездабычы вялі да зараджэння маёмаснай няроўнасці, да росту значэння мужчынскай працы ў сацыяльна-гаспадарчым жыцці роду і племені. Назапашванне прадуктаў, металу, крэменю, рост значэння ўрадлівай зямлі і радовішчаў карысных выкапняў прыводзілі да пашырэння ўзброеных сутычак і войнаў з мэтай грабяжу і захопу тэрыторыі. У бронзавым веку існаваў і даволі шырокі абмен паміж рознымі рэгіёнамі, часам вельмі нават аддаленымі між сабой. Так, з Прыбалтыкі на Беларусь трапляў бурштын, у адваротным кірунку ішоў крэмень. Пераважна каўказскага і закарпацкага паходжання нашы першыя металы, а шкляныя ўпрыгожанні — з усходняга Міжэемнамор'я.

У канцы неаліту і ў раннім бронзавым веку памерлых разам з бытавымі рэчамі, зброяй, а часам і ахвярнай жывёлай пачалі хаваць у магільных ямах, над якімі ў некаторых мясцінах насыпалі курганы. З сярэдзіны II тысячагоддзя да н. э. распаўсюджваецца звычай спальвання нябожчыкаў. У гэтым выявілася пашырэнне земляробча-жывёлагадоўчых рэлігійных культаў, звязаных з абагаўленнем сонца і агню як жыватворных сіл.

У бронзавым веку надалей развіваецца мастацтва, сярод твораў якога характэрны багата арнаментаваныя керамічныя вырабы, упрыгожанні з костак, бурштыну і медзі, гравіраваныя і скульптурныя выявы людзей, звяроў і птушак. Чалавек усё больш успрымае сваю індывідуальнасць, вылучае сябе не толькі з жывёльнага свету, але і сярод сародзічаў. Таму зараз скульптурныя выявы людзей набываюць характэрную выразнасць твараў.

На мяжы новага каменнага і бронзавага вякоў (канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.) на тэрыторыі Беларусі адбываюцца радыкальныя этнакультурныя змены. У гэты час на шырачэзных прасторах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы пачынаецца наступ плямёнаў культур шнуравой керамікі. Ваяўнічыя плямёны «шнуравікоў», узброеныя каменнымі баявымі сякерамі, распаўсюдзіліся ад Рэйна да Сярэдняй Волгі і ад Прыкарпацця да паўднёвай Фінляндыі. Трапілі яны і на нашы землі. Находнікі, мусіць, тут не былі асабліва шматлікімі, таму не змаглі поўнасцю выцесніць або знішчыць мясцовае насельніцтва, але ўплыў іх быў значны. З прыходам «шнуравікоў» з'явіліся першыя медныя вырабы і пачаўся ў нас бронзавы век, істотна аднавілася колішняя еднасць паміж рознымі раёнамі Беларусі, устанавіліся сувязі з суседнімі тэрыторыямі, у тым ліку і з багатай на бурштын Прыбалтыкай. Тагачаснае насельніцтва нашай Бацькаўшчыны ўключылася ў актыўныя агульнаеўрапейскія нарадатворчыя працэсы, для якіх было характэрным фарміраванне старажытнейшых славян, балтаў, а далей на захад — і германцаў.

К сярэдзіне II тысячагоддзя да н. э. жыццё на прасторах паміж Дзвіною і Прыпяццю стала больш спакойным і ўладкаваным. Поўдзень Беларусі, а таксама суседнія тэрыторыі Польшчы і Украіны ў гэты час засялялі плямёны тшцінецкай культуры.

У канцы бронзавага веку, які прыпадае на першую чвэрць I тысячагоддзя да н. э., на Беларусі пачынаюць фарміравацца археалагічныя культуры са слабаарнаментаваным гліняным посудам, росквіт якіх адбудзецца ў жалезным веку.

## І БРОНЗА І ЗВОНКАЯ МЕДЗЬ



*Медныя упрыгожанні раннебронзавага часу з Падняпроўя: бранзалет і акулярападобная падвеска.*

Медныя руды на Беларусі глыбока захаваны ў зямной тоўшчы, таму яны былі недаступныя нашым продкам. Па гэтай прычыне старажытнейшая металургія зарадзілася і развівалася ў далёкіх краях — на Урале, Каўказе, Прыкарпацці.

Людзі знаходзілі кавалкі самаробнай медзі і спрабавалі іх апрацоўваць, як і камень,— аббіўкай. Аднак хутка заўважылі, што медзь пры ўдарах плюшчыцца. Так навучыліся выкоўваць з гэтага металу плоскія сякеры, нажы, пласцінкі для ўпрыгожанняў.

У чалавечым побыце штодзённа прысутнічаў агонь. У яго траплялі самыя розныя рэчы, у тым ліку кавалкі медзі і меднай руды. Ад моцнага награвання медзь плавілася, а, застываючы, набывала новыя формы. Так разгадалі сакрэты металургіі.

Медзь і медную руду чалавек спачатку збіраў на горных схілах. Затым перайшоў да шахтавай распрацоўкі медных радовішчаў.



*Найбольш стара-жытны тып плоскай бронзавай сякеры, які па форме яшчэ нагадвае каменныя вырабы (в. Кастыкі Вілейскага р-на).*



*Сякера з уступам з-пад в. Падвялікае на Шчары.*



*Медныя і бронзавыя сякеры з тэрыторыі Беларусі.*




*Наканечнік кап'я і сякеры з медзі і бронзы з пахаванняў сярэднедняпроўскай культуры.*

Здабытую руду расціралі на парашок, з якога потым у адмысловых печках-домніцах і выплаўлялі чыстую медзь.

Медныя вырабы, хоць і прыгожыя, аднак былі мала лепшыя за крамянёвыя. Яны хутка тупіліся і гнуліся. Да таго ж медзь можа плавіцца толькі пры тэмпературы не менш як 1000 градусаў.

З часам старажытныя майстры навучыліся сплаўляць медзь з волавам, мыш'яком, цынкам і іншымі металамі і атрымліваць бронзу. А гэты метал плавіцца ўжо пры 700-900 градусах, што можна было рабіць і на звыклым вогнішчы. Да таго ж бронзавыя вырабы моцныя і вострыя, значна больш эфектыўныя, чым каменныя.

На Беларусь медных і бронзавых рэчаў трапляла мала і яны, бачна, вельмі цаніліся. Меднымі былі пераважна ўпрыгожанні, з бронзы рабіліся прылады працы і зброя.

Пры раскопках знойдзены бранзалеты, грыўні, дыядэмы, пярсцёнкі, шпількі, пацеркі-падвескі, плоскія сякеры і долаты, нажы, рыбацкія кручкі. Адліваліся вырабы і больш складанай формы. Сярод іх вядомы сякеры з бакавымі выступамі на абушку, са скразнымі адтулінамі для рукаятак, з тарцовымі адтулінамі ў абушку і мацавальным вушкам — кельты.

Крамянёвы наканечнік кап'я часам замяняўся бронзавым з утулкай. У сярэднебронзавы час пашыраюцца металічныя сярпы. На Беларусі вядома і знаходка бронзавага мяча.

Першыя металічныя вырабы былі адмысловыя і каштоўныя. Буйнейшыя з іх аздабляліся рэльефнымі ўзорамі.

Авалоданне сакрэтамі выплаўкі медзі і бронзы мела велізарнейшае значэнне для цывілізацыі. Чалавек навучыўся сам, па сваёй волі, ствараць новы матэрыял. Гэтым адкрываўся шлях для здабычы і выкарыстання ўсё новых металаў, і сярод іх найважнейшага — жалеза.

## КАМЕНЬ ПАЗІЦЫІ НЕ ЗДАЕ



*Шліфаваная сякера з е. Кубельнікі Ваўкавыскага р-на, зробленая са здабытага ў паўднёвай Польшчы паласатага крэменю.*

Першабытнае грамадства Заходняй Еўропы перажыло ў сваім развіцці сапраўдны бронзавы век. У матэрыяльнай жа культуры жыхароў Беларусі і ў II тысячагоддзі да н. э. па-ранейшаму дамінавалі вырабы з каменю і костак. Больш таго, у гэты час крэменеапрацоўка тут дасягнула сваёй вяршыні. З жаўлакоў-нуклеусаў умелі сколваць роўныя пласцінкі і адшчэпы. Іх краі навучыліся пакрываць доўгай струменьчатай або пільчатай рэтушшу. У выніку прылады працы і зброя атрымліваліся зазубраныя і асабліва вострыя.

Усе тыпы крамянёвых вырабаў, якія існавалі ў папярэднюю эпоху, ужываліся на Беларусі і ў бронзавым веку. Гэта тыя ж скрабкі, нажы, праколкі, разнастайныя наканечнікі стрэл і коп'яў, рубячыя прылады. Яны звяртаюць на сябе ўвагу ахайнасцю апрацоўкі і закончанасцю формаў. Тыловым! для новага часу робяцца крамянёвыя сярпы. Яны асабліва былі вядомы з сярэдзіны бронзавага веку на поўдні Беларусі. Рабочыя часткі большасці з іх запаліраваны да бляску аб сцёблы збажыны.

Асаблівасць бронзавага веку на Беларусі і ў тым, што менавіта ў гэты час найбольшага росквіту дасягае звычка шліфавання вырабаў. Лёзы крамянёвых сякер, долатаў і цёслаў, як правіла, прышліфоўваюцца. Многія з гэтых прылад робяцца гладкімі цалкам.



*Крамянёвыя вырабы бронзавага веку Беларусі: наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы, шліфаваная сякера.*



*Шліфаваныя каменныя сякера-клін і цясла.*



*Каменныя чаранковыя сякеры.*



*Спосабы мацавання каменных плоскіх сякер, молата і цясла.*



*Тыпы каменных сеўдраваных сякер.*



*Каменнае шліфаванае цясла. Паўночная Беларусь.*



*Каменныя булавы бронзавага веку з тэрыторыі Беларусі.*

Акрамя крэменю, шырока пачынаюць выкарыстоўваць іншыя пароды каменю. З іх асабліва шмат майструюць плоскіх сякер-кліноў і цёслаў. Пры гэтым усе іх паверхні запаліроўваюцца. На поўначы Беларусі на некаторых сякерах фарміруюць у абушковай частцы чаранок, якім прылада мацавалася ў рагавую муфту рукаяткі.

Толькі ў бронзавым веку на Беларусі з'яўляюцца цалкам шліфаваныя каменныя сякеры з прасвідраванымі для рукаятак адтулінамі. Шліфаванне адбывалася на каменных плітах з дапамогай мокрага пяску. Адтуліны ж рабілі на адмысловых свідравальных станках, дзе асноўнымі рабочымі часткамі былі касцяная трубка з мокрым пяском і лук з цецівой, якім трубка прыводзілася ў вярчэнне. Саму ж адтуліну ў камені вымолвала не костка, а пясчынкі. Свідравальны станок быў другім пасля лука складаным механічным прыстасаваннем, вынайдзеным чалавекам.

Каменныя свідраваныя сякеры мелі даволі розныя формы. Асабліва дасканала выглядалі лодкападобныя экзэмпляры. Некаторыя з іх мелі рэльефны ўзор.

Калі плоскія кліны ўжываліся пераважна для апрацоўкі дрэва, то сякеры свідраваныя для гэтай справы не падыходзілі. У іх лёзы былі больш тоўстыя, а камень па свідравіне лёгка ламаўся. Хутчэй за ўсё яны служылі зброяй.

Асабліва экзатычна выглядаюць шліфаваныя каменныя булавы з прасвідраванай па цэнтры адтулінай. Былі яны шарападобныя, сплюшчаныя, рабрыстыя, крыжападобныя, а некаторыя нават мелі грыбападобныя выступы. Часам булавы пакрываліся наразным арнаментам.

Хутчэй за ўсё булавы ўяўлялі сабой сімвалы ўлады ў родзе і племені. Гэтым жа яны былі ўсе наступныя тысячагоддзі — у гетманаў, вялікіх князёў і каралёў.

**ПЕРШАБЫТНЫЯ ШАХЦЁРЫ БЕЛАРУСІ**



*Крэменездабыўныя шахты на сценцы крэйдавага кар'ера. На разрэзе бачна запаўненне шахтавых ствалоў адпрацаваным крэйдавым друзам і пустоты ў падбоях і штрэках.*

У познім неаліце, і асабліва ў бронзавым веку шырока распаўсюдзілася земляробства. Аднак на спрэе залесеных землях ім займацца было цяжка. Давялося высякаць лясы і хмызняк. А гэта ў сваю чаргу запатрабавала вялікай колькасці крамянёвых сякер.

Крэменю, што сустракаецца на паверхні, даволі шмат на Беларусі, асабліва на захадзе і на Пасожжы. Аднак такі матэрыял высахлы, і таму служыў для вырабу пераважна толькі дробных рэчаў. Вялікую ж сякеру зрабіць складаней. Для гэтай мэты стараліся адшукаць крамянёвую сыравіну ў зямной тоўшчы ў абрывах рачных берагоў і яроў. Здаўна таксама прыкмецілі, што найбольш яе сустракаецца ў месцах крэйдавых пакладаў.

У тоўшчы крэйды крамянёвыя канкрэцыі (утварэнні) — жаўлакі залягаюць пластамі, ланцужкамі або россыпам. Памеры жаўлакоў ад некалькіх сантыметраў да вялікіх камянёў у паўметра дыяметрам. Вось гэты матэрыял стаў надзвычай пажаданым для позненеалітычнага чалавека, а таксама



*Пралазы-штрэкі паміж шахтавымі выпрацоўкамі.*



*Вусці шахтаў на паверхні крэйдавага адорвеня, расчышчаныя археалагічнымі раскопкамі.*



*Сляды гарняцкіх канальных інструментаў на сценцы шахты.*



*Кірка з ласінага рога з адтулінай для рукаяткі.*



*Шахцёрскія кіркі з рога высакароднага аленя.*



*Шахцёрскі капач для работы ў вузкіх месцах шахтаў.*



*Так магла вгсціся праца ў Краснасельскіх крэменездабыўных шахтах і крэменеапрацоўчых майстэрнях.*



*Гаршчок культуры шнуравой керамікі з пахавання краснасельскага шахцёра.*



*Краснасельскі шахцер па чатку II тысячагоддзя да н. э. Рэканструкцыя па чэрапе з пахавання.*

ў бронзавым веку. У шэрагу месцаў чалавек перайшоў ад збірання іх на паверхні да здабычы ў крэйдавай пародзе шахтавым спосабам.

Такія крэменездабыўныя шахты на Беларусі знойдзены на ўзбярэжжах Росі ў наваколлі пас. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна. У часы перадапошняга пахаладання (250 — 125 тыс. гадоў назад) ледавік, што ў чарговы раз насунуўся быў са Скандынавіі, пакінуў тут вялізныя адорвені крэйды, з якіх некаторыя маюць даўжыню больш за кіламетр. Вось на гэтых пакладах і распачалі сваю дзейнасць нашы першабытныя шахцёры.

Напачатку крэмень маглі здабываць у невялікіх ямах і траншэях. Затым пачалі пранікаць у глыбейшыя тоўшчы. Для гэтага ў крэйдзе выкопваўся вертыкальны калодзеж — ствол будучай шахты. Шырыня яго была такою, каб у ім мог памясціцца адзін чалавек — да паўтара метра, а глыбіня — два-тры і больш метраў.

Дасягнуўшы радовішча крэменю, горназдабытчыкі пачыналі распрацоўваць яго ўбакі невялікімі пячорамі — падбоямі. Яны былі невялікія, рэдка дасягалі больш за метр у даўжыню. Выпрацаваўшы такім чынам крэмень, людзі часам паглыблялі калодзеж да ніжэйшага залежу сыравіны. У такім разе шахта атрымлівалася ў два і больш «паверхаў».

Калі крэйдавы ўчастак утрымоўваў шмат канкрэцый, то на ім выпрацоўкі размяшчаліся густа, часам злучаліся між сабой пралазамі — штрэкамі, невялікімі адтулінамі.

Як правіла, у цесных шахтах можна было працаваць толькі аднаму чалавеку. Шахцёр-капальнік разрыхляў крэйду, даставаў з яе крамянёвыя жаўлакі. Затым усё гэта змяшчалася ў скураныя мяхі або плеценыя кошыкі. Памагаты з дапамогай вяроўкі выцягваў груз на паверхню. Затым крэмень паступаў на размешчаныя побач майстэрні для апрацоўкі.

Крэйда, як вядома, даволі цвёрдая. Таму для яе капання былі неабходны розныя адмысловыя прыстасаванні. Вертыкальны калодзеж хутчэй за ўсё выкопваўся-выдзёўбваўся завостранымі праламі. Унізе, а таксама ў падбоях і штрэках, ужываліся гарняцкія кіркі з рагоў высакароднага аленя. У найбольш вузкіх месцах, дзе кіркай было не размахнуцца, пароду праходзілі востраканечнымі капачамі з рагавых адросткаў.

За мінулыя 3-4 тысячагоддзі выпрацоўкі здзіўляюча добра захаваліся, засыпаныя крэйдавым друзам яшчэ ў старажытнасці. Сценкі іх густа пакрыты драпінамі ад гарняцкіх інструментаў, на столі падбояў маюцца закуранасці, прыкметны вуглістыя пісагі. Гэта, мабыць, цямнейшым часам месца працы асвятлялася лучынай. Тут жа ляжалі і вугалі. Дны калодзежаў моцна затаптаныя нагамі капальшчыкаў, вузейшыя ўчасткі зашмальцаваны вопраткай. Такое ўражанне, што першабытны наш продакшахцёр толькі нядаўна пакінуў месца працы. Адчуванне яго прысутнасці заўсёды суправаджае археолага, які праводзіць тут раскопкі.

Як ужо адзначалася, здабыты крэмень апрацоўваўся на размешчаных побач майстэрнях. Гэта былі верхнія часткі вялікіх паўзасыпаных шахтаў або ўтульныя пляцоўкі каля камянёў. На месцы майстэрань мы сёння знаходзім сляды вогнішчаў, каля якіх грэліся халодным часам ці гатавалі страву, каб падсілкавацца ў перапынку паміж цяжкай працай. Але асноўнае — тут залягаюць цэлыя пласты розных крамянёвых адшчэпаў і абломкаў, а таксама мноства папсаваных і незакончаных сякер. Вывучэнне гэтых адкідаў і засведчыла, што мясцовыя майстры выраблялі пераважна крамянёвыя сякеры.

На ўзбярэжжах Росі за ўвесь больш як тысячагадовы перыяд існавання гэтага крэменездабыўнага раёна было выкапана, па падліках археолагаў, некалькі тысяч шахтаў. Са здабытага з кожнай выпрацоўкі можна было змайстраваць да сотні сякер. Нават цяжка ўявіць, якая процьма іх была тут выраблена.

Зразумела, што тысячы сякер былі непатрэбныя мясцоваму насельніцтву. Значыць, яны ў асноўным прызначаліся для абмену і траплялі ў розныя раёны Панямоння і на суседняе Павісленне.

Спецыяльнымі спосабамі археолагі даследавалі знойдзеныя ў шахтах вугалі. Аказалася, што яны ў асноўным датуюцца II тысячагоддзем да н. э., гэта значыць, бронзавым векам. Акрамя таго, вызначылі, што на некаторых участках крэмень распрацоўвалі яшчэ ў познім неаліце — у III тысячагоддзі да н. э.

Побач з шахтамі быў знойдзены даволі вялікі могільнік насельніцтва культуры шарападобных амфар. А, як вядома, «шарападобнікі» ўжо здаўна валодалі сакрэтамі здабычы крамянёвай сыравіны з зямных глыбінь. Значыць, хутчэй за ўсё гэтыя находнікі і распачалі распрацоўку мясцовых крамянёвых залежаў. На навакольных позненеалітычных стаянках таксама маюцца сведчанні прысутнасці «шарападобнікаў».

У адной з шахтаў знойдзена пахаванне і самога шахцёра. Мяркуючы па характэрнаму пахавальнаму гаршку, яно адносілася да раннебронзавага часу. Нябожчык быў яшчэ малады мужчына. Па костках чэрапа ўдалося аднавіць яго аблічча — еўрапейскага выгляду, хоць і даволі своеасаблівае.

Гэта пахаванне, а таксама чарапкі посуду з некаторых іншых выпрацовак і з прылеглай тэрыторыі сведчаць, што месцараджэнне распрацоўвалася і ў пачатку бронзавага веку. Несумненна, што тут работы вяліся і пазней. І толькі ў жалезным веку Краснасельскі цэнтр здабычы і апрацоўкі крэменю незваротна заняпаў.




*Карта распаўсюджання ў Еўропе плямён, культур шнуравой керамікі: 1 — межы распаўсюджання; 2 — сучасная тэрыторыя Беларусі.*

Менавіта з прыходам на тэрыторыю Беларусі нлямёнаў культур шнуравой керамікі ў нас і пачынаецца бронзавы век. Усюды, куды яны траплялі, археалагі знаходзяць характэрныя курганныя або грунтавыя могільнікі. А ў пахаваннях — скурчаныя на баку рэшткі нябожчыкаў, пласкадонныя гаршкі з адбіткамі шнура, амфары, а таксама каменныя сякеры з прасвідраванымі адтулінамі. Таму старажытнасці гэтых плямёнаў і назвалі культурам! шнуравой Керамікі або баявых сякер.

«Шнуравікі» прыходзілі на даволі густазаселеныя тэрыторыі і з абарыгенамі адносіны ў іх былі, відавочна, складаныя. Нездарма ж сякеры суправаджалі нябожчыкаў і «на той свет», а наканечнікі іхніх стрэл з пільчастымі вострымі краямі былі асабліва шыпастыя. Аб узаемадачыненнях могуць сведчыць і знаходкі ў касцях некаторых шкілетаў у пахаваннях мясцовых лістападобных вастрый стрэл.

Дзе «шнуравікоў» было шмат, яны маглі цалкам выцесніць спрадвечнае позненеалітычнае насельніц тва або асімілявацъ яго рэшткі.



*Баявыя лодкападобныя сякеры з тэрыторыі Беларусі.*



*Гліняны посуд, якім карысталася насельніцтва сярэдненяпроўскай культуры.*



*Маладая жанчына культуры шнуравой керамікі з вярхоўяў Волгі. Рэканструкцыя па чэрапе.*



*Арнаменты, на гліняным посу дзе «шнуравікоў» з Падняпроўя.*




*Курганнае пахаванне сярэднедняпроўскай культуры (план і профіль), якое ўтрымлівала пад курганавым насыпам тры пахаванні і чацвёртае ў прыкурганавым раўчуку.*



*Металічныя і шкляныя знаходкі з пахавання сярэдднедняпроўскай культуры каля в. Рудня Шлягінская Веткаўскага р на: наканечнік кап'я, бранзалет, грыўня, рэшткі пояса, шкляныя пацеркі.*

Месцамі, як гэта назіралася на Беларусі, находнікі змешваліся з тутэйшым жыхарствам. У выніку фарміраваліся асобныя культуры шнуравой керамікі.

На тэрыторыі Беларусі найбольш даследаваны плямёны сярэднедняпроўскай культуры шнуравой керамікі. Сярэднедняпроўцы на мяжы III і II тысячагоддзяў да н. э. засялялі практычна ўсё Сярэдняе і Верхняе Падняпроўе. Іх увогуле невялікія паселішчы размяшчаліся на высокіх рачных берагах, на мысах, абмежаваных паніжэннямі або ярамі, на высокіх пагорках пасярод балоцістага поплаву. Думаецца, што пасяленцы наўмысна шукалі мясціны, цяжкадаступныя для няпрошаных гасцей. Не выключана, што вёсачкі дадаткова ўмацоўваліся нейкай агароджай. Хаціны сярэднедняпроўцаў мелі двухсхільныя дахі, якія трымаліся на слупах. Сцены, мабыць, сплеценыя з галля, абмазваліся глінай. Глінай жа пакрывалася падлога. Агнішчы, на якіх гатавалася страва, выкладаліся з камянёў. Побач з жытламі знаходзіліся ямы, у якіх сустракаюцца косткі жывёл і чарапкі посуду. Відаць, гэта былі пераважна сметніцы.

Найбольш распаўсюджанай формай посуду сярэднедняпроўцаў былі акругладонныя гаршкі са звужанай шыйкай і высокім лейкападобным венцам. Карысталіся таксама кубкамі, міскамі, зрэдку амфарамі. Посуд аздабляўся ў асноўным адбіткамі шнура і пракрэсленымі рысамі ў трохкутных узорах.

Сярэднедняпроўцы ўжо карысталіся меднымі і бронзавымі вырабамі, хоць было іх яшчэ вельмі мала. Гэта — сякеры з адтулінай у абушку, плоскія і ўтульчатыя вастрыі коп'яў, нажы, шылы. Затое металічных упрыгожанняў было больш — пярсцёнкі, розныя падвескі — каралі, бранзалеты, дыядэмы. Вядомы былі таксама аздобы з прыбалтыйскага бурштыну, шкляныя і фаянсавыя пацеркі з усходняга Міжземнамор'я.

Пры археалагічных раскопках паселішчаў рэчаў знаходзіцца мала. З гэтай прычыны можна было б думаць, што сярэднедняпроўцы мелі бедную і невыразную матэрыяльную і духоўную культуру. Аднак даследаванні іх могільнікаў сведчаць аб адваротным. Сваіх нябожчыкаў тут хавалі пад курганнымі насыпамі на паверхні зямлі або ў заглыбленых мацерыковых ямах.

Замагільнае «жытло» абкладвалася дрэвам, высцілалася трыснягом. Часам перакрывалася дрэвам і зверху. У адным насыпе магло быць некалькі пахаванняў. Па асаблівасцях магіл і пахавальнага інвентару можна меркаваць, якое становішча ў родзе і племені займалі нябожчыкі пры жыцці. Пад невялікімі насыпамі хавалі простых сародзічаў. Ім ставілі гаршчок, клалі пару крамянёў, часам сякеру. У той жа час сустракаюцца надзвычай багатыя пахаванні, у якіх маецца па некалькі адмыслова арнаментаваных пасудзін, металічная зброя, упрыгожанні з медзі, бурштыну, шкла.

На поўначы Беларусі, куды «шнуравікоў» трапіла мала, на позненеалітычнай аснове сфарміравалася раннебронзавая паўночнабеларуская культура. Жыхары мясцовых паселішчаў па-ранейшаму карысталіся вастрадонным посудам, хоць былі знаёмы і з пласкадонным. Асабліва шмат у іх было самых разнастайных касцяных і рагавых вырабаў. У даволі вялікіх колькасцях трапляў сюды прыбалтыйскі бурштын. Носьбіты паўночнабеларускай культуры ўмелі вырошчваць расліны і гадаваць жывёлу, аднак у іх гаспадарцы важнейшае месца яшчэ займалі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва.

Насельніцтва культур шнуравой керамікі, калі меркаваць па форме чарапоў, мела, несумненна, еўрапейскі выгляд. Мяркуюць, што яно і было той асновай, на якой сфарміраваліся пазнейшыя славяне, балты і германцы.

## НА ПРЫПЯЦКІХ ЎЗБЯРЭЖЖАХ



*Посуд тшцінецкай культуры з Беларускага Палесся.*

Да сярэдзіны II тысячагоддзя да н. з. працэс змешвання і ўзаемаасіміляцыі мясцовага насельніцтва і находнікаў цалкам завяршыўся. Пачаўся сярэдні этап бронзавага веку. У гэты час паўднёвую палову Беларусі і ўсё наша Падняпроўе, а таксама суседнія тэрыторыі Украіны і Польшчы, засялялі плямёны двух роднасных між сабой археалагічных культур — сосніцкай (названа па стаянцы каля в. Сосніца на поўначы Украіны) і тшцінецкай (названа па знаходках каля гарадка Тшцінец у ХІольшчы). Час іх існавання — прыкладна ўся другая палова II тысячагоддзя да н. э.

Побыт насельніцтва гэтых культур можна ўявіць на падставе раскопак каля в. Пустынка на Чарнігаўшчыне побач з беларускай мяжой. Тут, на прыдняпроўскім схіле пясчанага ўзгорка, пасярод поплава, 3,5 тысячагоддзя назад знаходзілася вёска сярэднебронзавага часу. Яна размяшчалася ўздоўж берага рачной старыцы больш як на 200 м.



*Гаршкі сосніцкай культуры з Падняпроўя.*



*Гліняны посуд насельніцтва Панямоння сярэднебронзавага часу.*



*Крамянёвыя нажы сярэднебронзавага часу з паўднёвай Беларусі. Рукаяткі рэканструяваныя.*



*Гліняны гаршчок, які належаў носьбітам культуры шматвалікавай керамікі, якая ў сярэднебронзавы час з прастораў Украіны трапляла і на паўднёвы ўсход Беларусі.*



*Вёска тшцінецкага насельніцтва з узбярэжжа Прыпяці. Рэканструкцыя паводле археалагічных раскопак.*



*Рэканструкцыя жытла і гаспадарчай будыніны на слупах (в. Пустынка на поўначы Кіеўшчыны, пры беларускім памежжы).*



*Круглая бажніца з Пустынкі. Рэканструкцыя.*

Жытламі для тутэйшых жыхароў служылі зямлянкі глыбінёй у пяску да 1,5 м. Яны ўсе прамакутныя і выцягнутыя ў бок вады, маюць плошчы ў сярэднім 70-100 кв. м. Пасля таго як было выкапана паглыбленне ў пяску, па яго краях укопваліся тоўстыя слупы, якія звонку абшываліся драўлянымі плашкамі, галлём і прысыпаліся зямлёй. Па доўгай восі зямлянкі ўкопваліся цэнтральныя слупы з развілінамі, у якіх мацавалася кладзь. На кладзь і абапіралаея двухсхільная страха, крытая, відаць, трыснягом, якога хапала ў суседняй старыцы.

Зямлянкі-жытлы складаліся з двух камер-пакояў. Першы, у які і вялі дзверы з вузкага прырэчнага тарца, меў гаспадарчае прызначэнне. Тут было агнішча з камянёў і гліны для гатавання ежы, размяшчаліся розныя гаспадарчыя ямы. Земляная падлога была няроўная, з выбоінамі. Пры раскопках на ёй знаходзілі біты посуд, косткі. Зімовым часам у гаспадарчай палове жытла маглі трымаць і жывёлу, асабліва маладняк.

Праход у далёкай унутранай сценцы вёў у другі пакой— «святліцу». Падлога тут была гліняная, пасярздзіне знаходзілася агнішча для асвятлення і абагрэву, ля сцен меліся земляныя ўзвышэнні, якія служылі ложкамі.

Амаль каля кожнага жытла знаходзіліся пераважна наземныя гаспадарчыя збудаванні. Большыя на слупах маглі прызначацца для захоўвання зерня, саломы, сена. Вакол такога жыллёва-гаспадарчага комплексу, які належаў вялікай сям'і, верагодна, была агароджа. Яе кірунак вызначаўся па вялікай колькасці чарапкоў посуду, якія пад яе скідваліся.

Такое вялікае паселішча, дзе магло жыць да 200 чалавек, павінна было мець і бажніцы — культавыя збудаванні. Іх знойдзены дзве, і размепічаны яны, як і належыць, далей ад людскога тлуму, воддаль ад зямлянак. Першая бажніца папярочнікам каля 10 м была круглая. У земляной яе падлозе археолагі раскапалі раўчук, запоўнены абломкамі 120 моцна абпаленых каменных зерняцёрак. Тут жа быў попел і здрабнёныя перапаленыя косткі. Усё гэта сведчыць пра наяўнасць у тутэйшых жыхароў абрадаў, звязаных з земляробчымі рэлігійнымі вераваннямі.

Другая бажніца была прамавугольная з трохкутнай прыбудоўкай, у якой знаходзіўся гліняны міскападобны ахвярнік з попелам. Тут жа ляжала разбітая багата арнаментаваная пасудзіна, з дапамогай якой, мабыць, і адбываліся рытуальныя дзеянні. Пад падлогай асноўнай часткі бажніцы выяўлены рэшткі некалькіх чалавечых трупаспаленняў. Магчыма, гэта пахаванні святароў або родавых старэйшын.

Гліняны посуд, якім карысталіся на паселішчы каля в. Пустынка, быў даволі разнастайны і ўвесь пласкадонны. Ён моцны, добра абпалены, мае гладкія сценкі. Гаршкі для гатавання стравы амаль не аздобленыя. Высокія ж цюльпананападобныя пасудзіны, падобныя на жбаны-гладышы, упрыгожваліся ўзорамі з нарэзак, баразёнак, грабеньчатых і ружанцавых адбіткаў. Сустракаюцца таксама слоікі, міскі, вазы, друшлякі для адцэджвання тварагу, мініяцюрныя пасудзінкі.

Амаль у кожным жытле можна было знайсці гліняныя лыжкі, праселкі для прадзення і ткацтва. Сустракаліся таксама крамянёвыя наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы і сярпы, скрабкі, каменныя сякеры. Увогуле каменных вырабаў мала. Гэта тлумачыцца тым, што насельніцтва сярэднебронзавага часу паўднёвай Беларусі і паўночнай Украіны ўжо даволі добра было знаёма з меднымі і бронзавымі вырабамі і само ўмела іх адліваць у адпаведных формах.

Могільнікі тшцінецкага і сосніцкага насельніцтва размешчаны наводдаль ад паселішчаў. На іх сустракаюцца курганы з трупапалажэннем і грунтавыя пахаванні ў ямах са спаленнем нябожчыка. У магілах даволі неніматлікі інвентар — пасудзіны, крамянёвыя і каменныя вырабы, зрэдку металічныя ўпрыгожанні. Аднак заўважаецца, што мужчын і жанчын, а таксама дзяцей хавалі па-рознаму. Выяўляюцца таксама бедныя і багатыя магілы.

Калі на карту са старажытнаславянскімі назвамі рэк і азёр нанесці тшцінецкія і іншыя падобныя ім помнікі, то выяўляецца іх супадзенне. З гэтай прычыны вучоныя дапускаюць, што сярод тутэйшых плямёнаў ужо можна шукаць вытокі славянскіх пазнейшых народаў.

## У СУПОЛЬНАСЦІ З РОДЗІЧАМІ І СУСЕДЗЯМІ



*Каменны арнаментаваны молат-жазло з Іванаўскага р-на.*

У бронзавым веку на тэрыторыі Беларусі працягваў існаваць першабытнаабшчынны лад, аднак у ім назіраліся істотныя змены. Развіццё жывёлагадоўлі, а затым і ляднага земляробства, тым больш з выкарыстаннем цяглага вала, садзейнічала росту значэння працы мужчыны. Ён жа стаў і першым металургам. Успомнім пры гэтым аб ролі мужчыны — паляўнічага, узброенага абаронца роду.

Вытворчыя формы гаспадаркі, металургія, шахтавая здабыча крэменю нярэдка стваралі значныя запасы прадуктаў, бронзавых і каменных рэчаў. Іх лішкі абменьвалі з суседзямі. Выключна шляхам абмену трапляў на нашыя землі старажытнейшы метал, бурштын. Першымі мянялынчыкамі-гандлярамі зноў жа становяцца пераважна мужчыны.

Нагадаем, што ў паляўніча-рыбацка-збіральніцкім грамадстве каменнага веку, асабліва на яго старажытнейшых этапах, кармільцамі сародзічаў былі ў аднолькавай ступені мужчыны і жанчыны, а ў сямейных справах роля жанчыны нават пераважала. У канцы ж каменнага веку першынство як у грамадскім, так і ў гаспадарчым жыцці перайшло да мужчыны. Сфарміраваўся патрыярхальны родавы лад (ад грэч. «патэр» — бацька і «архе» — улада). У бронзавым веку патрыярхат дасягнуў свайго росквіту.



*Багатае пахаванне раннебронзавага часу з Падняпроўя.*



*Рукаяткі бронзавых мячоў і кінжалаў.*

*Цэнтральная Еўропа.*



*Ваяр-вершнік познебронзавага часу. Рэканструкцыя па археалагічных матэрыялах з Цэнтральнай Еўропы.*

Пераважаючая роля мужчыны ў эпоху бронзы добра прасочваецца і пры археалагічных даследаваннях. На могільніках мужчынскія пахаванні звычайна займаюць цэнтральнае месца, курганныя насыпы над імі найбольшыя, маюць шмат знаходак, у тым ліку і вельмі багатых. Часам побач з мужчынам хавалі яго, мабыць, забітую рабыню або нават жонку.

У бронзавым веку ўжо можна было паспяхова весці гаспадарку невялікімі калектывамі-сем'ямі. Адпаведна, і атрыманыя прадукты сям'я старалася пакінуць для сваёй карысці. Так пачынаў разбурацца прынцып родавага калектывізму. З'явіліся нават асобныя сямейныя пахавальні.

Даследаванні пераканаўча паказваюць, што ў бронзавым веку выразна прасочваецца паміж асобнымі родамі і нават сем'ямі маёмасная няроўнасць. Упершыню гэта заўважана пры вывучэнні могільнікаў сярэднедняпроўскай культуры. Гэта ж назіраецца і на пазнейшых помніках.

У каменным веку ўзброеныя сутычкі паміж чалавечымі калектывамі ўзнікалі з-за валодання лясамі і рыбнымі вадаёмамі. Улічваючы ж невялікую заселенасць тэрыторый, можна думаць, што такое супрацьстаянне надаралася не так часта. Зараз жа, у бронзавым веку, людзі пачалі квапіцца на ўрадлівейшыя землі, лепшыя лугі, шляхі абмену крэменю, медзі, бронзы і бурштыну, на чужы набытак. Да таго ж колькасць жыхароў значна ўзрасла, а месцамі нават адчувалася перанаселенасць. Па гэтай прычыне пачасціліся міжплемянныя і нават міжродавыя войны. Упершыню з'явілася спецыяльная зброя — баявыя сякеры, булавы, шыпастыя наканечнікі стрэл, бронзавыя мячы. Пешы і асабліва ўзброены воін-вершнік робіцца пострахам суседзяў.

# ЖАЛЕЗНЫ ВЕК
## ЭПОХА ЖАЛЕЗА І ЗЕМЛЯНЫХ ЗАМКАЎ




*Карта культур жалезнага веку Беларусі: 1 — мілаградская; 2 — зарубінецкая; 3 — штрыхаванай керамікі; 4 — дняпроўска-дзвінская; 5 — паморская; 6 — вельбарская (готы і гепіды).*

У VII — VI стст. да н. э. на землях Беларусі бронзавы век змяніўся жалезным. У гэты час нашы продкі навучыліся здабываць з балотнай руды жалеза. Такая сыравіна распаўсюджана ў многіх месцах, таму жалеза атрымлівалі шмат і яго хапала для вырабу самых розных рэчаў — сякер, сярпоў, нажоў, наканечнікаў коп'яў і стрэл, рыбалоўных кручкоў і восцяў, шылаў, спражак, запінак і шмат чаго іншага. Да таго ж прадукцыйнасць прылад працы з гэтага металу была значна большай, чым каменных і нават бронзавых, пагэтаму ў новую эпоху камень амаль поўнасцю быў выцеснены з ужытку, а медзь і бронза сталі выкарыстоўвацца пераважна для ўпрыгожанняў.

Калі бронзавы век на Беларусі быў шмат у чым працягам каменнага, то ў эпоху жалеза наша грамадства істотна змянілася і развіццё яго паскорылася.



*Майстэрня па атрыманню жалеза з домніцы (в. Люцеж пад Кіевам).*



*Гарадзішча жалезнага веку на Браслаўшчыне.*



*Зерняцёркі з гарадзішчаў.*



*Драўлянае рала, знойдзенае пад Капланавічамі Клецкага р-на.*



*Вертыкальны ткацкі станок.*



*Ворыва ралам. Малюнак на старажытнагрэчаскай вазе.*



*Абломак гаршка з выявай магічнага знака. Гарадзішча каля в. Гара пад Барысавам.*

Жалеза адкрыла чалаведтву шлях да будучых вышыняў цывілізацыі.

Тагачасны чалавек атрымліваў жалеза ў адпаведных домніцах. Гэта былі звычайна стажкаватыя гліняныя збудаванні, часам заглыбленыя ў зямлю, памерам каля паўметра, часам крыху большыя. У нізе домніц знаходзіліся невялікія адтуліны з глінянымі трубкамі, праз якія екуранымі мяхамі дзьмулі паветра. Зверху мелася большая дзірка для выхаду дыму.

У домніцу пачарговымі пластамі змяшчалі драўнінны вугаль і перацёртую ў парашок руду. Працуючы надуўнымі мяхамі, можна было распальваць модны агонь і даводзіць тэмпературу ў збудаванні да 1200 градусаў. Пры такой гарачыні пачыналася хімічная рэакцыя і з руды выдзялялася жалеза. Яно асядала на дно домніцы і спякалася ў порыстую блінападобную крыцу памерам у 20-30 см.

Калі працэс такой «варкі» жалеза заканчваўся, домніцу разбіралі і даставалі крыцу. Аднак у ёй яшчэ заставалася шмат шлаку-жужала. Яго выдзялялі прапальваннем у горнах і пракоўкай на каменных кавадлах. Часам такое жалеза мнагакратна награвалі і пракоўвалі, каб атрымаць сталь. Сталёвыя рэчы былі вядомыя на Беларусі ўжо ў пачатку жалезнага веку.

Пры раскопках амаль кожнага паселішча знаходзяць сляды здабычы жалеза — развалы домніц, жужала, абломкі крыц. Шмат сустракаецца і розных каменных брускоў, якімі даводзілі да ладу металічныя вырабы.

Вострай жалезнай сякерай можна было ссекчы і тоўстае дрэва, нашчапаць дошак, вычасаць модную драўляную рыдлёўку. Таму і чалавечае жытло ў жалезным веку стала больш надзейнае і даўгавечнае. На поўдні нераважалі паўзямлянкі, больш на поўнач тубыльцы жылі амаль выключна ў наземных хацінах слупавай канструкцыі. Некалькі жытлаў утваралі паселішчы накшталт вёсак. Неўмацаваныя паселішчы археолагі называюць селішчамі, а ўмацаваныя — гарадзішчамі. На значнай тэрыторыі басейнаў Прыпяці і Дняпра былі як селішчы, так і гарадзішчы, у цэнтральнай і паўночнай Беларусі — практычна толькі гарадзішчы. Апошнія ладзіліся на высокіх берагавых мысах, на стромкіх пагорках.

Каб зрабіць гарадзішчы больш недаступнымі ворагам, навокал капалі глыбокія равы, насыпалі валы, ставілі паркан. Часам было па некалькі равоў і валоў, што стварала болей надзейную абарону. У сярэдзіне гэтых земляных замкаў знаходзіліся, як правіла, роўныя плядоўкі, забудаваныя па краях, з загонам для жывёлы. Іншы раз забудоўвалася і ўся тэрыторыя гарадзішча.

Некаторыя такія ўмацаванні існавалі каля тысячы гадоў. На іх адкладаліся таўшчэзныя пласты модна насычанай арганічнымі рэштками зямлі са слядамі пажарышчаў, мноствам чарапкоў бітага посуду, жалезнымі вырабамі, праселкамі, косткамі і г. д.

Не ад уласнай прыхамаці тагачаеныя людзі тытанічнымі намаганнямі ўзводзілі ўсе гэтыя ўмацаванні, хаваліся за імі са сваімі пажыткамі, плёнам жывёлагадоўлі і земляробства. Справа ў тым, што вытворчыя формы гаспадарання з выкарыстаннем жалезных прылад працы, пашырэнне жалезаробства, рамёстваў, абмену вяло да большага накаплення багаццяў. Таму зараз стала прыбытковай не толькі стваральная праца, але і ўзброенае рабаванне суседзяў. Пры адсутнасці сістэмы калектыўнай абароны, без дзяржаўнай арганізаванасці кожны чалавечы калектыў спадзяваўся толькі на свае сілы і ўмельства, на ўмацаванні гарадзіпіча.

Посуд жалезнага веку па-ранейшаму ляпіўся з гліны рукамі. Карысталіся пераважна пласкадоннымі гаршкамі, рознымі міскамі, кубкамі, збанамі. Гліняныя вырабы страцілі багатую арнаментадыю, характэрную для папярэдніх зпох, а болыыасць іх увогуле не мела ўзораў. У гэты час, мяркуючы па знаходках мноства праселак ад верацёнаў і ткацкіх станкоў, было шырока распаўсюджана ткацтва, і людзі насілі палатняную вопратку, Вось яе, мабыць, і пачалі арнаментаваць нашы продкі.

Далейшае развіццё жывёлагадоўлі, распаўсюджанне ворнага земляробства вяло да яшчэ большага павелічэння значэння мужчыны-бацькі ў родзе, які імкнуўся перадаць сваю прыдбаную маёмасць у спадчыну сынам. Такім чынам, першабытны род усе больш пачынае распада цца на асобныя сем'і, адбываецца разлажэнне першабытна-абшчыннага

ладу. І чым вышэй было развітым грамадства, тым гэты працэс паскараўся. Напрыклад, калі на поўначы Беларусі яшчэ прадяглы час дамінавалі вялікія шматкамерныя жытлы, то на поўдні з самага пачатку жалезнага веку ўжо вядомы невялікія жытлы, разлічаныя толысі на адну сям'ю.

Як і ў бронзавым веку, у новую эпоху пераважалі рэлігійныя вераванні, звязаныя з земляробчымі культамі, з абагаўленнем нябесных свяцілаў, жыватворнай моцы агню. Менавіта з гэтым быў звязаны звычай спальвання-крэмацыі нябожчыка.

Свае асаблівасці мела мастацтва жалезнага веку. Распаўеюджваюцца металічныя ўпрыгожанні, як жалезныя, так, медныя і бронзавыя, аздобы з каляровымі эмалямі. Шырока сталі вядомы шкляныя пацеркі, якія прывозіліся з паўднёвых краёў. Прыкметны ўплыў на развіццё культуры, у тым ліку і мастацкай, мясцовых плямёнаў аказваў антычны свет Прычарнамор'я.

## ПЛЯМЁНЫ ПАЎДНЁВАЙ БЕЛАРУСІ



*Гліняны посуд насельніцтва мілаградскай культуры.*

У жалезным веку Беларусь насялялі розныя плямёны. Рэшткі іх жыццядзейнасці — паселішчы, могільнікі і ўсё, што на гэтых помніках захавалася, а таксама скарбы і асобныя знаходкі — даследчыкі аб'ядноўваюць у шэраг археалагічных культур.

Першымі з жалезаробчай справай пазнаёміліся плямёны мілаградскай культуры паўднёвай Беларусі, названай так па гарадзішчу каля в. Мілаград на Гомельшчыне. Яны ў VII — III стст. да н. э. засялялі тэрыторыю Гомельскай, поўдзень Магілёўскай і Мінскай, усход Брэсцкай абласцей, а таксама частку паўночнай Украіны.

На прыпяцкім Палессі мілаградцы жылі пераважна на неўмацаваных селішчах. Аднак у балоцістых цяжкадаступных мясцінах мелі і гарадзішчы-схованішчы, якія выкарыстоўвалі ў час ваеннай небяспекі. Асабліва вялікае падобнае гарадзішча знаходзіцца непадалёку в. Прыпяць у Жыткавіцкім раёне. Яго абарончы вал даўжынёй каля 1,5 км акружае пляцоўку амаль у 10 га.

У Падняпроўі асноўным тыпам пасяленняў былі гарадзішчы.

Тагачаснае насельніцтва паўднёва-ўсходняй Беларусі жыло пераважна ў наземных хацінах з драўлянымі сценамі, якія мацаваліся да слупоў.



*Жалезныя прылады працы мілаградцаў са скарбу, знойдзенага на гарадзішчы каля в. Гарошкаў Рэчыцкага р на: серп, матыка, сякера.*



*Жалезная зброя мілаградцаў: плоскія наканечнікі стрэл і ўтульчатыя наканечнікі коп'яў і дроціка.*



*Каляровыя пацеркі са шклопадобнага рэчыва (в. Гарошкаў).*



*Металічныя ўпрыгожанні мілаградцаў: бранзалеты і шпількі-запінкі.*



*Гліняная культовая фігурка каня (в. Гарошкаў).*



*Глінянае мілаградскае праселка збанападобнай формы з графічнай выявай, у якой можна бачыць сцэну апрацоўк зямлі ралам і баранойсукаваткай.*



*Скіфскі ваяр нацягвае цеціву на лук. Выявы на металічнай вазе з Крыма.*



*Бранзалеты лужычан з-пад Здзітава Бярозаўскага р-на.*



*Пешы і конны ваяры паморскай культуры, узброеныя коп'ямі, дроцікамі з шыпастымі наканечнікамі, шчытамі. Вершнік дадаткова мае аднальёзавы меч у драўлянай похве.*

Зрэдку сустракаліся і паўзямлянкі. Побач з жытламі выкопваліся гаспадарчыя ямы-скляпы са стрэшкамі.

Жыхары мілаградскіх паселішчаў мелі ва ўжытку даволі разнастайны металічны інвентар і зброю, акругладонны гліняны посуд, арнаментаваныя праселкі. Сустракаюцца культавыя фігуркі коней і кароў. Тутэйшыя жанчыны асабліва любілі ўпрыгожваць сябе каралямі з буйных каляровых пацерак, якія траплялі на Беларусь з далёкіх грэчаскіх гарадоў.

Сваіх памерлых мілаградцы хавалі пераважна на бескурганных грунтавых могільніках па абраду крэмацыі. Месцамі сустракаюцца магілы з трупапалажэннем над курганамі.

Адкуль з'явіліся мілаградскія плямёны на Гомельшчыне? Наконт гэтага вучоныя пакуль не маюць адзінай думкі. Аднак усё больш фактаў сведчыць, што яны ў значнай ступені з'яўляюцца нашчадкамі мясцовага познебронзавага насельніцтва. У час свайго існавання мілаградцы кантактавалі з суседнімі іншакультурнымі плямёнамі. Асабліва цесныя сувязі існавалі з размешчаным на поўдзень ад іх скіфскім светам. Мабыць, у пэўныя перыяды тутэйшае насельніцтва магло быць і падначалена сваім ваяўнічым паўднёвым суседзям, плаціла ім даніну пушнінай, прадуктамі сельскай гаспадаркі, рабамі. Праз скіфаў адбываліся кантакты і з грэчаскімі гарадамі-полісамі.

Нашы продкі ў жалезным веку яшчэ абыходзіліся без пісьменнасці, таму яны не захавалі нам сваёй палітычнай гісторыі і нават саманазвы. Аднак грэчаскія гісторыкі яшчэ ў V ст. да н. э. ведалі, што на поўнач ад скіфаў жыў народ неўры, з якімі звязаны паданні аб змеях і ваўкахпярэваратнях. Змяіныя культы сярод беларусаў захоўваліся да самага апошняга часу, як і вера ў ваўкалакаў. Да таго ж на Беларусі і сёння маюцца вёскі з назвамі Наўры, Наўрані, прозвішчы Невар, Наўрас, Наўрот, Наўроцкі. Па гэтых прычынах некаторыя даследчыкі лічаць неўрамі менавіта носьбітаў мілаградскай культуры.

Цікавыя падзеі разгортваліся ў жалезным веку і на Берасцейшчыне. Яшчэ ў познім бронзавым веку сюды пранікла насельніцтва лужыцкай культуры.

Яно жыло на гарадзішчах і селішчах, памерлых хавала на грунтавых могільніках пераважна па абраду крэмацыі. У пахавальных ямах знаходзяцца рытуальныя пасудзіны — урны з рэштками спаленых нябожчыкаў, побытавыя рэчы і ўпрыгожанні. Лужычане асабліва вылучаліся разнастайнасцю глінянага начыння. Большасць даследчыкаў лічыць іх продкамі старажытнейшых славян.

У IV ст. да н. э. назіраецца заняпад лужыцкай супольнасці. Мяркуючы па знаходках скіфскіх наканечнікаў, слядоў пажараў на паселішчах, гэта магло адбыцца ў выніку ўзброенага наступу з Прычарнаморскіх стэпаў. Аднак на паўночным захадзе Польшчы, куды не дасягнуў спусташальны скіфскі націск, частка лужычан пачала набірацца моцы і сфарміравала новую археалагічную культуру — паморскую. Паморцы занялі большасць тэрыторый, якія калісьці належалі лужычанам. У III ст. да н. э. пранікл і яны і на Прыпяць.

У пачатковую эпоху жалезнага веку (VII — III стст. да н. э.) вызначальнай сілай на прасторах ад Чорнага і амаль да Балтыйскага мора былі скіфы, якія размаўлялі на адной з іранскіх моў.

Аднак у III ст. да н. э. скіфская дзяржава была разгромлена качэўнікамі з усходу — блізкамоўнымі ім сарматамі. Гэта катастрофа адгукнулася этнакультурнымі і палітычнымі зменамі на значных прасторах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Большасць скіфаў была адкінута пераможцамі на Крымскі паўвостраў, астатнія ратаваліся ў лясах і лесастэпах на перыферыі мілаградскіх уладанняў.

Заняпад сваіх стэпавых і крыўдзіцеляў, і, мабыць, часцей, саюзнікаў і заступнікаў стаў згубным і для саміх мілаградцаў. Яны, пакаленнямі спадзеючыся больш на моц скіфскіх жалезных мячоў і стрэл, чым на ўласную мужнасць і непрыступнасць гарадзішчаў, сталі лёгкай здабычай заходніх суседзяў — плямён паморскай культуры. У выніку ад змешвання культур находнікаў і абарыгенаў, пры значным скіфскім уплыве, на Прыпяці і Беларускім Падняпроўі, а таксама на сярэднім Падняпроўі Украіны сфарміравалася (сярэдзіна III ст. да н. э.) новая культура — зарубінецкая, названая так па могільніку каля в. Зарубінцы на Кіеўшчыне.

# ЗАРУБІНЦЫ



*Гэтая падвеска з чырвонай эмаллю належала нашчадкам зарубінцаў, якія жылі на гарадзішчы Адаменка Быхаўскага р-на.*

Зарубінцы сваё панаванне распачалі пашырэннем і дадатковым умацаваннем колішніх мілаградскіх гарадзішчаў. Аднак яны не баяліся часам сяліцца і на неўмацаваных вёснах (селішчах), размяшчаючы іх, аднак, непадалёку ад сваіх земляных замкаў. Каля в. Чаплін Лоеўскага раёна на высокім беразе Дняпра выяўлены цэлы комплекс помнікаў зарубінецкага насельніцтва — гарадзішча, селішча і могільнік.

Ад Дняпра гарадзішча ахоўвалася абрывістым берагам, з боку поля яно было ўмацавана валам і ровам. На пляцоўцы гарадзішча плошчай больш за 0,5 га знаходзілася да трох дзесяткаў, пераважна наземных, а таксама крыху заглыбленых у зямлю жытлаў слупавай канструкцыі. Яны былі невялікія, у 16—24 кв. м. Трэба думаць, што ў слупах высякалі пазы, у якія ўстаўлялі абчэсаныя бярвенцы. Над такімі сценамі ўзвышаліся двухсхільныя стрэшкі.



*Археалагічны комплекс каля в. Чаплін Лоеўскага р-на: гарадзішча, селішча, могільнік насельніцтва зарубінецкай культуры.*



*Матэрыялы зарубінецкай культуры: гліняны ляпны посуд, пахаванне у яме, упрыгожанні — грыўня, фібулы, шпількі, пярсцёнак, падвеска, бранзалет.*



*Жалезныя прылады працы зарубінцаў: рыбацкі кручок, нажніцы, нажы, сярпы, сякера з ад тулінай у абушку.*



*Зброя зарубінцаў: наканечнікі коп'яў і стрэл.*



*Бронзавы зарубінецкі бранзалет (в. Чаплін).*

Побач размяшчаліся шматлікія гаспадарчыя ямы. Мяркуючы па крыцах і жужалу, жыхары шмат здабывалі жалеза і выраблялі з іх розныя неабходныя сабе рэчы. Асабліва багата сярпоў, што гаворыць аб высокім развіцці земляробства. Займаліся і бронзаліцейнай справай. Пра гэта сведчаць плавільныя тыглі, льячкі, ліцейныя формачкі, адлітыя ўпрыгожанні.

Кераміка, якой карысталіся зарубінцы з Чапліна, у асноўным складалася са жбанападобных гаршкоў, місак і кубкаў. Частка посуду заглянцавана. Шмат сустракаецца гліняных праселак.

Перад гарадзішчанскім валам размяшчалася веска — селішча. Яно не абмяжоўвалася лініяй умацаванняў, таму і раскінулася ажно на 3 га. Адпаведна тут танчэйшы культурны пласт і бяднейшы знаходкамі.

Адразу ж за селішчам на прыдняпроўскім беразе знаходзіўся і апошні прытулак тутэйшых жыхароў — могільнік. Тут выяўлена каля 300 пахаванняў у невялікіх ямах па абраду крэмацыі. З рэшткамі нябожчыкаў былі наканечнікі коп'яў, нажы, сякеры, упрыгожанні, посуд. Некаторыя пахаванні вылучаюцца багаццем, часам нябожчыка «на той свет» суправаджала забітая рабыня.

Аналіз Чаплінскага комплексу дазваляе меркаваць, што мясцовае жыхарства ўжо знаходзілася на стадыі пераходу ад патрыярхальнай родавай абшчыны да суседскай.

У II — IV стст. н. э. культура нашчадкаў зарубінецкага насельніцтва мяняецца. У гаспадарцы цалкам пераважаюць земляробства і жывёлагадоўля. Павялічваюцца памеры сярпоў. Зерне перапрацоўваецца на муку не толькі на каменных зерняцёрках, але і ў жорнах. Сярод мясцовых жыхароў асабліва распаўсюджанымі робяцца бронзавыя ўпрыгожанні з каляровымі эмалямі. Падтрымліваюцца даволі цесныя сувязі з ускраінамі Рымскай імперыі, вынікам чаго стала з'яўленне прывазных рэчаў, рымскіх манет.

Калі аб этнічнай прыналежнасці носьбітаў мілаградскай культуры спрачаюцца (балты? славяне?), то зарубінцаў і асабліва іх нашчадкаў шмат хто з сённяшніх даследчыкаў звязвае са старажытнымі славянамі.

## ГОТЫ-ГУТЫ




*Карта гоцкага рассялення з нізоўяў Віслы.*

У II ст. н. э. з нізоўяў Віслы на ўрадлівыя землі Прычарнамор'я пачаўся рух германскіх плямёнаў готаў (гутаў) і роднасных ім гепідаў. Частка готаў на даволі працяглы час (канец II — III ст.) затрымалася на нашым Пабужжы і Верхняй Прыпяці, пакінуўшы пасля сябе рэшткі селішчаў і могільнікаў, якія археолагі аб'ядноўваюць у так званую вельбарскую культуру. Сваіх памерлых готы хавалі пераважна па абраду трупаспалення ў неглыбокіх ямах. Пры іх раскопках знаходзяць прысадзісты гліняны посуд, прасліцы, жалезныя прылады працы, металічныя і шкляныя ўпрыгожанні, касцяныя грабяні. Жылі находнікі ў паўзямлянках і даволі вялікіх наземных будынінах, сцены якіх, што трымаліся на ўкапаных слупах, былі сплецены з галля і абмазаны глінай. У жытлах, а таксама каля іх, меліся выкапаныя ямы-сховішчы. Навокал паселішчаў не выяўляецца нейкіх адмысловых умацаванняў.

Калі меркаваць па пахаваннях і матэрыялах на паселішчах, готы былі спакойным і міралюбівым народам. Але гэта было не так. Па пісьмовых крыніцах вядома, што яны, трапіўшы ў Прычарнамор'е,



*Найбольш тыповыя знаходкі з могільніка готаў на ўскрайку Брэста.*

стварылі разам са славянскімі і іншымі плямёнамі моцную дзяржаву, якая сур'ёзна пагражала ўладанням Рымскай імперыі. Готы-гуты, відавочна разам з мясцовымі славянамі, рабілі ўзброеныя паходы ў глыб тэрыторыі Беларусі, заселенай на той час пераважна балтамі. Успаміны пра гэтыя разбойніцкія ўварванні і такое небяспечнае суседства з поўдня засталіся ў памяці літоўцаў на доўгія стагоддзі. Мабыць па гэтай прычыне яны славян-беларусаў і сёння яшчэ завуць гудамі, а нашу краіну Гудзіяй.

## НА ЎЗГОРКАХ МІНШЧЫНЫ І ВІЦЕБШЧЫНЫ



*Бронзавая накладка на шчыт. Гарадзішча «штрыхавікоў» каля в. Лабеншчына Мінскага р-на.*

З самага пачатку жалезнага веку і да сярэдзіны першага тысячагоддзя н. э. прасторы цэнтральнай Беларусі засялялі плямёны культуры штрыхаванай керамікі. Назва культуры сведчыць, што яе носьбіты выраблялі характэрны пласкадонны гліняны посуд з моцна заштрыхаванымі паверхнямі. На працягу ўсяго больш чым тысячагадовага перыяду існавання сваёй супольнасці «штрыхавікі», за невялікім выключэннем, жылі на гарадзішчах. Гэтыя ўмацаваныя паселішчы яны ладзілі на берагах азёр і рэчак, а таксама на ўзгорках, якімі так багатая Міншчына. Пляцоўкі гарадзішчаў па краю або па ўсёй плошчы забудоўваліся доўгімі наземнымі жытламі слупавай канструкцыі. Вядомы былі і зрубы. Матэрыяльная культура «штрыхавікоў» тыповая для жалезнага веку нашага краю. Мясцовай асаблівасцю з'яўляўся звычай абмазваць сцены жытла глінай, а ў гаспадарцы — асаблівая ўвага надавалася свінагадоўлі.

На паўночны ўсход ад тэрыторыі рассялення



*Гарадзішча «штрыхавікоў» у в. Малышкі Вілейскага р-на. Рэканструкцыя.*



*Тыповыя рэчы, што сустракаюцца пры раскопках гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі: наканечнікі кап'я і дроціка, серп, сякера, шпілька, праселка, грузік, гаршчок з заштрыхаванай паверхняй.*



*Бронзовая запінка-фібула з чырвонай эмаллю (в. Малышкі).*



*Рэчы з гарадзішчаў дняпроўскадзвінскай культуры: каменная і жалезная сякеры, шпількі.*



*Бронзавая скроневая падвеска. Гарадзішча Буракова Гарадоцкага р-на.*

пляёнаў культуры штрыхаванай керамікі, у басейнах Дзвіны і Верхняга Дняпра, жыло роднаснае «штрыхавікам» насельніцтва дняпроўска-дзвінскай культуры. У адрозненне ад Міншчыны ў гэты час на паўночным усходзе Беларусі ўжываўся амаль выключна гладкасценны посуд. А родніць днепрадзвінцаў са «штрыхавікамі» не толькі характар умацаваных паселішчаў, тыпы домабудаўніцтва, іншыя рысы матэрыяльнай і духоўнай культуры, але і адсутнасць выяўленых пахаванняў. Мясцовыя жыхары трымаліся нейкіх дзівацкіх пахавальных абрадаў, якія не захоўвалі ніякіх слядоў ні нябожчыка, ні магіл.

Носьбітаў абедзвюх гэтых культур большасць даследчыкаў прылічвае да старажытных балтаў. На крайняй поўначы Падзвіння адчуваўся ўплыў і фіна-угорскага насельніцтва.

Старажытныя грэкі лічылі, што побач з неўрамі жыло іншае племя — андрафагі (пажыральнікі мужчын). З імі даследчыкі часам звязваюць насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі або дняпроўскадзвінскай. Калі гэта і сапраўды так, то нас не павінна бянтэжыць, што нашы продкі на нейкай тэрыторыі і ў пэўны час, магчыма, былі людаедамі. Праз рытуальны канібалізм прайшлі многія першабытныя народы, а можа і ўсе, тыя ж грэкі — таксама. Пра гэта сведчаць і археалогія, і этнаграфія.

## АД АБМЕНУ
## ДА ГАНДЛЮ




*Старажытныя бурштынавыя шляхі.*

Нават на старажытнейшых паселішчах сустракаюцца рэчы, што паходзяць з аддаленых зямель — ракавіны для ўпрыгожанняў, вырабы з асаблівых гатункаў крэменю. Траплялі яны на Беларусь шляхам прымітыўнага першабытнага абмену. З часам, калі жыхарства большала, а заняткі і побыт яго станавіліся ўсё больш разнастайнымі, абмен рабіўся больш актыўным. Асабліва гэта характэрна для бронзавага веку. Перш за ўсё шляхам абмену на нашу тэрыторыю траплялі медзь і бронза з Закаўказзя і Заходняй Еўропы. З Прыбалтыкі атрымлівалі бурштын. А што ж прапаноўвалася ўзамен? Паўднёва-ўсходняя Прыбалтыка бедная крамянёвай сыравінай, а на Беларусі было багата яе. Таму найперш крэмень і абменьвалі на бурштын. У канцы новакаменнага веку і ў эпоху бронзы асаблівага росквіту дасягнуў збыт крамянёвых сякер, якія выраблялiся на краснасельскіх крэменездабыўных шахтах. Пэўныя лішкі бурштыну, што заставаліся пасля ўласнага спажывання, жыхары нашых паселішчаў абменьвалі на металы і шкляныя ўпрыгожанні паўднёвых суседзяў.



*Бурштынавыя ўпрыгожанні бронзавага веку з Падняпроўя.*



*Скарб мілаградскіх бранзалетаў (в. Гарошкаў).*

Лічыцца, што ў бронзавым веку вылучаюцца групы людзей, для якіх абмен рэчамі робіцца асноўным заняткам, галоўнай крыніцай існавання. Са звыклых мянялынчыкаў яны паступова ператвараюцца ў гандляроў. Мабыць, менавіта ім і належыць значная частка скарбаў каменных і металічных вырабаў, грэчаскіх і рымскіх манет, знойдзеных пры раскопках паселішчаў гэтага часу.

У бронзавым веку таксама ўжо актыўна дзейнічае вядомы Бурштынавы шлях, па якому сонечная смала паўночных мораў трапляла ажно на Міжэемнамор'е. Такі ж вялікі попыт на прыбалтыйскі бурштын быў і ў жалезным веку.

У эпоху распаўсюджання жалеза гандлёвыя сувяз! паміж асобнымі тэрыторыямі становяцца даволі рэгулярнымі. Звыклым быў абмен на памежжы археалагічных культур. Аднак сустракаецца шмат рэчаў, якія прывозіліся за многія сотні кіламетраў. Так, на большасці могільнікаў паўднёвай Беларусі знаходзяць каляровыя шкляныя пацеркі, якія выраблялiся ў грэка-рымскіх гарадах Прычарнамор'я.

Адтуль жа, а таксама са Скіфіі, заселенай пераважна кельтамі Заходняй Еўропы, траплялі рэчы ўзбраення і некаторыя прылады працы, асобныя ўпрыгожанні, ганчарны і медны посуд.

У абмен на прывазное багацце жыхары Беларусі жалезнага веку маглі прапанаваць суседзям, акрамя рэшткаў бурштыну, футры лясных звяроў, мёд, воск, збожжа і, вядома, рабоў, без якіх не магла існаваць антычная гаспадарка.

К канцу жалезнага веку, калі ў Прычарнамор'і з'явіліся ваяўнічыя качэўнікі з усходу, а частка германа-славянскіх плямёнаў рушыла на поўдзень, традыцыйныя гандлёвыя сувязі Беларусі з ускраінамі Рымскай імперыі парушыліся. Зараз, мабыць, большасць нязвыклых для нашай тэрыторыі рэчаў, асабліва каштоўных упрыгожанняў, магла трапляць сюды толькі як ваенная здабыча.

# РАННЯЕ СЯРЭДНЯВЕЧЧА

## СВІТАНАК НОВАЙ ЭПОХІ




*Рассяленне плямёнаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў VI — VII стст.: 1 — першапачатковая славянская тэрыторыя; 2 — рассяленне славянскіх плямёнаў; 3 — балцкія плямёны; 4 — фіна-угорскія плямёны;* **5 —** *германцы.*

У сярэдзіне I тысячагоддзя пад націскам варварскіх плямёнаў — пераважна германскіх і славянскіх, спыніла існаванне Заходняя Рымская імперыя. Гэтая падзея, а таксама вялікія германа-славянскія перасяленні непазнавальна змянілі аблічча Еўропы, яе этнакультурнае і палітычнае ўладкаванне, гаспадарчае жыццё.



*Знаходкі з раннеславянскіх помнікаў Палесся: гліняныя гаршкі, наканечнікі стрэл.*

Колішнія першабытныя грамадствы актыўна ўступілі на гістарычную сцэну, утвараючы раннефвадальныя дзяржавы. Пачалася эпоха сярэдніх вякоў, эпоха фвадалізму.

Світанак новай эпохі на нашых тэрыторыях пачынаецца з актывізацыі славяяскіх плямёнаў.

Першавытокі славянства, пачатковыя этапы яго развіцця — адна з найбольшых загадак еўрапейскай гісторыі. Хоць грэка-рымскія пісьмовыя крыніцы ўпамінаюць славян ужо ў самым пачатку I тысячагоддзя н. э., аднак бясспрэчныя рэшткі іх матэрыяльнай і духоўнай культуры шляхам археалагічных раскопак выяўляюцца толькі з V ст. У гэты час славяне быццам выбухнулі неўтаймаванай энергіяй і пачалі імкліва распаўсюджвацца на значных прасторах Еўропы — ад Балтыйскага да Адрыятычнага і Чорнага мораў, ад усходняй Германіі і ажно да вярхоўяў Волгі. Выразныя сляды іх сталага знаходжання ў VI — VII стст. знойдзены і на паўднёвым ускрайку Беларусь

Тутэйшае насельніцтва так званай пражскай культуры жыло пераважна ў неўмацаваных вёсках ва ўрадлівай даліне Прыпяці і на яе прытоках. Жытламі былі паўзямлянкі з агнішчамі на покуце. Сярод глінянага посуду вылучаюцца тыповыя для ранніх славян патэльні. Каля в. Хатомель Столінскага равна на Брэстчыне выяўлены цэлы комплекс славянскіх помнікаў — вёска-селішча, гарадзішча і могільнік. Асабліва цікавае гарадзішча, дзе жыла знаць і ваенная дружына, якія здзяйснялі ўладу ў акрузе. Тут, акрамя звыклага гаспадарчага і побытавага матэрыялу, знойдзена ўзбраенне — жалезныя наканечнікі коп'яў і стрэл, рэшткі ахоўнага панцыра ваяра і рыштунку баявога каня.

**БАНЦАРАЎСКА-КАЛОЧЫНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ**




*Распаўсюджанне банцараўскіх (Б) і калочынскіх (К) плямёнаў, усходняя мялса беларускіх гаворак у пачатку XX ст. (1).*

З сярэдзіны I тысячагоддзя славяне з берагоў Прыпяці пачынаюць рух на поўнач, на землі, якія спрадвеку займалі балты — продкі сённяшніх літоўцаў і латышоў. Менавіта з гэтага часу ў цэнтральнай і ўсходняй Беларусі пачала складвадца банцараўская культура (названа па гарадзішчу каля в. Банцараўшчына пад Мінскам). Яе носьбітамі ў пераважнай большасці былі балты. Аднак у культуры прыкметны і некаторыя рысы, характэрныя для славян, што сведчыць пра пранікненні з поўдня. Гэта — з'яўленне паўзямлянкавых жытлаў, асаблівых формаў посуду, славянскай зброі, жорнаў. Мяркуючы па знаходках, находнікі ўяўлялі групы пераважна мужчынскага насельніцтва, добра ўзброенага



*Знаходкі з гарадзішчаў банцараўскай культуры Міншчыны: наканечнік кап'я, нож, рытуальны нож з навершам у выглядзе рагоў барана, серп, кальцо ад спражкі, шпора, глінянае праселка.*



*Гарадзішча банцараўскага насельніцтва са Смаленшчыны. Рэканструкцыя.*




*Сярэбранае ўпрыгожанне з каляровымі эмалямі IV — V стст. Лагойшчына.*

і арганізаванага. Гэта павінна было выклікаць супраціўленне мясцовага жыхарства.

Падобныя ж працэсы адбываліся на Гомельшчыне і Браншчыне. Там сфарміравалася вельмі блізкая банцараўскай калочынская культура.

Уражваюць супадзенні межаў рассялення банцараўска-калочынскіх плямёнаў з тэрыторыяй распаўсюджання беларускай мовы ў навейшы час. Але гэта робіцца зразумелым, калі зыходзіць з існуючай тэорыі аб фарміраванні старажытнабеларускага народа ў выніку асіміляцыі балтаў славянамі.

Насельніцтва банцараўскай культуры, у адрозненне ад папярэднікаў, жыло ў неўмацаваных паселішчах-вёсках. Гэта, мусіць, сведчыць, што зараз адпала неабходнасць кожнаму роду паасобку клапаціцца пра сваю бяспеку. Такое магло здарыцца пры існаванні калектыўнай абароны, гэта значыць пры пэўных формах дзяржаўнай арганізаванасці.

Пра існаванне дзяржаўнасці ва ўсходніх славян яшчэ ў дапалацкую эпоху вучонымі гаворыцца даўно. Акрамя памянёнага характару паселішчаў, пра дапісьмовую дзяржаўнасць на тэрыторыі Беларусі могуць сведчыць знаходкі надзвычай багатых упрыгожанняў, якія належалі асобам высокага становішча, шматлікага ўзбраення на некаторых умацаваннях, дзе магла жыць княжацкая дружына. Само слова «князь», у значэнні «военачальнік», «правіцель», было вядома славянам яшчэ да іх рассялення на прасторах Еўропы, гэта значыць да сярэдзіны першага тысячагоддзя. За тысячу гадоў да існавання банцараўскага насельніцтва грэчаскі гісторык Герадот адзначаў наяўнасць у неўраў племянных валадароў — базілеўсаў. Варта памятаць, што і суседнія са славянамі германскія плямёны, тыя ж готы ў пачатку тысячагоддзя, ужо ведалі спадчынную каралеўскую ўладу, часам і моцную. Славяне былі на такім жа ўзроўні гаспадарчага і сацыяльнага развіцця. Таму і ў іх былі аналагічныя ўмовы дзяржаватворчасці.

Мяркуемая «Банцараўская дзяржава» праіснавала нядоўга. Праз пару стагоддзяў на тэрыторыю Беларусі накочваецца новая і мацнейшая хваля славянскіх перасяленняў, на гэты раз летапісных плямёнаў крывічоў, радзімічаў, драгавічоў (дрыгавічоў).

# КАРАНІ БЕЛАРУСКАГА РАДАВОДУ




*Рассяленне летапісных плямёнаў на тэрыторыі Беларусі.*

Першавытокі беларускага этнасу выяўляюцца ў глыбокай даўніне. З многіх каранёў і карэньчыкаў набіраў ён сваю моц. Пачатак самых старажытных хаваецца ў змроку пасляледавіковых тысячагоддзяў. У радаводзе можна знайсці і першых жыхароў краю забытай ужо мовы, і фіна-ўграў, і германцаў, а таксама, мабыць, скіфаў і кельтаў. Але найбольш моцнымі, найбольш жыццяздольнымі аказаліся два карані беларускага дрэва — балцкі і славянскі. Менавіта яны вызначылі характэрнейшыя асаблівасці нашага народа, што розняць яго ад суседзяў, робяць адметным этнасам у еўрапейскай сям'і.

Старажытныя балты — прамыя продкі сучасных літоўцаў і латышоў, у старажытнасці, мяркуючы па назвах вадаёмаў, засялялі практычна ўсю тэрыторыю Беларусі.



*Яцвяг. Рэканструкцыя па чэрапе.*

*Бранзалеты яцвяжскіх жанчын.*



*Убор літоўскай жанчыны. Рэканструкцыя па археалагічных матэрыялах.*





*Знаходкі з літоўскіх пахаванняў у заходняй Мядзельшчыне: жалезны ўмбон шчыта для аховы рукі, спіральныя ўпрыгожанні, спражка, сякера, нож, наканечнік кап'я.*

Іх фарміраванне можна аднесці да пачатку бронзавага веку (пачатак II тысячагоддзя да н. э.). З другой паловы I тысячагоддзя н. э., калі балты ўступілі ў самы цесны кантакт са славянскай стыхіяй, хаця гэта магло адбыцца і значна раней, мы ўжо ведаем назвы іх плямёнаў на Беларусі, зафіксаваныя ў летапісах. Былі гэта яцвягі і літва.

Племя яцвягаў засяляла ў асноўным міжрэчча Нёмана і Нарава. Іх вёскі і ўмацаваныя паселішчы пакуль што даследаваны слаба. Больш вядомы курганныя могільнікі з каменнымі выбрукоўкамі ў магілах. Самыя раннія пахаванні датуюцца III ст. і ўтрымліваюць як трупапалажэнне, так і трупаспаленне нябожчыкаў. Пазней запанаваў абрад крэмацыі, а з XI ст.— зноў трупапалажэння. У мужчынскіх пахаваннях шмат разнастайнага ўзбраення і рыштунку баявых коней, што было натуральным для таго неспакойнага часу. У жаночых — пераважаюць упрыгожанні і дробныя прылады працы.

Яцвягі былі ваяўнічым і мужным народам, які тры стагоддзі (з X па XIII) вытрымліваў амаль безупынны націск дружын кіеўскіх і галіцка-валынскіх князёў, валадароў Польшчы, а таксама нямецкіх рыцараў. Аднак урэшце іх землі былі спустошаны, а насельніцтва ў значнай ступені вынішчана, расцярушана па суседніх землях. Астатнія — славянізаваліся і сталі састаўной часткай беларусаў Гарадзеншчыны і Падляшша. І зараз толькі ў назвах вёсак «Ятвезь» засталася па іх жывая памяць.

Найбольш шматлікай і жыццеўстойлівай групай балцкіх плямёнаў на Беларусі была літва. Ім у часы Полацкага княства належалі землі ў Верхнім Панямонні і на Павіленні. Раней, магчыма, тэрыторыя іх уладанняў была большай. Тут знойдзены рэшткі неўмацаваных вёсак і гарадзішчы, але, як і ў выпадку з яцвягамі, археолагамі вывучаліся пераважна толькі курганныя могільнікі. Старажытнейшыя пахаванні вядомы з IV ст. Яны ўтрымліваюць трупапалажэнні і камяні ў насыпах. З сярэдзіны I тысячагоддзя распаўсюдзіўся абрад крэміравання. Нябожчыкам «на той свет» клалі шмат рэчаў — разнастайныя прылады працы, упрыгожанні. У мужчынскіх пахаваннях, асабліва больш ранніх, над звычай багата зброі. У канцы I тысячагоддзя пашыраюцца рытуальныя пахаванні коней.

Літоўскія плямёны таксама цярпелі ад частых узброеных нашэсцяў суседзяў (галіцка-валынскіх князёў, палякаў, немецкіх рыцараў і інш.). Але лёс іх быў іншым, чым яцвягаў. Уступіўшы ў саюз са славянамі Беларусі, яны не толькі выстаялі, але і аказалі актыўнае ўзброенае супрацьдзеянне, а нярэдка і наступ. Яны ж паспяхова ўдзельнічалі ў стварэнні магутнай беларуска-літоўскай дзяржавы сярэднявечча — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

Мяркуючы па назвах шэрага населеных пунктаў, на Беларусі жылі і іншыя балцкія плямёны. Сярод іх лотва і латыгаль, з якімі генетычна звязваюцца пазнейшыя латышы, а таксама, магчыма, дайнова, ішкальдзь і інш.

Дзякуючы славянізацыі балтаў ужо ў гістарычны час мяжа беларускага этнасу няўхільна пашыралася на захад у бок Віслы, па Нёману, Віліі і Дзвіне — у кірунку да Балтыйскага мора.

## ЛЕТАПІСНЫЯ СЛАВЯНЕ. КРЫВІЧЫ



*Крывіцкія курганы на Ушаччыне.*

Мы не ведаем саманазвы прыпяцкіх славян, як і тых. што з VI ст. пачалі рух на поўнач у балцкае асяроддзе. Аднак летапісы засведчылі, што пазней, напярэдадні ўтварэння Полацкай дзяржавы, на нашых землях раепаўсюдзіліся ўсходнеславянскія плямёны крывічоў, драгавічоў і радзімічаў. Яны былі аб'яднаннямі плямёнаў, якія ўжо мелі свае княжанні. Іх назвы, мяркуючы па суфіксу «іч», паходзілі ад імён князёў-аб'яднальнікаў. Згодна летапісаў, у радзімічаў ім быў Радзім. У крывічоў мог быць Крыў, або Крывы, у драгавічоў — Драг.

Найбольш вялікае і моцнае аб'яднанне ўяўлялі крывічы. Ім удалося рассяліцца на шырокіх прасторах Усходыяй Еўропы ад Верхняга Панямоння да Паволжа, ад вярхоўяў Сожа і Дзясны да ўзбярэжжа Пскоўскага возера. На Гродзеншчыне яшчэ і сёння захаваліся вёскі Крывічы, Крывічане, Крэва і г. д. Такія назвы сведчаць пра актыўную каланізацыю гэтым дынамічным насельніцтвам суседніх тэ-



*Гліпяны посуд летапісных славян.*



*Упрыгожанні з крывіцкіх курганных пахаванняў.*

*Крывічанка. Рэканструкцыя па чэрапе.*





*Адзенне крывіцкага мужчыны. Рэканструкцыя па матэрыялах з пахавання каля в. Кублішчына Міёрскага р-на.*




План крывіцкага курганнага могільніка каля в. Вышадкі Гарадоцкага р-на.



Славянская зброя.



*Знаходкі з курганоў пад Смаленскам, якія належалі крывіцка-варажскаму насельніцтву.*

рыторый. На Міншчыне яны моцна змешваліся з драгавічамі.

Жывучы пераважна ў вёсках, крывічы свае паселішчы — цэнтры акруг — ператваралі ва ўмацаваныя гарадзішчы. З часам некаторыя гарадзішчы выраслі ў асяродкі рамяства і гандлю — у гарады. На сённяшняй тэрыторыі Беларусі вядомы старадаўнія крывіцкія гарады Віцебск, Лукамль, Друцк, Ворша, Копысь. Галоўным, важнейшым цэнтрам заходніх крывічоў стаў Полацк, на ўсходзе ім быў Смаленск.

У XII ст. племянная назва «крывічы», як, дарэчы, і суседніх драгавічоў і радзімічаў, знікае са старонак летапісаў. Гэта сведчыць пра аб'яднанне насельніцтва ў этнаграфічныя і палітычныя ўтварэнні.

Праўда, назвы «крывічы», «Крывіцкая зямля» захаваліся ў гістарычнай традыцыі суседніх народаў і пазней. «Крывіяй» называлі значную частку Беларусі немцы яшчэ ў XIV ст. А латышы і сёння называюць суседніх славян — «крыўс». У мінулым стагоддзі частка беларусаў таксама лічыла сябе крывічамі. А калі паўстала пытанне аб аднаўленні дзяржаўнасці нашага народа, былі прапановы назваць беларускі край Крывіяй.

Крывічы як этнічная супольнасць пачалі фарміравацца яшчэ ў сярэдзіне I тысячагоддзя, і напачатку былі амаль выключна балтамі. Мабыць, і назва іх была тады іншай. Толькі з часам яны ўсё больш набываюць славянскія рысы. Мабыць, таму часам і летапісцы сумняваліся — ці адносіць крывічоў да народа славянскай мовы.

У матэрыяльнай і духоўнай культуры, па этнаграфічных асаблівасцях пазнейшыя крывічы мала адрозніваліся ад суседніх славянскіх народаў-плямёнаў. Таму, каб вылучыць межы іх рассялення, вучоныя асаблівую ўвагу звяртаюць на даследаванне пахавальнага абраду і тыпаў жаночых упрыгожанняў.

З самага пачатку крывічы сваіх памерлых хавалі па абраду крэмацыі пад курганнымі насыпамі. Найбольш тыповымі былі валападобныя курганы даўжынёй часам больш за 100 м і шырынёй у 8-10 м. Такія «доўгія курганы» сустракаюцца толькі на крывіцкай тэрыторыі. Нярэдка насыпы былі і круглыя. Пазней толькі так і выглядалі магілы мясцовага насельніцтва.

З распаўсюджаннем з канца X ст. хрысціянства, якое забараняла крэмацыю, крывічы, як і ўсё тагачаснае жыхарства Беларусі, перайшло да абраду трупапалажэння. Хаця па спрадвечнай завядзёнцы памерлым працягвалі класці ў магілы рэчы і насыпалі курганы. У язычніцкіх пахаваннях археолагі рэчаў знаходзяць мала — пераважна толькі гаршкі. Рэшту нішчыў агонь. У курганах жа з трупапалажэннямі знаходак больш. Акрамя посуду, сустракаюцца бронзавыя і медныя ўпрыгожанні, жалезныя рэчы і г. д. Пры гэтым, зразумела, у жаночых пахаваннях упрыгожанняў больш. Там жа можна знайсці сярпы, праселкі да верацёнаў. У мужчынскіх — сякеры, наканечнікі коп'яў, часам і мячы.

Існуюць паданні, што ў курганах прыхавана золата і іншыя багацці. Таму скарбашукальнікі-марадзёры часта разрываюць старадаўнія могільнікі, знішчаюць іх. Аднак пад насыпамі знайшоў супакой у асноўным просты люд, нашы далёкія продкі — язычнікі і раннія хрысціяне. З гэтай прычыны рэчы ў пахаваннях заржавелыя, акісленыя, не маюць грашовай каштоўнасці. А вось для спецыяліста-археолага яны — найважнейшая крыніца звестак пра матэрыяльную культуру колішняга насельнідтва, пра вераванні і нават знешні выгляд памерлых. Той, хто разбурае даўнія магілы, не толькі парушае законы, нормы чалавечай маралі, але робіць замах і на нашу гістарычную памяць.

Большасць упрыгожанняў крывічанак, што знойдзены ў пахаваннях, падобныя на радзіміцкія і драгавіцкія, яны агульнаславянскіх тыпаў. Аднак ёсць і толькі мясцовае аздабленне — вялікія бранзалетападобныя скроневыя кольцы з медзі, вельмі рэдка з серабра, якія прышываліся да галаўнога ўбору. Такія знаходкі — быццам «племянныя пашпарты». Менавіта па іх у асноўным і вызначаюцца крывіцкія пахаванні, удакладняюцца тэрыторыі рассялення гэтых плямёнаў.

## ДРАГАВІЧЫ І РАДЗІМІЧЫ



*Упрыгожанні драгавіцкіх жанчын.*

Згодна ўсходнеславянскіх летапісаў, тэрыторыі паміж Прыпяццю і Дзвіной займалі драгавічы — другое буйное аб'яднанне плямён на Беларусі. Археалагічныя раскопкі дазволілі ўдакладніць межы іх уладанняў. Драгавіцкія паселішчы і могільнікі сустракаюцца на поўдзень ад Прыпяці, на ўсходзе даходзяць да Дняпра, на поўначы — ваколіц Заслаўя, Лагойска і Барысава, на захадзе — берасцейскага Пабужжа. Папярэднікам і этнічным вытокам драгавічоў было стараславянскае насельніцтва пражскай культуры ўзбярэясжа Прыпяці. Распаўсюджваючыся на поўнач ад гэтай ракі, драгавічы актыўна асімілявалі балтаў.

Драгавічы, займаючы ўрадлівыя землі Палесся, кантактуючы з больш цывілізаваным паўднёвым насельніцтвам, вылучаліся гаспадарчым і сацыяльным развіццём. Гэта выяўлялася ў даволі прадукцыйных земляробстве, жывёлагадоўлі і рамястве, у раннім зараджэнні дзяржаўнасці, у наяўнасці значнай колькасці гарадоў, сярод якіх вядомы Тураў, Пінск, Давыд-Гарадок, Берасце (Брэст), Клецк, Слуцк, Капыль, Рагачоў. На памежнай драгавіцка-крывіцкай тэрыторыі ўзніклі Менск, Лагойск, Барысаў.



*Упрыгожанні з радзіміцкіх курганоў.*



*Убор радзімічанкі.*

Найбольш вядомае дзяржаўнае ўтварэнне драгавічоў — Тураўскае княства. Час яго ўзнікнення летапісы адносяць да другой паловы X ст. Аднак даволі хутка Тураўскае княства трапіла пад кіеўскае панаванне, з-пад якога вызвалілася толькі ў XII ст.

А.рхеолагамі вывучаліся пераважна могільнікі драгавічоў. Тутэйшае насельніцтва хавала памерлых пад круглымі курганнымі насыпамі па абраду трупаспалення. З канца X ст. нябожчыкаў ужо не спальвалі. У драгавічоў практыкаваліся пахаванні ў зрубных дамавінах з двухсхільным дахам, якія імітавалі чалавечае жытло.

Сярод пахавальнага інвентару з драгавіцкіх могільнікаў найбольш характэрныя скроневыя кольцы жаночага ўбору з вялікімі пацеркамі, аздобленымі прыпаянымі. Металічнымі шарыкамі.

Значна меншы саюз утваралі плямёны радзімічаў, якія рассяліліся на паўднёвым усходзе Беларусі — у асноўным на Пасолсжы. Этнавызначальнымі для іх матэрыяльнай культуры былі сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы.

Радзіміцкая зямля знаходзілася ў баку ад асноўных гандлёвых шляхоў Усходняй Еўропы, таму яна спачатку не трапляла ў сферу непасрэдных дзяржаўных інтарэсаў Кіева або Полацка, хоць і плаціла даніну хазарам, а потым кіеўскім князям. Аднак, у 984 г. кіеўскае войска пачало наступ на Пасожжа. Радзіміцкія ваяры былі разбіты непадалёку ад Прапошаска (цяперашняга Слаўгарада). Пазней зямля радзімічаў на пэўны час была падзелена паміж Чарнігаўскім і Смаленекім княствамі.

З'яўленне на Беларусі летапісных плямёнаў крывічоў, радзімічаў і драгавічоў узмацніла і паскорыла славянізацыю мясцовых балтаў, а значыць, рашаюча садзейнічала фарміраванню беларускага этнасу, асабліва на поўначы і захадзе. Гэты працэс у асноўным завяршыўся ў XIII ст., калі ўсё насельніцтва нашай краіны ўпершыню аб'ядналася ў адзінай дзяржаве — Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім.

## ЗАНЯТКІ, ПОБЫТ, ВЕРАВАННІ



*Язычніцкае свяцілішча каля Ходасавіч на Рагачоўшчыне.*

Галоўнымі заняткамі славянскага і балцкага насельніцтва былі земляробства і жывёлагадоўля. Пры гэтым у славян, якія здаўна кантактавалі з дастаткова цывілізаванымі паўднёвымі тэрыторыямі, яны былі больш развітымі, давалі шмат прадуктаў. Вялікія запасы харчавання вялі да даволі хуткага росту славянскага насельніцтва.

Напачатку ў славян, і асабліва ў балтаў, дамінавала падсечнае (ляднае) земляробства. Пазней усё больш пашыралася папарная сістэма землекарыстання, нават з дадатковым угнойваннем. Зямля апрацоўвалася сохамі і раламі з жалезнымі н а канем нікамі, драўлянымі баронамі-сукаваткамі. Вырошчваліся жыта, проса, пшаніца, ячмень, лён, каноплі, бабовыя, агароднiна. У статках мясцовага насельніцтва была буйная і дробная рагатая жывёла, свінні. Цяглавай сілай служылі коні і валы.

Прыкметнае месца, асабліва ў балтаў, займалі паляванне, збіральніцтва, розныя промыслы, звяза-

*Драўлянае божышча з Гомеля.*







*Каменнае язычніцкае божышча са Слоніма.*

ныя з лесам, у прыватнасці бортнае пчалярства. Развіваліея разнастайныя рамёствы. Вясковае насельніцтва старалася абыходзіцца ўсім сваім, ведучы, за невялікімі выключэннямі, натуральную гаспадарку.

Славяна-балцкае насельніцтва жыло ў невялікіх адкрытых паселішчах — вёснах. Пазней месцамі ладзіла гарадзішчы — замкі. Па поўдні жытлом былі пераважна паўзямлянкі, на поўначы, асабліва ў балцкім асяроддзі,— зрубныя хаціны. Памеры жытлаў невялікія — 10-20 кв. м. Звычайна на покуце знаходзілася глінабітная або каменная печка без коміна. Дым выходзіў праз адтуліну ў двухсхільнай страсе. Падлогі былі ў асноўным гліняныя, часам рабіліся з драўляных плашак. Нізенькае акенца на таўшчыню бервяна прапускала ў памяшканне мала святла. Акрамя печкі, у жытлах меліся дашчатыя сталы, лаўкі-лежакі, паліцы для начыння. Побач з хацінамі размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы і ямы-схованкі.

Умацаваныя паселішчы абкружаліся высокімі валамі, равамі, абносіліся вастраколам, або драўлянай сцяной.

Славяне і балты былі язычнікамі — мнагабожцамі. Акрамя таго, яны абагаўлялі і навакольную прыроду, пакланяліся дрэвам, крыніцам, камяням, верылі ў магічную моц асобных прадметаў. Багі ім уяўляліся ў абліччы людзей, надзеленых звышнатуральнай сілай. У славян Сварог быў богам неба, Ярыла, Вялее, Дажбог — сонечныя божаствы, Пярун — бог грому, маланкі і вайны. Багам будавалі бажніды — капішчы, прыносілі ахвяры, стараліся задобрыць рытуальнымі дзеяннямі.

## ПАДМУРКІ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ



*Першая старонка старажытнейшага ўсходнеславянскага летапісу.*

Пранікненне летапісных крывічоў, драгавічоў і радзімічаў на землі Беларусі ўзмацніла славянскасць старажытнабеларускага этнасу, прывяло да фарміравання тут племянных княжанняў. Такія ж дзяржаватворчыя працэсы адбываліся і на суседніх паўднёвых (украінскіх) і ўсходніх (расейскіх) абшарах. Складванне і ўмацаванне дзяржаўнасці ва ўсходнеславянскім асяроддзі паскорылася знешнімі фактарамі — набегамі варагаў (шведаў) з поўначы і хазараў з поўдня. Апошнім плацілі даніну і радзімічы. Каб супрацьстаяць ахвотнікам да чужога набытку, патрэбна было аб'ядноўвацца.

Аднак, як гэта часта бывае, працэс гуртавання запавольваўся саперніцтвам паміж мясцовымі князямі, кожны з якіх мог прэтэндаваць на вяршэнства.



*Выява ваяроў на абломку косткі з гарадзішча Маскавічы пад Браслават, дзе знаходзіўся гарнізон полацкага княства, сярод якога былі і варажсісія ваяры.*

*Меч X ст. з Полацка.*



*Рагвалод. Сучасны малюнак рэканструкцыя.*



*Узяцце Полацка князем Уладзімірам. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу.*

*Спроба Рагнеды адпомсціць Уладзіміру. Мініяцюра з летапісу.*

*Малалетні Ізяслаў бароніць Рагнеду перад Уладзімірам. Мініяцюра з летапісу.*



*Умацаванні старажытнага Ізяслаўля (Заслаўя). Рэканструкцыя.*



*Шаломы ўсходнеславянскіх ваяроў X-XI стст.*



*Пячатка полацкага князя Ізяслава.*



*Ваяры старажытнага Заслаўя часоў князя Брачыслава Ізяславіча. Рэканструкцыя па знаходках з курганоў.*



*Пояс заслаўскага дружынніка.*



*Мячы IX-X стст. усходнеславянскіх ваяроў.*



*Знаходкі з гара дзішча першапачатковага Полацка: сярэбраная бляшка, праселка, бурштынавы выраб.*



*Від на гарадзішча старажытнага Браслава. Паводле малюнка XIX ст.*




*Прыкладныя межы Полацкай дзяржавы пры Брачыславе (1) і напрамкі важнейшых балтыйска чарнаморскіх гандлевых шляхоў (2).*

І тут адыграла сваю дадатную ролю геаграфічнае размяшчэнне Усходняй Еўропы. Справа ў тым, што праз яе вёў гістарычны шлях «з вараг у грэкі», які звязваў Балтыйскае мора з Чорным і садзейнічаў эканамічна-гандлёваму развіццю тутэйшых тэрыторый. Асноўная вось гэтага шляху вяла з Фінскай затокі праз Волхаў і Дзвіну ў Дняпро і Чорнае мора. Імкнучыся замацавацца ў міжмор'і, варажскія князі са сваімі дружынамі будавалі ўмацаванні ў стратэгічных месцах, стараліся парадніцца з мясцовымі княжацкімі родамі або іх выцесніць. Славянскае насельніцтва ў большасці дярпіма адносілася да находнікаў, бо тыя па праву валадароў абараняли іх ад самавольства іншых варажскіх дружын і ад грабежніцкіх наездаў стэпавікоў-хазараў.

Так замацавалася на ўсходнеславянскіх землях княжацкая дынастыя Рурыкавічаў (дынастыя названа па імені варажскага князя Рурыка), якая ў хуткім часе славянізавалася. Створаная ёю ў IX — X стст. агромністая дзяржава пазней атрымала назву Кіеўская Русь. Аднак ва Усходняй Еўропе ў гэты час фвадальныя адносіны і рамесная вытворчасць яшчэ знаходзіліся ў маларазвітым стане. Таму Кіеўская Русь была няўстойлівым утварэннем, у якім княжацкая ўлада часам абмяжоўвалася тольКі зборам даніны прадуктамі лясных промыслаў, якія былі важнейшай часткай вывазу ў Візантыйскую імперыю.

Полацк упамінаецца ў паўлегендарных скандынаўскіх паданнях (сагах) у другой палове І тысячагоддзя. Ён замыкаў важнейшае адгалінаванне Балтыйска-Чарнаморскага шляху з Рыжскай затокі праз Дзвіну і здаўна быў сапернікам двум іншым гандлёва-палітычным цэнтрам на гэтым кірунку — паўночнаму Ноўгараду і паўднёваму Кіеву. Мабыць, таму практычна несупынным збройным змаганнем з гэтымі цэнтрамі, і асабліва з Кіевам, напоўнена гісторыя нашай старажытнай дзяржавы.

Ужо ў 862 г., па летапісных звестках, Рурык, умацаваўшыся на Наўгародчыне, пасылае ў Полацк свайго стаўленіка. Прыкладна ў гэты ж час спрабуюць захапіць Полаччыну і кіеўскія варажскія князі. У пачатку X ст. палачане на баявых караблях разам з узброенымі сіламі іншых славян і з варагамі робяць паходы на Візантыю.

Пад 980 г. летапісцы ўпершыню ўспамінаюць князя полацкай дзяржавы. Гэта быў Рагвалод. Ён прыйшоў «з-за мора» і меў скандынаўскае імя. Але, напэўна, нейкім чынам быў моцна звязаны з мясцовай знаццю і адстойваў інтарэсы палачан, бо апошнія пры ўсіх, нават самых складаных, сітуацыях падтрымлівалі свайго князя і яго нашчадкаў,

Існаванне ў цэнтры ўсходнеславянскага свету незалежнага і моцнага княства не задавальняла Рурыкавічаў, і яны рознымі спосабамі імкнуліся надначаліць яго сваёй уладзе. Адзін з іх, Уладзімір, што княжыў у Ноўгарадзе, намерыўся жаніцца з дачкой Рагвалода Рагнедай, спадзеючыся заручыцца падтрымкай палачан у барацьбе за кіеўскі пасад. Атрымаўшы адмову, Уладзімір, ведаючы вайсковы патэнцыял праціўніка, сабраў «воі многі» з варагаў, славян і чудзі (эстонцаў) і пайшоў вайной на Пола дк. Горад быў узяты штурмам і зруйнаваны, бацькі і браты Рагнеды забіты, а яна сама гвалтам узята за жонку. Знішчыўшы мужчынскую частку роду Рагвалода, князь-захопнік быццам атрымліваў нрава на ўсю паўночную Беларусь як на Рагнедзін пасаг і далучыў Полаччыну да сваіх уладанняў. Падзеі 980 г. сімвалічныя для ўсёй далейшай ысторый Беларусі. Шмат нотым прыходзіла няпрошаных «сватоў», што спрабавалі сілай зброі забраць наш край.

Менш чым праз дзесяцігоддзе палачанам удалося вярнуць незалежнасць сваёй дзяржавы. Летапісец піша, што гэта адбылося ў выніку спробы Рагнеды забіць нялюбага мужа, якая помсціла яму за смерць сям'і, за свой зганьбаваны гонар і за паняволенне Бацькаўшчыны. Па парадзе баярства Уладзімір не забівае жонку, а ссылав яе з сынам Ізяславам у новазбудаваны горад Ізяслаўль (цянерашняе Заслаўе). Ізяслаў потым займае дзедаў пасад у По ладку, аднаўляе мясцовую дынастыю і адбудоўвае горад-сталіцу пры ўтоку ў Дзвіну Палаты. Полаччына зноў заяўляе пра сябе.

Але Ізяслаў жыў нядоўга, і ў 1008 г. полацкім князем мы ўжо бачым яго малалетняга сына Ерачыслава.

Пра першыя два дзесяцігоддзі ўладарання новага князя летапісы маўчаць. Мабыць, налачане займаліся ў гэты час умацаваннем унутранага становішча дзяржавы, будавалі гарады, развівалі рамёствы і гандаль.

І толькі ў 1021 г. іх дружыны, узначаленыя Брачыславам, спрабуючы пашырыць межы Полацкага княства на поўначы, захопліваюць Ноўгарад. Праўда, гэтыя намаганні Полацка былі перапынены ўзброеным умяшаннем кіеўскага князя Яраслава Мудрага. І, як сведчаць пісьмовыя крыніцы, полацкае войска было разбіта. Аднак магутнасць княства з гэтай прычыны не была знішчана, і Яраслаў, баючыся ўвязвацца ў рызыкоўную вайну з Брачыславам і стараючыся прымірыцца з амбітным праціўнікам, аддае або вяртае захопленыя раней надзвычай важныя гарады на рачных волаках — Віцебск і Усвяты. Гэты набытак даваў палачанам магчымасць кантраляваць не толькі шлях па Дзвіне ў Балтыйскае мора, але і галоўны гандлёвы кірунак з Ловаці і Дзвіны на Дняпро.

Задаволіўшыся атрыманымі тэрыторыямі, Брачыслаў у далейшым не ўступаў ва ўзброеную спрэчку з Кіевам. Яго ўвага скіравалася на захад і паўночны захад. У далучаных землях з латышска-літоўскім насельніцтвам ён будаваў умацаваныя асяродкі поладкай каланізацыі, дэнтры па збору даніны і кіравання наваколлем, даючы ім часам уласныя назвы. Так узнік Брачыслаўль (сённяшні Браслаў), Браслаў і Браслава ва ўсходняй Латвіі. Не забывалася і паўднёвае парубежжа — непадалёку Воршы быў закладзены Браслаўль.

Такім чынам, у часы валадарства Брачыслава маладая беларуская дзяржава ўжо займала немалую тэрыторыю. Межы яе на поўдні заходзілі за Менск, на захадзе — за Заслаўль і Мядзіла (сённяшні Мядзел), на поўначы — ва ўсходнюю Латвію і за Усвяты, на ўсходзе — да Віцебска і Дняпра. Іншым беларускім землям у X і ў першых дзесяцігоддзях XI ст. лёс выпаў больш складаны. Уладзімір, часова захапіўшы Полаччыну і замацаваўшыся на кіеўскім пасадзе, захапіў землі радзімічаў, далучыў да сваіх уладанняў Тураўскае княства. Тое ж сталася і з дзяржаўным утварэннем смаленскіх крывічоў — княствам Смаленскім. Упартае супраціўленне кіеўскаму наступу аказвалі яцвягі і літва на Панямонні. Імкненне Кіева замацавацца на захадзе Беларусі абвастрыла яго саперніцтва з Полаччынай.

## ЗОРНЫ ЧАС СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ



*Усяслаў Полацкі з сынамі. Фрагмент мініяцюры з летапісу.*

У 1044 г. памёр Брачыслаў і полацкі княжацкі пасад заняў яго сын Усяслаў. Больш чым паўвекавое гаспадаранне Усяслава Полацкага, князя-чарадзея, якім лічылі яго сучаснікі і нашчадкі, было зорным часам старажытнабеларускай дзяржавы, перыядам яе найвялікшай магутнасці і славы.

Распачаўшы княжанне ў маладым узросце, Усяслаў, як раней і ягоны бацька, асноўную ўвагу засяродзіў на ўнутраным умацаванні дзяржавы, не ўступаючы пакуль што ў саперніцтва з моцным саюзам кіеўскіх князёў. Больш таго, разам з апошнімі ён у 1060 г. нават зрабіў паспяховы паход супраць качэўнікаў-торкаў. Магчыма, ва ўзнагароду за поспехі полацкіх вояроў у паўднёвых стэпах Полацк далучыў тэрыторыі на Падняпроўі, з гарадам! Воршай і Копыссю, чым быў замацаваны кантроль над Балтыйска-Чарнаморскім гандлёвым шляхам.



*Выява на мяркуемай пячатцы Усяслава Полацкага.*




*План Полацка XI ст.: 1 — першапачатковае гарадзішча; 2 — дзядзінец; 3 — вакольны горад; 4 — пасад; 5 — рэшткі старажытных умацаванняў; 6 — мяркуемыя лініі абароны;* **7 —** *курганныя могільнікі.*



*Бітва са стэпавікамі. Мініяцюра з летапісу.*



*Захоп кіеўскім войскам Менска і вывад мянян у палон. Мініяцюра з летапісу.*




*План гарадзішча першапачатковага Менска на р. Менка каля в. Гарадзішча Мінскага р-на.*



*Бітва на Нямізе. Мініяцюра з летапісу.*



*Усяслаў перапраўляецца праз Дняпро каля Воршы. Мініяцюра з летапісу.*





*Кіяне вызваляюць Усяслава Чарадзея з вязніцы — поруба. Мініяцюра з летапісу.*



*Наканечнікі стрэл, знойдзеныя пры раскопках гарадоў Полаччыны.*




*Прыкладныя межы старажытнабеларускай дзяржавы пры княжанні Усяслава Полацкага: 1 — Кукенойс; 2 — Ерсіка; 3 — Браслаў; 4 — Усвяты; 5 — Вільня; 6 — Мядзіла; 7 — Лоск; 8 — Стрэжаў; 9 — Гарадок; 10 — Заслаўе; 11 — Лагойск; 12 — Лукамль; 13 — Віцебск; 14 — Барысаў; 15 — Друцк; 16 — Ворша; 17 — Копысь.*

Важнейшым палітычным актам стала будаўніцтва ў сярэдзіне XI ст. Сафійскага храма ў Полацку, чым, па прыкладу Візантыйскай імперыі, падкрэслівалася незалежнасць і веліч дзяржавы, яе роўнасць з Ноўгарадам і Кіевам, дзе ўжо меліся такія ж бажніцы. Адначасова ішла падрыхтоўка і да ўзброенай барацьбы з праціўнікамі Полаччыны.

У 60-х гг. палітычная стабільнасць Кіева парушылася міжкняжацкімі ўсобіцамі. І гэта адразу ж выкарыстаў Усяслаў Чарадзей. У 1065 г. яго дружыны робяць паход на Пскоў, які, праўда, узяць не ўдалося, а ў наступным годзе бяруць штурмам і рабуюць Ноўгарад. Замадоўваючы перамогу, полацкі князь здымае з мясцовай Сафіі званы і вязе іх у свой стольны горад.

Захоп Усяславам Чарадзеем Ноўгарада азначаў далейшае ўмацаванне Полацка, з чым кіеўскія князі ніяк не маглі пагадзіцца. Вырашыўшы свае ўнутраныя супярэчнасці, у пачатку 1067 г. яны ўрываюцца ўсімі наяўнымі вайсковымі сіламі на паўднёвую ўскраіну Полацкай дзяржавы. Першай іх ахвярай стаў Менск — горад на Менцы непадалёку ад р. Пціч.

У вялікі холад кіеўскія дружыны падступілі к Менску. Яго жыхары, спадзеючыся на ўмацаванні і падмогу Усяслава, не падаліся ворагам. Але горад быў узяты, мужчынскае насельніцтва, што яшчэ не загінула на сценах пры аблозе, перабіта, а жанчыны і дзеці захоплены як ваенная здабыча.

Усяслаў, спехам сабраўшы дружыну, паспяшаўся на выратаванне мянян, але спазніўся. На ўсход ад Менска, на заснежаных узгорках пры Нямізе, дзесьці ў межах нашай сённяшняй сталіцы адбылася жорсткая і крывавая сеча між праціўнікамі. Войскі кіеўскіх князёў перамаглі.

Аднак Усяслаў не быў разгромлены канчаткова. Ён меў яшчэ дастаткова моцы, каб абараніць свае землі. Разумеючы гэта, кіяне рашылі дасягнуць перамогі вераломствам. Яны адступілі да Дняпра каля Воршы і прапанавалі полацкаму князю перамовы, пакляўшыся на крыжы, што не зробяць яму крыўды. Усяслаў паверыў. Ён несумненна памятаў, як у падобнай сітуацыі Кіеў дзеля прымірэння ўступіў ягонаму бацьку Віцебск і Усвяты. Але, як толькі полацкі князь, пакінуўшы дружыну, з сынамі пераплыў раку, ён быў схоплены, прывезены ў Кіеў і пасаджаны ў вязніцу — драўляны поруб.

Кіеўскія князі маглі святкаваць перамогу — зноў, як і ў часы Рагвалода, Полаччына засталася без князя і яго спадкаемцаў па мужчынскай лініі. Але нешта замінала клятваадступнікам знішчыць сям'ю Усяслава. Трынаццаць з паловай месяцаў пакутаваў у вязніцы князь з сынамі. І, здавалася, ніадкуль не было паратунку. Але гісторыя часам любіць рабіць падарункі сваім героям. У верасні 1068 г. кіеўскія князі пацярпелі сакрушальнае паражэнне ў бітве з полаўцамі, што з'явіліся на паўднёвых межах іх уладанняў. Гэты разгром, а мабыць, і ранейшая непапулярная палітыка вялікага князя Ізяслава выклікалі паўстанне кіян. Ізяслаў уцёк да польскага караля, а гараджане вызвалілі з поруба Усяслава і пасадзілі яго на велікакняжацкі пасад.

У наступным, 1069 г. Ізяслаў з польскай вайсковай дапамогай рушыў адваёўваць сваю спадчыну. Усяслаў, не чаісаючы рашаючага сутыкнення з праціўнікам, пакідае Кіеў і вяртаецца ў родны Полацк. І тут загадка. Чаму полацкі князь, чалавек несумненна мужны, «нялітасцівы на кровапраліцце», не паспрабаваў, калі не перамагчы, то хоць бы аслабіць рукамі кіян у бітве сілы сваіх ворагаў? Хіба ён мог спадзявацца, што яму даруецца захоп кіеўскага пасада?

Так яно і сталася. Расправіўшыся са сваімі праціўнікамі ў Кіеве, Ізяслаў пасылае палякаў і частку ўласных войскаў руйнаваць і рабаваць Полаччыну. Усяслаў, не маючы дастатковых сіл для супраціўлення, адыходзіць да ўзбярэжжа Фінскай затокі, дзе ўздымае паўстанне сярод залежнага ад Ноўгарада фінскага племені водзь. Разам з паўстаўшымі ён затым спрабуе захапіць Ноўгарад, але церпіць паражэнне.

І ўсё ж, нягледзячы на гэтыя, хоць і значныя, няўдачы, апіраючыся на нязменную падтрымку палачан, Усяслаў у хуткім часе выганяе кіеўскага стаўленіка з Полацка і аднаўляе дзяржаву.

У 1071 г. ён зноў удзельнічае ў бітве з кіеўскімі войскамі. І хоць летапісец распавядае пра паражэнне палачанаў, аднак гэта з'яўляецца, безумоўна, перабольшаннем, бо з Усяславам пачаліся перамовы, у выніку чаго сын полацкага князя быў заручаны з унучкай князя кіеўскага.

Такое парадненне павінна было спрыяць замірэнню паміж дзяржавамі. Але на працяглы час гэтага не сталася. Аб'яднаныя войскі агрэсіўных суседзяў па-ранейшаму пустошаць поладкія землі, знішчаюць гарады, адзін час трымаюць у аблозе нават сам Полацк. Асабліва цярпела паўднёвае і паўднёва-ўсходняе памежжа Полаччыны. Так, адзін з кіеўскіх князёў, Уладзімір Манамах, хваліўся, што ў 1084 г. у Менску «не пакінуў ні скаціны, ні чалядніка, усё разграбіў і папаліў». Магчыма, гэтае вынішчэнне горада і стала прычынай, што яго ўцалелыя нешматлікія жыхары не сталі вяртацца на зглішчы, а перанеслі пасе-лішча на зручнае месца, на бераг суднаходнай Свіслачы пры ўпадзенні ў яе р. Нямігі, дзе сёння размяшчаецца старажытнейшая частка нашай сталіцы.

Палачане ў сваю чаргу адказвалі паходамі на Наўгарод-чыну, на Смаленск.

Не прабіўшыся да Балтыйскага мора праз Ноўгарад, нашы продкі гэта здзейснілі Дзвінскім шляхам. І такое магло здарыцца толькі ў часы росквіту Полацкай дзяржавы. пры Усяславе. Яшчэ праз стагоддзе пасля смерці князя-чарадзея ў сярэднім Падзвінні захоўваліся ўладанні нашчадкаў Полацкай дынастыі, а жыхары ўзбярэжжа Рыжскай затокі плацілі Полацку даніну. Мабыць, пры Усяславе палачане пачалі актыўную каланізацыю і па цячэнні Віліі — да Вільні, а таксама на Верхняе Панямонне.

Такім чынам, пры Усяславе Чарадзеі Полацкая дзяржава дасягнула найвялікшай магутнасці і вяцікіх памераў. У яе склад уваходзілі не толькі славянскія (беларускія) тэрыторыі, але і латышскія, і літоўскія. Таму, зважаючы на поліэтнічны склад Полацкага княства, гэту дзяржаву, створаную вялізнымі намаганнямі йашых продкаў у амаль безупыннай крывавай барацьбе з Кіевам, некаторыя гісторыкі лічаць міні-імперыяй.

Усяслаў Полацкі, гэты нязломны змагар за незалежнаець і ўмацаванне старажытнабеларускага гаспадарства, памёр у 1101 г. Кіеўскі летапісец, які з неаслабнай пільнасцю сачыў за князем-чарадзеем, занатаваў гэта з нязвыклай доклад-насцю: «месяца апрыля, в 14 день, в 9 час дня, в среду».

## НА РАЗДАРОЖЖЫ



*Менская надбрамная вежа. Варыянт рэканструкцыі.*

Усяслаў Полацкі, які пражыў доўгае і бурлівае жыццё, пакінуў пасля сябе шматлікіх нашчадкаў, сярод якіх, па летапісных звестках, толькі сыноў было не менш як шэсць. Па тагачаснай завядзёнцы, старзючы князь падзяліў сваё ўладарства на ўдзелы і замацаваў іх за сынамі, аддаючы, зноў жа згодна традыцыі, галоўны полацкі пасад старэйшаму.

Першым часам, выконеаючы волю памерлага бацькі, Усяславічы былі заадно і слухаліся князя Полацка. Але такое працягвалася нядоўга. І галоўнай прычынай тут было тое, што да XII ст. Полацкая дзяржава дасягнула даволі высокага гаспадарчага ўзроўню. Развівалася сельская гаспадарка, рамяство. Старыя і новастворaныя гарады паступова робяцца важнымі рамесна-гандлёвымі цэнтрамі вялікіх акруг. Нашчадкі Усяслава, трапляючы ў такія акругі, станавіліся ўдзельнымі князямі і з часам знаходзілі падтрымку сваім незалежніцкім памкненням сярод мясцовага насельніцтва. Паміж Усяславічамі пачынаецца саперніцтва, праяўляецца жаданне да пераразмеркавання ўдзелаў, да змены межаў паміж імі. Усё гэта, у канчатковым выніку,



*Кіеўскае войска пад Менскам. Мініяцюра з летапісу.*




*Наступ войска кіеўскіх князёў на Полаччыну ў 1127 г.*



*Знаходкі з раскопак старажытнага Друцка: кавальскі малаток, абцугі, напільнік, долата, абломак пілы.*



*Перамовы заслаўцаў з кіеўскім войскам. Мініяцюра з летапісу.*



*Княжацкая пячатка бацькоў Ефрасінні Полацкай.*



*Касцяныя грабяні са старажытнага Лукамля.*



*Знаходкі з раскопак старажытнага Лагойска; ключ ад замка, наканечнікі стрэл і кап'я, бранзалет, спражка.*



*Знаходка з Лукамля: касцяная аздоба.*

падрывала палітычную еднасць Полаччыны. Хаця трэба адзначыць, што ў выпадку знешняй небяспекі яе князі, як правіла, выступалі адзінай сілай.

А час для нашых продкаў наступаў складаны.

Даведаўшыся пра смерць магутнага полацкага князя Усяслава Чарадзея, пачалі адпадаць ад дзяржавы некаторыя плямёны Панямоння і Прыбалтыкі. Відаць, каб аднавіць іх залежнасць і па-ранейшаму збіраць даніну, палачане распачынаюць туды свае збройныя паходы. Супакаенне яцвягаў, зняеіленых частымі нападамі кіеўскіх ды польскіх князёў, не вымагала асаблівых высілкаў. Для гэтага было дастаткова паходу ў 1102 г. адной княжацкай дружыны. А вось падзеі ў Земгаліі і, па некаторых звестках, у Латгаліі, гэта значыць у цэнтральнай і ўсходняй Латвіі, паграseverжалі стратай Ніжняга Падзвіння і выхаду ў Балтыйскае мора. Тут ужо ўсе Усяславічы, аб'яднаўшыся, у 1106 г. рушылі на земгалаў. Аднак паход закончыўся няўдачай. Праўда, пазней Полаччыне ўдалося аднавіць сваю ўладу ў Прыбалтыцы.

Раздрабленне Полаччыны актыўна спрабаваў выкарыстаць Кіеў, імкнучыся пазбавіць яе незалежнасці і падначаліць сабе. Праз усё XII ст. ішла напружаная барацьба Усяславічаў з кіеўскімі і саюзнымі ім князямі. Асноўны цяжар гэтага змагання выпаў на паўднёвую ўскраіну старажытнабеларускай дзяржавы, дзе сфарміраваўся моцны Менскі ўдзел на чале з ваяўнічым князем Глебам.

Ужо на трэці год пасля смерці Усяслава пад сцены Менска на Свіслачы падыходзяць дружыны кіеўскіх князёў. Аднак іх аб'яднаныя сілы не мелі поспеху і пакінулі Меншчыну без славы. У 1116 г. сам вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах разам са смаленскімі, чарнігаўскімі і пераяслаўскімі дружынамі распачынае паход на Глеба Менскага. Спачатку яны разрабавалі Друцк, а яго жыхароў вывелі на Пераяслаўшчыну. Праз дзесяць дзён пасля падзення Друцка, калі вайсковая моц Меншчыны ўжо была аслаблена, кіеўскі князь падступіў да Менска і, не могучы штурмаваць добра ўмацаваны горад, пачаў рыхтавацца да зацяжной зімовай аблогі. Глеб, мусіць, не меў дастатковых запасаў харчу, каб доўга абараняць горад, і папрасіў у Манамаха замірэння. Аднак у 1119 г. кіяне зноў пад Менскам.

Горад быў захоплены, а сам Глеб вывезены ў Кіеў, дзе неўзабаве і скончыў сваё жыццё ў вязніцы.

Пасля смерці Уладзіміра Манамаха полацкія князі, відавочна, спрабавалі вярнуць страчаныя пазіцыі на сваіх паўднёвых і паўднёва-ўсходніх рубяжах. Гэта прывяло да новага абвастрэння адносін з Кіевам, і ў 1127 г. сфарміравалася вялізная антыполацкая кааліцыя. Каля дзесятка князёў з дружынамі, а таксама цюркі-стэпавікі выступілі на паўднёвыя гарады Полаччыны. Смаленскі князь ішоў на Друцк. Наўгародцы павінны былі ўдарыць з поўначы. Пасля захопу і разрабавання Заслаўя, Лагойска, Барысава аб'яднаныя войскі збіраліся пайсці на Полацк. Аднак, як і ў мінулым стагоддзі, гэтага не адбылося. Пачаліся перамовы, і палачане, абавязаўшыся на словах быць саюзнікамі Кіева, выратавалі значную частку сваіх зямель ад руйнавання Хутка, аднак, дамовы парушыліся (палачане адмовіліся ісці разам з кіянамі на полаўцаў) і большасць Усяславічаў у 1129 г. разам з сем'ямі была выслана да візантыйскага імператара, які быў шваграм кіеўскага князя. Полаччынай жа сталі кіраваць стаўленікі Кіева.

Аднак не доўга цешыўся Кіеў сваёй перамогай. Праз два гады полацкае веча — важнейшы на той час орган самакіравання горада і яго акругі, маючы моцную падтрымку літоўскіх і латышскіх плямёнаў, выганяе чужынцаў і аднаўляе ў гаспадарстве спрадвечную полацкую дынастыю.

У другой палове XII ст. Полацкая зямля, з колькасным ростам дынастыі, усё больш распадаецца на ўдзелы, у тым ліку і зусім дробныя. З аслабленнем княжацкай улады важнейшае значэнне набывае веча, якое існавала ў большасці, калі не ва ўсіх, гарадоў краю.

## ПРЫ ПОЛАЦКІМ ПАМЕЖЖЫ



*Знаходкі са старажытнага Турава: частка восцяў, касцяная лыжка, шпілька, пярсцёнак, нож з касцяной ручкай.*

У XII ст. пачынаюць вызваляцца з-пад кіеўскага панавання беларускія землі па Дняпры, Прыпяці і на Панямонні.

Доўгі час не магло набыць поўнай самастойнасці Турава-Іхінскае княства, якое займала большую частку паўднёвай Беларусь Нарэшце, у 1158 г. пасля 10-тыднёвай пасяховай абароны Турава ад войскаў Кіева фактычна завяршылася барацьба гэтага княства за незалежнасць. На суседнім Панямонні выдзеліліся Гародзенскае, Навагародскае і Ваўкавыскае княствы. Берасцейшчына — крайні паўднёвы захад Беларусі — у XII ст. знаходзілася часткова ў намінальнай залежнасці ад галіцка-валынскіх князёў. Праўда, на валоданне Берасцем час ад часу прзтэндавалі і князі тураўскія, а таксама мазавецкія з усходняй Польшчы.

На ўсходзе Беларусі прыкладна з сярэдзіны XI ст.



*Зброя і рыбацкія прыстававанні са старажытнага Ваўкавыска.*



*Форма для адліўкі ўпрыгожання з Гародні. XII ст.*

ужо існавала Смалянскае княства. Асабліва яно ўзмацнела пры валадарстве князя Расціелава. Смаленшчына непасрэдна звязвала паўднёвыя землі дзяржавы Рурыкавічаў з Наўгародчынай. Па гэтай прычыне яна пастаянна знаходзілася над пільнай увагай Кіева. Аднак інтарэсы мясцовай рамеснай і гандлёвай знаці і ў пэўным сэнсе большасці насельніцтва краю вялі да складвання незалежніцкіх памкненняў, якія ўрэшце і прывялі да самастойнасці. У другой палове XII ст. смаляне нават пачынаюць сапернічаць з палачанамі за вяршэнства на беларуекім Падзвінні.

Палітычная раздробленасць не перашкаджала, а нават садзейнічала эканамічнаму і культурнаму развіццю зямель Беларусь Зараз кожная з іх, што дамагалася самастойнасці, імкнулася мацаваць сваю гаснадарчую і духоўную роўнасць з Полацкам і Кіевам. Гэта вяло да актывізацыі ўсіх бакоў жыцця ва ўдзельных княствах старажытнабеларускай дзяржавы.

## НА СЯЛЯНСКІМ ПАДВОРЫШЧЫ І ЗА СЦЕНАМІ ГАРАДОЎ



*Скарб сярпоў і наральнікаў са старажытнай Гародні.*

Фарміраванне і развіццё старажытнабеларускай дзяржавы суправаджалася прыкметнымі поспехамі ў гаспадарчым і культурным жыцці. Аснову тагачаснай сельскай гаспадаркі складалі ворыўнае земляробства з двухполлем, а месцамі і трохполлем, і жывёлагадоўля. Сеялі найбольш жыта, пшаніцу і ячмень. Вырошчвалі таксама авёс, лён, каноплі, грэчку, бабовыя, разнастайную гародніну і садавіну. У статках меўся поўны набор свойскіх жывёл, тыповы для ўмеранай зоны Еўропы. Істотнай крыніцай мясной ежы, асабліва для княжацкай дружыны, было і паляванне. Жыхары ўзбярэжжаў рэк і азёр займаліся рыбацтвам. Існавалі вясковыя рамёствы і промыслы — бортніцтва, апрацоўка скур, дрэва, ткацтва, здабыча крычнага жалеза з балотнай руды, кавальства.



*Наземнае зрубнае жытло і паўзямлянка. Рэканструкцыя.*





*Вышытыя стылізаваныя выявы барановых рагоў на скураным абутку беларускіх гараджан.*



*Шахматная фігурка з Лукамля.*



1



2

*Грошы часоў Полацкага княства; беларуская (1) і кіеўская (2) сярэбраныя грыўні.*



*Бронзавая пазалочаная падвеска XI ст. Наваколле Заслаўя.*

Цэнтрамі рамяства і гандлю ў Полацкую эпоху сталі гарады. Пісьмовыя крыніцы налічваюць іх на Беларусі каля пяці дзесяткаў. Яны, як правіла, складаліея з дзядзінца — галоўнага ўмацавання, дзе жылі князі, гарадская знаць, дружына, і пасада — месца пасялення рамеснікаў і гандляроў. У гарадах былі развіты рамёствы — жалезаапрацоўчае, ювелірнае, ганчарства, ткацтва і г. д. Горад пастаўляў сельскай акрузе прадукты сваёй вытворчасці ў абмен на сельскагаспадарчыя. Акрамя таго, гандляры гандлявалі і з аддаленымі краінамі. Вывозілі пушніну, мёд, воск. На нашыя землі траплялі ўпрыгожанні, віно, прадметы раскошы, сталёвыя мячы, шкляны посуд, каштоўныя каляровыя тканіны.

На ранніх этапах існавання Полацкай дзяржавы найбольш распаўсюджанымі грошамі былі арабскія сярэбраныя манеты — дырхемы. У часы Брачыслава на Беларусь пачынаюць пранікаць заходнееўрапейскія манеты. З наступленыем фвадальнай раздробленасці за грошы былі пераважна сярэбраныя зліткі — грыўні. Сродкам плацяжоў былі і шкуркі пушных звяроў.

Аднак калі разглядаць эканамічнае развіццё краю ў цэлым, то на Беларусі ў IX-XII стст. яшчэ панавала натуральная гаспадарка, асабліва ў сельскай мясцовасці. Кожная сям'я або сельская абшчына старалася абыходзіцца ўсім самаробным.

Да прыняцця хрысціянства ў краі дамінавала язычніцкая народная культура, непарыўна звязаная са спрадвечнымі мясцовымі традыцыямі, што сфарміраваліся ва ўмовах шматвяковага быцця сярод азёрна-лясной прыроды Цэнтральнай Еўропы. Асноўнымі формамі выяўлення чалавечага духу былі паданні, казкі, быліны, міфічная гісторыя багоў і народа, а таксама танцавальная музыка, песні, разнастайныя рэлігійна-культавыя наказы.

Прыкладное мастацтва найбольш праяўлялася ва ўпрыгожаннях і арнаментаванні, выяўленчае — у скульптурных драўляных або каменных выявах язычніцкіх багоў.

## СВЯТЛО НОВАЙ ВЕРЫ



*Язычніцкая культавая фігурка з косці, якая адлюстроўвае сістэму дахрысціянскага светапогляду беларусаў (чарапаха, знак сонца з крыжам, дрэва жыцця і вечнасці, нябесная сфера). Лукамль.*

Кіеў хрысціўся ў 988 г. Трохі пазней пачалася хрысціянізацыя і Беларусь Гэта прывяло да пашырэння на нашых землях значнага пласта хрысціянска-міжземнаморскай культуры, напачатку чужой славянскаму характару і традыцыям. Распаўсюджваецца адзінабожжа, каменнае дойлідства, пісьменнасць, іканаграфія, кніжная графіка, філасофія. Святары з Грэцыі і Балгарыі прынеслі цяжка зразумелую кніжную царкоўнаславянскую мову. Аднак творчае засваенне хрысціянскай культуры мела для Беларусі вялікае значэнне. Праз яе наша Бацькаўшчына ўвайшла ў еўрапейскую цывілізацыю.



*Гліняная іконка «Канстанцін і Алена» XII ст. з Полацка.*



*Храм Святой Сафіі ў Полацку. Сярэдзіна XI ст. Рэканструкцыя.*



*«Рагвалодаў камень» з-пад Воршы. XII ст.*



*Крыж Ефрасінні Полацкай.*



*Надпісы на праселках з Віцебска і Друцка.*

*Пісьмо на бяросце з Віцебска.*



*Пісалы для пісьма на васкаваных дошчачках.*



*Фрэска Спаскай царквы. XII ст. у Полацку.*

Царкоўна-кніжная мова стала своеасаблівай усходнееўрапейскай «латынню», якой разумеліся між сабою адукаваныя людзі розных народаў — ад Адрыятыкі да ўзбярэжжаў Фінскай затокі і Белага мора.

Маюцца сведчанні ранняга распаўсюджання пісьменнасці на Беларусь Гэта — свінцовая пячатка князя Ізяслава з надпісам (X ст.), а таксама надпіс на глінянай пасудзіне з курганоў пад Смаленскам. Да XI ст. адносіцца цэгла-плінфа з Полацка з надрапанымі імёнамі некаторых будаўнікоў Сафійскага храма. У іх напісанні праз кананічную царкоўнаславяншчыну ўжо прабіваюцца элементы беларускай народнай гаворкі. Ад XII ст. сведчанняў пісьменнасці захавалася значна больш — пісалы, надпісы на разнастайных рэчах, аповесці, граматы князёў, запісы на бяросце, царкоўная і перакладная літаратура.

Вядомы імёны выдатных тагачасных кніжнікаў і асветнікаў — Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча. Зоркай нершай велічыні на небасхіле старабеларускай культуры была Ефрасіння Полацкая (1120? — 1173 гг.). Дачка князя, яна адмовілася ад выгодаў свецкага заможнага жыцця, пастрыглася ў манашкі і стала асветніцай палачан. Яна памнажала кніжнасць у сваім народзе, стварыла школу перапісчыкаў, была апякункай мастакоў і дойлідаў, стала адным з нашых першых падарожнікаў, зрабіўшы паломніцтва ў Ерусалім. Беззаганнасць, дабрачыннасць і самаадданасць у служэнні Бацькаўшчыне і царкве сталі падставай для яе пасмяротнай кананізацыі. Зараз святая Ефрасіння Полацкая — заступніца Беларусь

Помнікі архітэктуры — найбольш прыкметнае сведчанне ўзроўню культуры. Першыя хрысціянскія цэрквы на Беларусі, як раней бажніцы на язычніцкіх капішчах, былі драўляныя. Але ўжо ў сярэдзіне XI ст. у Полацку ўзводзіцца храм Святой Сафіі — велічная шматкупальная мураванка з вялікапамернай цэглы-плінфы. Наступнае стагоддзе характэрнае росквітам будаўнічай справы. Узнікаюць мясцовьш арцелі дойлідаў, якія ад капіравання візантыйска-балгарскіх узораў перайшлі да іх творчага пераўвасаблення, ствараючы мясцовы архітэктурны стыль. Зараз кожны горад — цэнтр фвадальнага ўладання імкнецца мець свае мураваныя бажніцы.

Узводзяцца культавыя будынкі ў Віцебску, Ваўкавыску, Навагародку, Тураве, Мсціславе. У Гародні на гэты час маюцца ўжо тры мураваныя царквы, у тым ліку і сёння добра вядомая Каложская, у Полацку і блізкім наваколлі — каля дзесятка, у Смаленску — больш за дваццаць цэркваў.

Сцены святыняў упрыгожваліся роспісамі. Сярод іх асабліва выдзяляліся каляровыя фрэскі з выявамі святых, якія часткова захаваліся да нашых дзён у Спаса-Ефрасіннеўскай царкве ў Полацку. Несумненна, былі вядомы і жывапісныя іконы на дошках. Святары і багацейшыя вернікі мелі барэльефныя іконкі з гліны, каменю і косці, ювелірна апрацаваныя крыжы. Цудоўнейшым помнікам старажытнабеларускага прыкладнога мастацтва XII ст. з'яўляецца крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены майстрам Лазарам Богшам.

Пры цэрквах і асабліва манастырах навучалі грамаце, перапісвалі кніжкі, месцамі вялі і летапісы.

## СПРАЎДЖАНАЕ НАКАНАВАННЕ

З сярэдзіны І тысячагоддзя н. э. у нашым краі фарміраваўся феадальны грамадскі лад і складвалася фвадальная дзяржаўнасць. Асноўным багаццем здаўна была зямля. Хто меў яе, той і панаваў. У першабытныя часы не было прыватнай уласнасці на зямлю, ёю валодалі супольна родамі і плямёнамі, але карысталіся, апрацоўвалі яе сем'ямі. Плён такіх намаганняў станавіўся асабістай, прыватнай уласнасцю працаўнікоў.

Ускладненне жыцця грамадства, і асабліва гаспадарчага, вяло да складвання дзяржавы. Яе першымі правіцелямі станавіліся звычайна самыя паважаныя прадстаўнікі родавай арыстакратыі. Лепшыя з іх выбіраліся на агульных сходах племяннымі князямі. З часам узнікла завядзёнка выбару князя з пэўных родаў. Так паступова звычай ператвараўся ў правіла і ўзнікалі княжацкія дынастыі. На Беларусі найбольш вядомая была дынастыя Рагвалодавічаў-Усяславічаў, да якой належалі ўсе полацкія князі.

Пры ўзнікненні дзяржавы зямля не стала прыватнай уласнасцю сялян. Калі раней яна была агульнай для ўсяго роду і племені, то зараз стала належаць дзяржаве. А паколькі ўвасабленнем дзяржавы, яе галавой зараз стаў князь, то і сапраўдным распарадчыкам зямлі, яе ўласнікам таксама зрабіўся ён.

Каб кіраваць дзяржавай, асабліва вялікай, мацаваць яе, неабходны былі адпаведныя ўстановы і «службоўцы». Для ўпраўлення тэрыторыямі і вырашэння розных пытанняў у князя былі баяры — колішняя родавая знаць. Абаронай дзяржавы займалася войска — княжацкая дружына. Яе ўзначальваў сам князь або яго сыны. У ваенных дзеяннях прымалі ўдзел і баяры. Князі, баярства і дружыннікі складалі клас фвадалаў. Менавіта на іх ляжаў цяжар упарадкавання і абароны дзяржавы. Фвадаламі былі і буйнейшыя святары.

Сяляне, як правіла, не ішлі на вайну, аднак яны павінны былі карміць і апранаць фвадалаў. З сялян збіралі даніну — частку плёну іх працы, змуніалі да розных работ, асабліва па будаўніцтву ўмацаванняў. Князь сваіх баяр і дружыннікаў «для кармлення» надзяляў землямі з сялянамі, якія пасля паступова рабіліся залежнымі — прыгоннымі. Багацейшыя баяры за службу давалі землі і сялян больш дробным фвадалам.

Гэту піраміду ўладароў трымалі на сваіх плячах не толькі сяляне, але і гараджане — рамеснікі і купцы. Яны павінны былі плаціць князю грошы, пастаўляць тавары, спадзеючыся, са свайго боку, што ўлада будзе абараняць гарады ад варожых нападаў, забяспечыць умовы для мірнай працы.

Аднак такая пленная ўзаемазалежнасць розных класаў і груп фвадальнага грамадства нярэдка парушалася, асабліва з боку фвадалаў. Выкарыстоўваючы ўзброеную моц, яны часам вымагалі ад сялян і гараджан значна большага, чым патрабавалася для нармальнага функцыяніравання дзяржавы. Хаця трэба зазначыць, што свавольству князёў і баярства нярэдка супрацьстаяла веча — агульны сход гараджан і прадстаўнікоў сельскай акругі. Веча абмяжоўвала ўладу князя сваімі пастановамі, магло не даць сродкаў на вядзенне вайны, мела права прагнаць непажаданага правіцеля і паклікаць на яго месца іншага феадала.

Мудрай прыродай кожнаму чалавеку закладзены інстынкт самазахавання і працягу роду. Гэта ж да дзена і чалавечым супольнасцям — народам. Яны імкнуцца зберагчы сваю самабытнасць між іншымі народамі, забяспечыць сваю гістарычную будучыню. Такое можна здзейсніць у арганізаванасці, вышэйшай формай якой з'яўляецца дзяржава. Без дзяржавы народ немінуча трапляе ў падначаленне суседнім мацнейшым супольнасцям і рана ці позна памірае духоўна, знікае зусім.

Старажытныя беларусы здзейснілі гістарычнае наканаванне. Ступіўшы ў сярэдзіне І тысячагоддзя на шлях дзяржаватворчасці, пазней яны стварылі магутнае гаспадарства сярэднявечча — Полацкае княства.

## СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ

У суровы ледавіковы час прыйшоў чалавек на зямлю Беларусі. Але выстаяў пад сіберным ветрам, не зламаўся. Перамог працай і розумам. З часам густа засяліў краіну, раскарчаваў пушчы пад раллю, пасадзіў сады. Збудаваў вёскі і гарады.

Лесам было суджана беларускаму народу замацавацца ў цэнтры Еўропы, на водападзелах Балтыйскага і Чарнаморскага басейнаў, пры мяжы Усходу і Захаду. Таму, пакуль існуе жывое на Зямлі, нам засяляць гэтыя лагодныя ўзгоркі і шырокія раўніны, цешыцца зелянінай лясоў і блакітам азёр пад жаўруковым небам.

Што б ні здарылася, нам няма куды адступаць, бо ўвесь свет падзелены і абжыты іншымі народамі. Таму мы будзем на Беларусі вечна. Будзем араць тут і сеяць, нараджацца і ў свой час класціся ў яе цёплую зямлю побач з ценямі продкаў. Будзем берагчы Бацькаўшчыну і Дзяржаву.

## ГАЛОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў СТАРАЖЫТНЫМ МІНУЛЫМ БЕЛАРУСІ

100-5 тыс. гадоў назад[1] — каменны век на тэрыторыі Беларусі.

100-40-35 тыс. гадоў назад — сляды знаходжання першых людзей (неандэртальцаў) на тэрыторыі Беларусі

26-23 тыс. гадоў назад — час існавання на паўднёвым усходзе Беларусі даўгачасных паселішчаў людзей познепалеалітычнага часу (краманьёнцаў).

19-18 тыс. гадоў назад — ледавік займае паўночную Беларусь, наш край робіцца непрыдатным для чалавека.

12-11 тыс. гадоў назад — Беларусь у самым канцы ледавіковай эпохі зноў пачала засяляцца першабытным чалавекам.

7—6 тыс. гадоў назад — на Беларусі ўсталёўваецца найбольш цёплы (за ўвесь час існавання тут чалавека) клімат.

6 тыс. гадоў назад — пачатак новага каменнага веку (неаліту), чалавек на Беларусі навучыўся ляпіць гліняны посуд.

5 тыс. гадоў назад — старажытныя жыхары Беларусі пачалі займацца земляробствам і жывёлагадоўляй.

пачатак II тысячагоддзя да н. э.— знаёмства нашых продкаў з меднымі і бронзавымі вырабамі, пачатак бронзавага веку на Беларусь

IV — VI стст. да н. э. — насельніцтва Беларусі авалодвае спосабамі здабычы жалеза, пачатак жалезнага веку.

VI ст. н. э. — пачатак сярэднявечнага перыяду ў беларускай гісторыі, з'яўленне несумненна славянскіх паселішчаў на Прыпяці.

VI — VIII стст. — пачатак інтэнсіўнай славянізацыі асноўнай тэрыторыі Беларусі, складванне ўмоў для фарміравання старажытнабеларускага народа.

VII — X стст. — існаванне на Беларусі саюзаў летапісных славянскіх плямёнаў крывічоў, драгавічоў і радзімічаў.

862 г. — першыя летапісныя звесткі пра Полацк.

980 г. — летапісныя звесткі пра першага беларускага князя Рагвалода ў Полацку.

---

[1] У асобных публікацыях могуць трапіцца некалькі іншыя даты, чым у нашай храналагічнай табліцы. Гэта тлумачыцца недакладнасцямі ў пісьмовых крыніцах і цяжкасцямі дакладнага датавання, асабліва па першабытнаму перыяду

983 г. — першае ўпамінанне ў летапісах яцвягаў.
канец X ст. — хрысціянізацыя Беларусі.
пасля 988 г. — княжанне ў Полацку Ізяслава — унука Рагвалода.
1003-1044 гг. — княжанне ў Полацку Брачыслава Ізяславіча.
1009 г. — першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах літоўскіх плямёнаў.
1044-1101 гг. — княжанне ў Полацку Усяслава Брачыславіча (Чарадзея), росквіт старажытнабеларускай дзяржавы.
1050-1055 гг. — будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора, увасабленне незалежнасці і велічы Полаччыны.
1066 г. — захоп Усяславам Чарадзеем Ноўгарада.
1066 г.— бітва на Нямізе, першыя летапісныя звесткі пра Мінск (Менск, Меньск, Менеск).
1068—1069 гг. — Усяслаў Чарадзей займае кіеўскі велікакняжацкі пасад.
пачатак XII ст. — войны полацкіх князёў за аднаўленне свайго панавання ў Прыбалтыцы. каля 1120-1173 гг. — жыццё і асветніцкая дзейнасць святой заступніцы Беларусі Ефрасінні Полацкай.
1162 г. — стварэнне Лазарам Богніам беларускай святыні — крыжа Ефрасінні Полацкай.
1158 г. — вызваленне Тураўскага княства з-пад панавання Кіева.
865, 980, 983, 1021, 1022, 1038, 1044, 1065-1071, 1076-1078, 1084, 1101, 1104, 1112, 1116-1119, 1121, 1127-1130, 1132, 1133, 1137-1140, 1142, 1146, 1158, 1162. 1170-1172,1196,1205 гг — зафіксаваныя ў летанісах войны на, шых продкаў з кіеўскімі князямі ў Полацкую эпоху.

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ ДАДАТКОВАГА ЧЫТАННЯ

Арлоў У. А. Асветніца з роду Усяслава. Мн., 1989.

Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.

Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь. XIолацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

Загорульскый Э. М. Древняя ысторыя Белоруссыы. Мн., 1977.

Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусь Мн., 1991.

Нарысы гісторыі Беларусь Частка І. Мн., 1994.

Сто пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусь Мн., 1993.

Тарасаў С. В. Чарадзей сёмага веку Траяна. Мн., 1991.

Чарняўскі М. М. З глыбінь тысячагоддзяў. Мн., 1978.

Чарняўскі М. М. Бронзавы век на тэрыторыі Беларусь Ме., 1981.

Штыхаў Г. В. Ажываюць сівыя стагоддзі. Мн., 1982.

Штыхов Г. В., Лысенко П. Ф. Древнейшые города Белоруссыы. Мн., 1966.

З М Е С Т

